№8 (971) 2 жніўня 2017

www.nn.by

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

# Наша Ніва

16+

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць раз на месяц, у першую сераду

# Рабі немагчымае

АЛЯКСАНДР КАНДЫБА/РОК ЗА БОБРОВ

**22 ліпеня на аэрадроме «Баравая» прайшоў фестываль «Рок за Баброў». Хэдлайнерамі канцэрта былі Brutto, «Каста» і «Чайф». Паводле ацэнак арганізатараў, фестываль наведала больш за 25 тысяч гледачоў. Але галоўным героем фэсту сталі не музыкі, а звычайны слухач у інвалідным вазку, якога ўзнялі над сабой натоўп і гайдаў на руках. Фоты гэтага чалавека, зробленыя Аляксандрам Кандыбам, імгненна распаўсюдзіліся па сацсетках.**

# 500 гадоў…

У 1517 годзе Скарына выпусціў свае першыя кнігі.



**Як ад нараджэння звяры, што ходзяць у пустыні, ведаюць ямы свае; птушкі, што лётаюць у паветры, ведаюць гнёзды свае; рыбы, што плаваюць па моры і ў рэках, чуюць віры свае; пчолы і ім падобныя бароняць вуллі свае, — так і людзі, дзе нарадзіліся і ўскормлены, да таго месца вялікую ласку маюць…**

### Ад рэдактара

Мы народ з вялікай гісторыяй — гэтыя словы самі сабой прыходзяць у галаву, калі думаеш пра Скарыну. 500 гадоў таму ён надрукаваў першую кнігу. Гэтай кнігай была Біблія. Ён хацеў, каб людзі Беларусі жылі па Божых прыказаннях. Унікальны быў чалавек — такіх, як ён, была, можа, якая сотня за ўсю гісторыю Еўропы: друкар, мастак, лекар, пісьменнік адначасова.

Побач з намі таксама жывуць людзі цікавыя і самаадданыя. Хто ведае, можа, праз 500 гадоў кагосьці з іх будуць ставіць нароўні са Скарынам. У гэтым выпуску «Нашай Нівы» вы прачытаеце пра кагосьці з такіх.

Ігар Случак — бясстрашны абаронца беларускай мовы, які дабіваецца роўнага статусу для яе ва ўсіх сферах **(старонка 6)**.

Павел Батуеў — электрык, што пяць гадоў адпрацаваў на Ямале. Як жа цікава ён расказвае пра Поўнач **(старонка 12)**!

Алеся Чонг — заўзятая падарожніца, якая дабралася да такой далечы на Мадагаскары і Інданезіі, дзе яшчэ беларусы не бывалі **(старонка 14)**.

Аляксей Шэін, які каціўся ў алкагалізм, але апаматаваўся, кінуў піць і гадуе трох разумных сыноў **(старонка 17)**.

Чарговы дзённік — поўныя светлага гумару запісы Паўла Холада, бацькі пяці дзяцей **(старонка 22)**.

Зміцер Панкавец, якога вы ведаеце як назіральнага рэпарцёра, гэтым разам выступае ў амплуа празаіка **(старонка 21)**.

А ў якасці добрага прыкладу гэтым разам — Эстонія, якая без нафты і газу і без расійскага рынку дабілася каласальных поспехаў за гады незалежнасці. Сярэдні эстонец зарабляе ў тры разы больш, чым сярэдні беларус. Прычым там збудавалі сістэму, у якой сапраўды «ўсё для людзей» **(старонка 3)**.

### Апытанне на nn.by

**Ці падтрымліваеце вы ідэю павышэння ўзросту продажу алкаголю да 21 года?**

| | | |
|---|---|---|
| Так | 1376 | 71% |
| Не | 312 | 16% |
| Тольki гарэлкі і мацаваных він | 249 | 13% |

Усяго 1937 галасоў.

# Пад Пухавічамі 65-гадовы дачнік зладзіў разню, адну жанчыну ўратаваў 6-гадовы ўнук

Раніцай 31 ліпеня ў дачным таварыстве «Флора» пад Пухавічамі 65-гадовы Леанід Юхневіч выйшаў з хаты з нажом. Па невядомай прычыне мужчына зарэзаў адну з суседак, сур'ёзна траўмаваў другую. Яшчэ адна жанчына з дапамогай малога ўнука змагла вырвацца. Калі прыехалі амапаўцы, Юхневіч замкнуўся ў сваім доме і ўдарыў сябе нажом. Ён памёр у бальніцы.

Святлана Рыгораўна — жанчына, якая была паранена суседам, — распавяла «Нашай Ніве» падрабязнасці здарэння.

Леаніда Юхневіча яна сустрэла ўвечары ў нядзелю. Ён пацікавіўся, ці прыедзе на лецішча муж Святланы. Тая сказала, што нібыта збіраўся. На тым і разышліся.



**Летні дом 64-гадовага Леаніда Юхневіча, які ўчыніў разню ў садовым таварыстве пад Пухавічамі.**

«Каля 8 раніцы ў панядзелак Лёня грукае ў маю шыбу, кажа: адмыкай! Я здзівілася, бо ў нас плот з сетки-рабіцы. Усё было закрыта, то бок ён, хутчэй за ўсё, пералез цераз плот.

Я пытаюся: «Лёня, чаго ты хочаш?» А ён адказаў, што яго жонцы вельмі кепска.

Жонка на той момант ужо з'ехала, але ж я не ведала. Я адамкнула, і пачалося, — распавядае Святлана Рыгораўна. — Ён накінуўся на мяне з кухонным нажом, крычаў: «Вы хочаце ў мяне дачу забраць!» Пачалася барацьба. Я схапіла нож за лязо, распарола руку».

Муж Святланы на той момант яшчэ не прыехаў. Але ж разам з ёй у хаце быў шасцігадовы ўнук.

«Я стала бегчы з хаты да брамкі, каб Лёня не пайшоў у дом. Ён яшчэ ўдарыў мяне нажом у спіну, я нож выбіла, — кажа жанчына. — Але ён паваліў мяне на зямлю, схапіў камень. Я трымала яго за руку — і тут унук выскачыў з нейкай дошкай, гістэрычна крычаў: «Не чапай бабулі!»

Я спужалася, пачала крычаць сама: «Дапамажыце! Забіваюць!» Крыкнула ўнуку, каб хутчэй фортку адчыняў. Пасля я — не памятаю як — ударыла Леаніда ў грудзі нагою, ён адляцеў. Тут ужо падбеглі людзі, я адчыніла фортку, схапіла ўнука, пабегла з ім у хату, мы зачынілі дзверы. І тут унук кажа, што міліцыя прыехала».

Юхневіч, хутчэй за ўсё, быў цвярозы, кажа жанчына. Але з «абсалютна шалёным позіркам».

Па словах Святланы Рыгораўны, Леанід змог збегчы ў свой дом. Як — яна не бачыла. Але ён замкнуўся там, па яго прыехаў АМАП, сцвярджае жанчына. Тым часам Леанід ударыў сябе ў грудзі нажом. Яго адвезлі туды ж, куды і Святлану Рыгораўну — у Мар'інагорскую бальніцу. Там мужчына сканаў.

Пазней Святлана Рыгораўна даведалася, што яна не адзіная ахвяра. Юхневіч да таго, як завітаць да яе, ужо забіў 65-гадовую суседку і жорстка параніў іншую. У амаль 80-гадовай жанчыны — тры нажавыя, закрануты страўнік. Яе прааперавалі, цяпер яна ў рэанімацыі.

У самой Святланы Рыгораўны — 4 нажавыя раненні. Пашкоджаныя рука, грудзі, спіна. Паранены твар — напэўна, мужчына цэліў у шыю, але трапіў у падбародак. Нож прайшоў наскрозь, у рот.

І Леанід, і яго ахвяры — з Мінска. Раней яны працавалі ў Мінскім навукова-даследчым прыборабудаўнічым інстытуце (гэта прадпрыемства ў сістэме Дзяржаўнага вайскова-прамысловага камітэта), разам атрымалі надзелы пад лецішчы ў садовым таварыстве «Флора».

«Я ведаю Лёню даўно, 37 гадоў... Ён працаваў начальнікам слясарнага ўчастка. Пару гадоў таму Леаніда звольнілі з працы. Яму ўсё мроілася, што ў яго хочуць дачу забраць, хочуць кватэру забраць, а яго на вуліцу выкінуць... Хто? Невядома. Казаў, нібыта нейкія «чужыя людзі», — узгадвае Святлана Рыгораўна. — Гады два таму ў яго была сур'ёзная траўма галавы — яго ці то моцна збілі, ці то штосьці падобнае здарылася. Ён прыйшоў на працу, стала дрэнна, страціў прытомнасць. Месяцы тры Леанід ляжаў у рэанімацыі».

Жанчына кажа, што Юхневіч усё жыццё піў. Пасля выпадку з тым збіццём мужчына выйшаў з бальніцы і жорстка запіў. За гэта яго і звольнілі. Ён вельмі перажываў з гэтай нагоды.

«Не ведаю, як там звальнялі, але Лёня казаў, што цяпер яго ані на якую працу не возьмуць», — кажа Святлана Рыгораўна.

Са сваімі ахвярамі Юхневіч быў у нармальных адносінах, расказвае Святлана Рыгораўна. Жанчыны, да якіх прыйшоў з нажом Леанід, нават сябравалі з яго жонкай.

«Мы з ім размаўлялі. Але ў яго была адна тэма пастаянная. Казаў, што начамі не спіць, што ў яго дом адбяруць, што могуць пасадзіць... — узгадвае жанчына. — Яго жонка казала, што ён яе ўжо дастаў з гэтым... Калі мы бачылі, што ў яго едзе дах, то і жонка бачыла. Чаму нікуды не звярнулася?»

«Леанід у асноўным купляў толькі цыгарэты. Наколькі я ведаю, жонка яго цалкам «адрэзала» ад грошай, давала толькі на тытунь», — распавёў Валянцін, муж пацярпелай Святланы Рыгораўны.

Мужчына таксама добра ведае Юхневічаў: яны працавалі разам.

«Я вельмі добра з ім знаёмы. Мы не сябры, але з Леанідам у нас былі нармальныя адносіны. Мы хадзілі на шпацыр разам. Ніякіх спрэчак ці праблемаў у нас ніколі не было, — кажа Валянцін. — Раней ён піў жорстка, па-чорнаму. Апошнім часам — выпіваў, але рэдка. Але я сам лічу, што ў тым, што здарылася, вінаваты ў тым ліку і алкаголь».

Па словах мужчыны, апошнім часам было заўважна, што з Юхневічам не ўсё ў парадку.

«У яго была нейкая манія праследу. Усё нібыта хтосьці штосьці ад яго хацеў... Ды і відавочна было, што Леанід неяк пагружаны ў сябе, — распавёў Валянцін. — І вось у яго канчаткова сарвала дах».

Прыкладна тое ж расказваюць і іншыя дачнікі: Юхневіч выпіваў, быў дзіўнаваты.

«Той раніцай я пачула крык, адразу ўзяла ровар і паехала. Бачу: ляжыць жанчына ў крыві, але яшчэ дыхае, — расказвае Марыя Антонаўна, дачніца, якая выклікала міліцыю. — Я нават не пазнала, хто гэта. І недзе іншая жанчына крычыць: «Забіваюць!» А ў мяне не было тэлефона, я вярнулася ў хату, пазваніла ў хуткую і міліцыянтам».

Што магло штурхнуць Леаніда Юхневіча на такі ўчынак, жанчына не ведае.

Міліцыя паведамляе, што першае забойства Юхневіч здзейсніў у 7.40 раніцы. Па словах праваахоўнікаў, мужчына быў п'яны.

**Улад Швядовіч**

## За 10 гадоў доля пазашлюбных дзяцей скарацілася амаль удвая — лічбы

Паводле звестак Белстата, летась у маці-адзіночак нарадзілася 15 636 дзяцей. Гэта 13,3% ад агульнай колькасці немаўлят.

Адметна, што доля пазашлюбных дзяцей з кожным годам змяншаецца. Напрыклад, у 2005 годзе іх было 24,2%, а ў 2010 годзе — 19,6%.

Розніца па абласцях летась выглядала наступным чынам:

**Гродзеншчына** — 9,4% дзяцей народжана па-за шлюбам
**Брэстчына** — 10%
**Мінск** — 10,2%
**Міншчына** — 14%
**Віцебшчына** — 16%
**Гомельшчына** — 17,4%
**Магілёўшчына** — 17,7%.

БЮ

### Сцісла

**Гуркоў стаў чэмпіёнам Сусветных гульняў**

Віталь Гуркоў стаў пераможцам у кікбоксінгу на Сусветных гульнях у Вроцлаве (Польшча). Гэта адзіны залаты медаль у складзе зборнай Беларусі. Апроч Гуркова, з нашай каманды на п'едэстал падняўся толькі Мікіта Шостак.

Цягам турніру Віталь выбіў з барацьбы партугальца Д'ёга Калада, якому нядаўна прайграў у Мінску на чэмпіянаце свету.

Сусветныя гульні праводзяцца кожныя 4 гады, на наступны год пасля правядзення Алімпіяд. Спартсмены спаборнічаюць у дысцыплінах, якія не ўваходзяць у праграму Алімпійскіх гульняў. У Вроцлаве выступала больш за 3500 атлетаў са 100 краін у 31 відзе спорту.

**Памёр Уладзімір Бядуля**

Ён доўгі час быў старшынёй узорнага калгаса «Савецкая Беларусь». Пражыў ён 90 гадоў.

### Самае чытанае на nn.by за ліпень

1 Стала вядома, што за брунэтка сядзела з Лукашэнкам на Купаллі — шмат фота

2 Загінуў 35-гадовы дырэктар «Кінавідэапракату», колішні лідар мінскага БРСМ

3 Мегаскладаны тэст на каларытныя беларускія слоўцы — калі адгадаеце хаця б палову, вы разумнік

4 Беларуска пакінула п'едэстал падчас узнагароджання на юніёрскім ЧЕ: уключылі гімн іншай краіны — відэа

5 У Кіеве перад Лукашэнкам з крыкамі «Жыве Беларусь!» выскачыла аголеная актывістка — фота, відэа

6 Канфуз Славы, якая спявала пад фанаграму перад Лукашэнкам на «Славянскім базары»

7 Расія прапануе Беларусі накіраваць кантынгент у Сірыю

8 Таленавіты мастак? Жыхар Мазыра адправіў у ДАІ «ліст з парнаграфічным малюнкам» у адказ на пратакол за парушэнне ПДР

9 На Міншчыне бацька дваіх дзяцей закахаўся ў хлопца з працы. Справа дайшла да суда

10 Блогер Варламаў раіць расіянам прадстаўляцца за мяжой беларусамі

# Эстонія: як выглядае моцная лічбавая нацыя XXI стагоддзя

Павел Буча — малады беларускі прадпрымальнік, які сумесна з партнёрамі мае прыбытковы бізнэс у сферы будаўнічых паслуг. Першы час яны ажыццяўлялі дзейнасць выключна на беларускім рынку, але потым вырашылі працаваць у ЕС.

«Мы вырашылі пашырыцца і паспрабаваць сябе на заходніх рынках. Першае, што прыйшло нам у галаву, — краіны Балтыі. Першапачаткова праз пасярэднікаў мы стварылі фірму ў Эстоніі. З-за пасярэднікаў гэта быў працяглы і дарагі працэс. Але потым мы даведаліся, што маглі ўсё зрабіць значна прасцей і хутчэй: пры дапамозе эстонскага электроннага рэзідэнцтва. Дастаткова толькі зрабіць эстонскую ID-картку, і любую фірму можна адкрыць за некалькі дзясяткаў хвілін, а падаткі аплачваць за некалькі клікаў. Таксама ўсе кантракты можна падпісваць у электронным выглядзе! Гэта рэальна эканоміць нервы, грошы і час», — распавядае Павел.



Прэзідэнт Эстоніі Керсці Кальюлайд.

Пакуль Беларусь толькі збіраецца будаваць IT-краіну і робіць першыя кволыя крокі ў тым, каб перавесці адміністрацыйныя паслугі ў лічбавы фармат, Эстонія, адна з самых маленькіх былых савецкіх рэспублік, ужо стала сапраўднай лічбавай нацыяй і першай у свеце рэалізавала канцэпцыю «электроннага рэзідэнцтва».

Атрымаць даведку, заплаціць штрафы і падаткі, прагаласаваць на выбарах, мець імгненны доступ да медыцынскай выпіскі са станам здароўя — далёка не поўны пералік таго, што эстонцы могуць рабіць праз камп'ютар ці смартфон ужо цяпер. Больш за тое, некаторыя паслугі (адкрыццё эстонскай фірмы, падпісанне кантрактаў з эстонскімі фірмамі, аплата падаткаў за некалькі клікаў) даступныя нават для нерэзідэнтаў, у тым ліку беларусаў.

«Наша Ніва» на прыкладзе Эстоніі паказвае, як выглядае самая перадавая ў свеце дзяржаўная сістэма аказання адміністрацыйных паслуг і як працуе «электроннае рэзідэнцтва».

Самае складанае тут — атрымаць саму ID-картку. Пасля таго, як чыноўнікі ўхваляць вашу заяву, вы становіцеся «электронным рэзідэнтам» Эстоніі. Гэты статус не дае вам аўтаматычнае права жыць у Эстоніі, але «электронны рэзідэнт» можа спакойна весці гаспадарчую дзейнасць на тэрыторыі Эстоніі і нават карыстацца некаторымі сэрвісамі, даступнымі для грамадзян Эстоніі.

Дарэчы, 99% дзяржаўных паслуг даступныя праз электронны партал, таму эстонцы ўжо забыліся, як выглядаюць папяровыя бланкі.

Разам з ID-карткай карыстальнікі сістэмы атрымліваюць спецыяльны рыдар, які падключае картку да камп'ютара.

Грамадзяне Эстоніі і электронныя рэзідэнты ўсю сваю дзейнасць могуць ажыццяўляць праз два асноўныя парталы:

www.rik.ee — партал для рэгістрацыі бізнэсу. Тут можна, напрыклад, адкрыць ці закрыць фірму, аформіць чалавека на працу і г.д.

www.eesti.ee — адзіны партал для дзяржаўных паслуг. Пералічыць усё проста немагчыма — тут можна атрымаць абсалютна любую дзяржаўную паслугу. І ўсё за некалькі клікаў. Поўны пералік можна пабачыць на старонцы https://www.eesti.ee/rus/uslugi/grazhdanin

### Як Эстонія прыйшла да такога «лічбавага раю»?

Калі краіна ў 1990 годзе аднавіла незалежнасць, Эстонія паўстала перад дылемай: што рабіць далей? Маленькая краіна з насельніцтвам у 1,4 млн не мела фактычна нічога, акрамя выхаду ў мора і моцнай волі. Праз амаль поўную адсутнасць усялякіх рэсурсаў краіна вырашыла зрабіць стаўку на камп'ютарызацыю.

Гэта быў сур'ёзны і асэнсаваны стратэгічны выбар — і краіна не прагадала.

Ужо ў 1997 годзе кожная эстонская школа мела камп'ютары з доступам у інтэрнэт. У гэтым жа годзе грамадзяне атрымалі магчымасць атрымліваць некаторыя адміністрацыйныя паслугі праз інтэрнэт.

У 2000 годзе запрацавала сістэма электроннай аплаты падаткаў. Цяпер, каб заплаціць падаткі, эстонцу патрабуецца ў сярэднім 3—5 хвілін вольнага часу. Больш за 95% падатковых дэкларацый у Эстоніі запаўняюцца ў электронным выглядзе.

У 2001 годзе ў Эстоніі з'явілася адзіная дэцэнтралізаваная база звестак X-Road.

Праз яе абсалютна любы грамадзянін можа атрымаць інфармацыю пра іншага грамадзяніна, але толькі пры адной умове: інтарэс павінен быць абгрунтаваны, а звесткі — не датычыць прыватнага жыцця і здароўя. Напрыклад, журналіст піша артыкул і хоча даведацца, якая машына ў мясцовага чыноўніка — калі ласка. Грамадская арганізацыя хоча паглядзець, адкуль у суддзі грошы на паездку на Мальдывы, — не праблема.

Праўда, чалавек, чые дадзеныя вы адсочваеце, можа бачыць, хто, як і калі цікавіўся яго звесткамі.




Эстонія была самай малой па колькасці насельніцтва рэспублікай былога СССР. Цяпер Эстонія самая багатая.

Фактычна Эстонія здолела пабудаваць канцэпцыю «празрыстага грамадства», дзе ўзаемная празрыстасць з'яўляецца не праблемай, а, наадварот, гарантыяй абароны грамадства.

У 2001 годзе ў Эстоніі таксама з'явіліся ID-карты, якія дазваляюць грамадзянам краіны атрымліваць усе дзяржаўныя паслугі, ажыццяўляць банкаўскія аперацыі, падпісваць дакументы і нават атрымліваць медыцынскі рэцэпт на лекі. Чакаецца, што ў Беларусі ID-карты з'явяцца толькі ў 2019 годзе, але далёка не факт, што ўладальнікі беларускіх ID-карт будуць мець такія ж магчымасці, як грамадзяне Эстоніі.

У 2005 годзе, калі беларуская ўлада перайменоўвала праспекты сталіцы, Ксенія Сітнік выйграла дзіцячае «Еўрабачанне», а беларуская апазіцыя вырашала, хто будзе адзіным кандыдатам, Эстонія стала першай краінай у свеце, якая прапанавала сваім грамадзянам прагаласаваць на нацыянальных выбарах праз інтэрнэт. Эстонская сістэма электроннага галасавання дазваляе прагаласаваць усяго за 3 хвіліны і ў прынцыпе выключае любыя магчымыя фальсіфікацыі.

У 2007 годзе Эстонія пачала выкарыстоўваць IT для публічнай бяспекі. Адмысловыя службы выйшлі на абсалютна новы ўзровень працы. Напрыклад, у 93% выпадкаў хуткая дапамога адказвае на тэлефанаванне не пазней за 10 секунд, а дарожнай паліцыі забаронена спыняць аўтамабілістаў для тэхнічных праверак, паколькі ўся інфармацыя знаходзіцца на бартавых камп'ютарах.

Пакуль Нацбанк Беларусі толькі стварыў інфармацыйную сетку па тэхналогіі блокчэйн, Эстонія пачала эксперыменты з гэтай тэхналогіяй яшчэ ў 2008 годзе, калі яна толькі з'явілася. Цяпер балтыйская краіна з'яўляецца сусветным лідарам у тэхналогіі блокчэйн, а напрацоўкамі эстонскіх праграмістаў карыстаюцца ў NATO, інстытутах ЕС і нават у Міністэрстве абароны ЗША.

Таксама ў 2008 годзе эстонскія пацыенты атрымалі анлайн-доступ да ўсіх сваіх дадзеных пра здароўе. Цяпер 95% дадзеных, якія генеруюцца ў эстонскіх шпіталях і паліклініках, — у лічбавым фармаце. Кожны жыхар Эстоніі мае электронны запіс, які ўтрымлівае спіс усіх медычных паказанняў, аналізаў, рэцэптаў, флюараграфію і гэтак далей. Прасцей працуецца і лекарам — у любы момант яны могуць прагледзець электронны запіс стану здароўя пацыента.

Пісьменнікі-фантасты ў сваіх антыўтопіях палохалі нас тым, што, калі дзяржава атрымае доступ да тэхналогій і зможа кантраляваць дзейнасць кожнага чалавека, грамадзяне стануць паднявольнымі, дзяржавы стануць цалкам таталітарнымі і дэмакратыя акажацца пад пагрозай знікнення. Але прыклад Эстоніі сведчыць: у добрых руках тэхналогіі, наадварот, робяць грамадства ўзаемна празрыстым, бяспечным, а дэмакратыя ўзмацняецца, што робіць чалавека больш вольным, а дзяржаўны апарат —эфектыўным.

Справядліва заўважыла прэзідэнт Эстоніі Керсці Кальюлайд у сваім артыкуле для выдання *The Telegraph*: «Нашы грамадзяне будуць жыць у глабальным і лічбавым свеце. Калі мы гэтага не зробім — дзяржава проста спарахнее».

Прыклад Эстоніі яскрава сведчыць нам пра тое, на што здольная нават невялікая краіна, але з вялікімі ідэямі і моцнай воляй.

І мы, беларусы, у сваю чаргу павінны пераасэнсаваць тое, што маем цяпер, а таксама адказаць на два простыя пытанні: якой мы бачым нашу краіну ў будучыні і якое наша месца ў свеце?

**Максім Маханькоў**



Павел Буча ацаніў, якая перавага — працаваць у лічбавай дзяржаве.

# У Кіеве перад Лукашэнкам з крыкамі «Жыве Беларусь!» выскачыла аголеная актывістка

Падчас сумеснай прэс-канферэнцыі Аляксандра Лукашэнкі і Пятра Парашэнкі ў Кіеве актывістка топлес выбегла перад тэлекамерамі. Яна гукала «Жыве Беларусь!». Гэтыя ж словы былі напісаныя на грудзях.

Інцыдэнт здарыўся падчас падпісання дакументаў міністрамі культуры дзвюх краін, а Лукашэнка і Парашэнка стаялі за спінамі міністраў. Дзяўчыну затрымалі на працягу некалькіх секунд і сілай вывелі з залы.

Паводле папярэдняй інфармацыі, дзяўчына ёсць актывісткай руху Femen, а ў залу трапіла як прадстаўніца прэсы.





А гэта рэакцыя Лукашэнкі і Парашэнкі на інцыдэнт

# Як на дэбатах Навальнага і Стралкова закранулі Беларусь

**Дэбаты паміж расійскім палітыкам Аляксеем Навальным і экс-міністрам абароны «ДНР» Ігарам Стралковым загадзя былі падзеленыя на тры раўнды: барацьба з карупцыяй, адносіны з Захадам і падзеі на Данбасе. Варта заўважыць, што на некаторыя тэмы Стралкоў адказваць адмаўляўся, спасылаючыся то на «гонар афіцэра», то на нежаданне размаўляць.**





На працягу размовы, натуральна, была закранутая тэма «ўз'яднання рускага народа», дзе ўзгадалі і Беларусь. Вось урывак з дыскусіі:

**Навальны:** Руская — гэта найбуйнейшы падзелены народ у Еўропе. Але калі вы кажаце, што бальшавікі «па-жывому» нарысавалі межы, то вы прапануеце мне дзеля нейкай эфемернай барацьбы з Захадам пачаць вайну з Казахстанам?

**Стралкоў:** Гэта значыць, вы прызнаеце дзейныя межы Расіі, прарысаваныя менавіта бальшавікамі?

**Навальны:** Я знаходжуся ў 2017 годзе. У Расійскай Федэрацыі ёсць межы, і я іх прызнаю.

**Вядучы:** Я пастараюся сфармуляваць агульнае пытанне ад гледачоў [гледачы маглі дасылаць пытанні праз твітар — **НН**]. Як магчыма аднавіць Расію ў ранейшых межах і вярнуць манархічны лад?

**С:** Аднаўленне самадзяржаўя ў тым выглядзе, у якім яно было ў 1917, немагчыма, хоць бы таму, што цар з'яўляўся постацю сакральнай. Аднавіць Расію ў ранейшых межах таксама немагчыма, калі казаць пра Фінляндыю і Польшчу. Аднак неабходна аднавіць натуральныя межы пражывання вялікага рускага народа, які складаецца з трох частак: велікарасаў, маларосаў (або ўкраінцаў — усё роўна) і беларусаў.

**Н:** Ці павінны мы заўтра пачаць ваенную аперацыю супраць Казахстана, каб адабраць паўночны Казахстан, дзе жывуць рускія людзі?

**С:** Гэта дэмагагічнае пытанне. (...) Мы павінны да гэтага імкнуцца.

**Н:** То бок заўтра пачынаць ваенную аперацыю супраць Беларусі не трэба?

**С:** Ну гэта я вас пытаю, вы ж збіраецеся стаць прэзідэнтам. Пазначце сваю пазіцыю.

**Н:** Я выступаю за тое, каб грамадзянам Расіі даць магчымасць нармальна пажыць, каб яны багацелі і нармальна развіваліся, каб у Расіі не было гэтага жаху і кашмару, калі прыходзіш у бальніцу ў Маскоўскай вобласці, а там правальваюцца столі. Я лічу, што дзеля гэтых хімераў кшталту «давайце мы адновім» і гэтак далей мы не можам ахвяраваць дабрабытам народу.

**С:** Вы ўпэўненыя, што гэта магчыма будзе зрабіць, не аднавіўшы эканамічную цэласнасць былой краіны?

**Н:** Я ўпэўнены, што гэта магчыма зрабіць наўпрост зараз. І ўжо праз тры гады Расія будзе жыць значна лепш. Грамадзяне Расіі будуць атрымліваць удвая большыя зарплаты дзякуючы нармальным рэформам.

Ілья Параскевіч

# Загінуў 35-гадовы дырэктар «Кінавідэапраката», колішні лідар мінскага БРСМ

Каля пад'езда дома на праспекце Дзяржынскага ў Мінску было знойдзена цела мужчыны. Ім аказаўся генеральны дырэктар «Кінавідэапраката», дэпутат Мінгарсавета Юрый Чачукевіч, колішні лідар мінскага аддзялення БРСМ.

Загінуламу было 35 гадоў. Чачукевіч не жанаты, дзяцей няма.

Мужчына быў у цёмных штанах і лёгкай кашулі. Відавочцы, знаёмыя з ім, кажуць, што на працу ён так не апранаўся. Ды і пазнавата было для працы — 9:42.

Па словах відавочцаў, акрамя тэлефона і ключоў пры ім нічога не было: ні дакументаў, ні кашалька.

Некаторыя сцвярджаюць, што бачылі на месцы двух сілавікоў з генеральскімі пагонамі. Некалькі гадзін, пакуль цела ляжала каля пад'езда і праводзіліся следчыя дзеянні, маці нябожчыка каля пад'езда галасіла па сыне.

nn.by



TUT.BY

## Радыё «Свабода» больш не радыё — скарачаецца каротка- і сярэднехвалевае вяшчанне, застануцца толькі навіны

Адзін з рэдактараў беларускай службы амерыканскага радыё «Свабода» Франак Вячорка паведаміў, што з канца ліпеня радыё спыніла выхад шэрагу праграм, некаторыя з якіх выходзілі па 15—20 гадоў. Сярод іншага, гэта «Вольная студыя», «Падарожжы Свабоды», «Беларуская Атлантыда».

«Мы спыняем каротка- і сярэднехвалевае вяшчанне. Гэта такая стратэгія на агульнае скарачэнне эфіру, застаюцца толькі навіны і адна перадача. Усё чаму? Бо мы пераходзім на іншыя, лічбавыя платформы», — сказаў Вячорка «Нашай Ніве».

Таксама ён дадаў, што амерыканцамі скарочанае фінансаванне вяшчання.

Цяпер радыё «Свабода» плануе больш увагі надаваць відэа і сацыяльным сеткам.

АЯ

# Як выглядае магіла маці Лукашэнкі

Адразу пасля смерці Кацярыны Трафімаўны Лукашэнка яе магілу ахоўвалі і забаранялі фатаграфаваць. Праз два гады ўсё інакш.



Маці кіраўніка Беларусі памерла ва ўзросце 90 гадоў вясной 2015 года. Яе пахавалі на невялікіх могілках паміж вёскамі Хімы і Александрыя-2, дзе правёў сваё дзяцінства Аляксандр Лукашэнка і дзе ён зараз нярэдка спыняецца ў сваёй рэзідэнцыі.

Помнік на магіле Кацярыны Трафімаўны цалкам можна назваць сціплым і звычайным.

Самі могілкі адметныя тым, што знаходзяцца на беразе прытоку Дняпра.

Некалькі гадоў таму Лукашэнка заявіў, што хацеў бы быць пахаваным на радзіме.

— Я больш схіляюся да таго, каб мяне пахавалі ў маёй роднай вёсцы. Гэта больш спакойнае месца для мяне, — сказаў кіраўнік краіны.

gazetaby.com

# Жанчына забрала $100 са сметніцы, цяпер яе шукае міліцыя

Мінская міліцыя шукае жанчыну, якая падняла са сметніцы ля абменнага пункта купюру ў 100 даляраў.

«Інцыдэнт адбыўся 25 мая гэтага года ў абменным пункце па праспекце Ракасоўскага, 114. Мужчына, абмяняўшы беларускія рублі на 100 даляраў ЗША, забраў манеты, а даляравую купюру разам з чэкам машынальна выкінуў у сметніцу. Жанчына, якая стаяла за ім у чарзе, дастала чэк з загорнутай у яго купюрай, пасля чаго знікла», — паведамляюць міліцыянты.

Супрацоўнікі міліцыі просяць грамадзян аказаць дапамогу ў высвятленні асобы жанчыны. У РАУСе Ленінскага раёна патлумачылі, што ўласнік грошай прыйшоў у міліцыю па дапамогу. Ён не хоча прыцягваць жанчыну да адказнасці, спадзяецца толькі, што яна пагодзіцца вярнуць яму грошы.

Пры гэтым, калі жанчына адмовіцца вярнуць грошы, то яе дзеянні амаль немагчыма кваліфікаваць як супрацьпраўныя. Але міліцыя і мужчына, які згубіў грошы, разлічваюць на сумленнасць жанчыны.

Прыкметы жанчыны: на выгляд 30-35 гадоў, сярэдняга целаскладу, валасы цёмныя, доўгія, былі сабраныя ў хвост. Была апранута: вятроўка сіняга колеру, шэрая футболка, чорныя штаны, чорныя чаравікі. Пры сабе мела дзіцячы самакат аранжавага колеру.

Калі вы пазналі жанчыну па апісанні, просьба звяртацца ў Ленінскае РУУС г.Мінска асабіста (2-і Веласіпедны завулак, 9) або па тэлефонах: 8 (017) 368-12-03, 8 (017) 367-62-02, (029) 776-07-50 альбо 102.

УШ

# «Кожны вечар усім «рускім» давалі паўбутэлькі гарэлкі» — расказвае беларус, якога вызвалілі з працоўнага рабства ў Дагестане

Удзельнікі руху «Альтэрнатыва», які займаецца пошукам людзей у Расіі, вызвалілі ў Дагестане траіх беларусаў. Віктар Страхаль з Бабруйска, Аляксандр Яўлаш з Мазыра і Андрэй Горбач з Гродна каля месяца працавалі на цагляных заводах.

Горбач быў у Каспійску, Яўлаш і Страхаль — у сяле Адыль-Янгіюрт Бабаюртаўскага раёна Дагестана. Страхаль і Яўлаш пазнаёміліся з Горбачам у аўтобусе з Масквы ў Дагестан. Пазней Андрэй Горбач, якога знайшлі першым, расказаў валанцёрам, дзе шукаць яшчэ дваіх беларусаў.

Бабруйчанін Віктар Страхаль, адзін з вызваленых беларусаў, распавёў «Нашай Ніве» сваю гісторыю.

Віктар працаваў у Бабруйску разьбяром па дрэве, але адтуль яго скарацілі. Ён уладкаваўся на птушкафабрыку, дзе, па яго словах, плацілі малыя грошы.

«Плацілі менш за 2 мільёны «старымі», а ў мяне сям'я, двое дзяцей... Грошай вельмі не хапала. Я вырашыў паехаць на заробкі ў Маскву, — кажа Віктар. — Там я працаваў на мясакамбінаце, усё было, здавалася б, нармальна. Мяне разлічылі, я збіраўся ехаць у Беларусь».

Але, па словах Віктара, невядомыя збілі і абрабавалі яго. Беларус застаўся без капейчыны. Не ведаў, што рабіць, два дні бадзяўся па Маскве. Дадому ехаць не было за што. Пасля, калі ён проста сядзеў на лаўцы, да яго падышоў чалавек каўказскай нацыянальнасці і прапанаваў працу — ехаць у Дагестан на цагельны завод.

«Там цэлая сетка такіх вярбоўшчыкаў, якія добра бачаць, калі чалавек без грошай і можа пагадзіцца на прапанову. Шукаюць такіх, ходзяць па вакзалах... — тлумачыць Страхаль. — Я, шчыра кажучы, не ўяўляў, што Дагестан — гэта за 2 тысячы кіламетраў. Але ж грошай не было... Ну і пагадзіўся».

Заробак абяцалі 25—30 тысяч расійскіх рублёў ($400—500), — кажа Віктар. Яму набылі квіток на рэйсавы аўтобус да Дагестана (квіток аплачвалі ўладальнікі завода, куды ён ехаў, падкрэслівае Страхаль). У аўтобусе ён і пазнаёміўся з двума іншымі беларусамі — Горбачам і Еўлашом.

Ехалі больш за 2 сутак. На вакзале ў Дагестане Віктара сустрэў мужчына, адвёз да нейкага іншага.

«Той патлумачыў, што ў яго ёсць цагельны завод. Маўляў, працаваць будзеш? Я кажу: ну буду, а куды падзецца. Мяне адвезлі на той завод», — распавядае Віктар.

Па яго словах, на заводзе працавала каля 20 чалавек. Жылі ўсе ў дамках на тэрыторыі таго ж прадпрыемства.

«Абыходзіліся нармальна, ніхто не біў, пашпарт не забіраў. Хто я і што я, нікога не цікавіла — нават прозвішча не спыталі. Аніякіх дакументаў таксама не падпісвалі — проста ідзі і працуй, — узгадвае Страхаль. — Кармілі тры разы на дзень, у асноўным кашай, на абед — суп. Увечары кожнаму давалі паўбутэлькі гарэлкі. У іх там уяўленне, што калі ты «рускі», то павінен гарэлку піць. Вельмі здзіўляліся, што я не выпіваю».

Належаў завод мясцоваму чыноўніку, кіраўніку раённай адміністрацыі, але прымусова на заводзе ніхто нікога не трымаў, падкрэслівае Віктар. Не падабаецца — ідзі куды хочаш. Але куды падзецца, калі няма грошай?

«Я калі прыехаў, то пагаварыў з рабочымі. Зразумеў, што галоўны падман быў у тым, што тыя 30 тысяч рублёў ніхто не збіраўся плаціць. Плацілі разы ў тры менш, а маглі і зусім нічога не даць. Былі такія, хто працаваў за ежу, бо ім няма куды ісці, няма сям'і, дома. А там кормяць, ну і добра. Некаторыя так з мінулага года там сядзяць. Бо куды ты паедзеш адтуль без грошай? — кажа Віктар. — Працаваць было вельмі цяжка: фізічная праца, а спёка +40 у цені. А працавалі мы ад 6-й раніцы да 7—8 вечара».

Тым часам родныя пачалі шукаць Віктара, выйшлі на расійскую «Альтэрнатыву», на перадачу «Жді меня». «Альтэрнатыва» знайшла Андрэя Горбача, той распавёў пра Віктара і Аляксандра.

«Калі начальства даведалася, што мяне шукаюць, яны забегалі, набылі мне мабільнік, падключылі інтэрнэт, я змог звязацца са сваімі, — кажа Віктар. — Па нас прыехаў чалавек з «Альтэрнатывы», Закір. Начальства завода нас адпусціла без праблем. Праўда, я сам спачатку спужаўся: што за Закір, куды забірае нас? Ён прывёз нас у Махачкалу на сваю кватэру, супакоіў, растлумачыў, што адбываецца».

Сёння Віктар дома, прыходзіць у сябе. Кажа, ён упэўнены, што замест вызваленых неўзабаве прывязуць новых.

Акрамя таго, на тым жа заводзе застаўся яшчэ адзін беларус — Сяргей Кажамякін, таксама з Бабруйска.

«Жонка майго брата, якая займалася маімі пошукамі, патлумачыла яго жонцы, што рабіць, — кажа Віктар Страхаль. — Спадзяюся, што і яго вызваляць».

Улад Швядовіч



Беларусы па дарозе ў Дагестан: Аляксандр Яўлаш (у белай майцы), за ім — Андрэй Горбач (са светлымі валасамі) і Віктар Страхаль. Фота vk.com/alternative_moscow



Віктар Страхаль з жонкай.

# «Здаралася, па 20 пагроз на дзень ад расіян прыходзіла» — гутарка з культавым абаронцам мовы Ігарам Случакам



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Хіба ніводзін моўны скандал не абышоўся без прамога ці ўскоснага ўдзелу Ігара. На яго рахунку тысячы лістоў, парачка выйграных судовых спраў (памятаеце гучнае разбіральніцтва, калі за абразу мовы судзілі экс-міліцыянта?), паспяховае прасоўванне зменаў у закон аб зваротах грамадзян і юрыдычных асоб, экспрэс-беларусізацыя футбольных клубаў...

Кожны, хто хоць раз трапляў у канфлікт праз беларускую мову, ведае, што ў любой незразумелай сітуацыі трэба пісаць Случаку. Але моўным інспектарам Ігар не нарадзіўся. Калісьці гэта быў звычайны хлопчык, да гадоў сямі — рускамоўны, які пасвіў птушак, выразаў з фанеры парсюкоў і не ведаў, кім хоча быць у будучыні.

**«НН»: Ігар, распавядзіце пра сваю сям'ю.**

**ІС:** Нарадзіўся я на Гомельшчыне, у вёсцы Свяцілавічы. Вёска трапіла ў зону адсялення ў сувязі з Чарнобылем, і мы пераехалі ў Дарасіно на Міншчыне. Да пераезду па-беларуску я не размаўляў. Памятаю, неяк шпацыравалі з дзедам, і ён спытаў: «Ігар, ты хоць разумееш па-беларуску, чытаць умееш?» Я тады прызадумаўся.

Мой дзед, Уладзімір Язерскі, паходзіць са шляхты. Калісьці прозвішча было двайное — Леварт-Язерскі, у свой час ім палова Свяцілавіч належала. Дзед заўжды памятаў сваё паходжанне, падкрэсліваў гэта. Ён любіў чытаць, даставаў незалежныя газеты. Бацька распавядаў, што ў дзеда быў спецыяльны пакойчык у хаце, дзе ён яшчэ за савецкім часам слухаў радыё «Свабода».

Дзедава прышчэпка на мяне значна паўплывала.

Яго жонка, мая бабуля Марыя Мохарава, паходзіла з вёскі Рудня-Шлягіна, што знаходзіцца ў тым жа Веткаўскім раёне.

Дзед па бацькавай лініі Фёдар Случак — з Брагіншчыны. А яго жонка Ніна — увогуле ўдмуртка.

Калісьці эстонцы мне распавядалі, чаму яны такія антысавецкія. Да іх савецкая ўлада прыйшла пазней, у 1939 годзе, і людзі, якія бачылі іншую Эстонію, распавядалі сваім дзецям, унукам, што ў іх была свая дзяржава. Таму прапаганда і не працавала. Я таксама ад дзядоў ведаў, што мы — беларусы, што ў нас свая гісторыя, свая мова.

**«НН»: А бацькі?**

**ІС:** Бацька — настаўнік рускай мовы, маці — беларускай. Дзве цёткі таксама выкладалі беларускую мову, і муж адной з іх таксама настаўнік.

**«НН»: Па-руску ці па-беларуску ў сям'і размаўлялі?**

**ІС:** У Дарасіне беларуская мова была натуральная, на іншай не размаўлялі. Я трапіў да беларускамоўных дзяцей, нахапаўся беларускіх словаў і, мабыць, першым у сям'і перайшоў на чыстую беларускую мову. Мне тады было гадоў шэсць-сем.

Па-руску ў школе ніхто не размаўляў. Мусіць, толькі дырэктар і мой бацька выкарыстоўвалі рускую ў афіцыйнай камунікацыі. Бацька мой напалову ўдмурт, беларуская мова яму не зусім блізкая, але ён добра на ёй размаўляе.

Дарэчы, яшчэ пра бабулю-ўдмуртку. Са сваёй сваячкай-удмурткай, што жыла ў той жа вёсцы, яны размаўлялі па-ўдмурцку.



Ігар з бацькамі — Таццянай і Уладзімірам.

Ніякае асяроддзе не перашкаджала ім памятаць сваю мову. Цяпер праблема з удмурцкай моваю яшчэ большая, чым з беларускай. Таму, калі скончым беларусізацыю, будзем праводзіць удмурцызацыю.

Нам трэба развіваць і ўдасканальваць беларускую мову, прыдумляць новыя словы, не баяцца гэтага. У той жа Эстоніі пры Міністэрстве культуры ёсць асобны інстытут, дзе людзі сядзяць і выдумляюць новыя словы.

Я лічу, што «шмаравідла» — нармальнае слова, якое мае права на жыццё. Беларуская мова павінна забяспечваць усе слаі насельніцтва і ўсе ўзросты. Моладзі патрэбная іншая лексіка, не класічная, нам трэба эксперыментаваць.

**«НН»: Што прыгадваецца пра школу?**

**ІС:** Хтосьці казаў, што стары бел-чырвона-белы падручнік па гісторыі дрэнны, бо ў ім не было малюнкаў. Мне ж ён вельмі падабаўся, там усё было добра напісана. Памятаю, быў яшчэ дзіцячы часопіс «Вясёлка», там пісалі пра беларускую гісторыю, бітвы, перамогі з беларускага пункту гледжання.

У Дарасіне была звычайная вясковая школа. Гісторыя і маляванне былі маімі любімымі прадметамі.

Неяк я намаляваў рабочых, якія ў спёку рамантавалі чыгунку. Дагэтуль балюча прыгадваць, што па пяцібальнай шкале мне за яго паставілі чатыры. Я запытаўся, чаму чатыры, а мне кажуць: «Таму што ў іх суровыя твары». Я тады даводзіў, што людзі працуюць фізічна, на вуліцы спёка, вакол бруд — якія ў іх могуць быць твары?

Не ведаю, можа, паставілі чатыры, бо на малюнку побач з рабочымі ляжала пляшка ці таму што яны курылі. Але гэта рэальнасць! Я быў моцна пакрыўджаны, хіба таму і перастаў маляваць.

**«НН»: Пасля дзевяці класаў вы пайшлі ў машынабудаўнічы тэхнікум. Навошта?**

**ІС:** Спачатку хацеў ісці на бухгалтара, але потым параілі паступаць на механіка. Я тады не асабліва разумеў, чаго мне хочацца, і пайшоў у тэхнікум. Гэта, канечне, не маё, але адвучыўся. Маю разрад слесара, фрэзероўшчыка і токара.

Можа, калі-небудзь у жыцці прыдасца. Вайна пачнецца — пайду танкі рамантаваць. Будзе як у тым анекдоце: «Колькі ты, дзядуля, танкаў падбіў?» — «Ну, як падбіў... Так, гайку не дакруціў».

**«НН»: Калі зразумелі, што права — ваша ўсё?**

**ІС:** Ды заўсёды гэта было. Мне падабаліся гуманітарныя прадметы. Ні фізіка, ні матэматыка, ні хімія ў мяне асабліва не ішлі. На ўроках працы мне не ўдавалася выточваць розныя качалкі, таму я ўвесь час выразаў з фанеры парсюкоў. Дагэтуль яны паўсюль.

**«НН»: Чаму парсюкоў?**

**ІС:** У нас былі парсюкі, мне яны падабаліся. Калі быў малы, я на іх катаўся.

**«НН»: Хто яшчэ ў вас там жыў?**

**ІС:** Птушкі розныя: індыкі, куры, качкі, гусі. Я калі быў малы, іх пасвіў, каб яны не разбягаліся і каб іх які каршун не ўхапіў.

Часам птушак душылі тхары. Быў у нас сабака, руды, неяк ён схапіў аднаго. А я ж малы быў, вялікага розуму не меў, дык узяў таго тхара, прывязаў да ровара і вазіў па вёсцы, каб запалохаць іншых тхароў. Гэта як з беларускай мовай, з артыкулам 9.22 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях (парушэнне заканадаўства аб мовах): бярэшся за аднаго, каб іншых адпужнуць.

**«НН»: Давайце вернемся да права. Як вы ўсё ж такі да гэтага прыйшлі?**

**ІС:** У тэхнікуме была практыка, я яе праходзіў на гомельскім заводзе, у прэсавым цэху. Там амаль ва ўсіх рабочых не хапала фалангаў пальцаў.

Са мной на юрфаку вучыўся хлопец, які таксама працаваў на тым заводзе. Дык яму там адпрэсавала руку. Карацей, цяжкая прамысловасць.

Пасля тэхнікума мяне размеркавалі на ліцейны завод. Там увогуле... Ну, льюць метал. Яшчэ калі я давучваўся, распавядалі пра рэальны выпадак, калі чалавек зваліўся ў кацёл, а потым знайшлі толькі галёначную костку.

Я падумаў і вырашыў паступаць ва ўніверсітэт. Спачатку вучыўся ў гомельскім, потым кінуў і паехаў у тартускі, у Эстонію.

Вярнуўшыся, давучыўся і ў гомельскім на завочцы, скончыў толькі летась.

Таму знаёмы і з эстонскай адукацыяй, і з нашай.

**«НН»: У чым розніца?**

**ІС:** Калі пачынаю прыгадваць, хочацца плакаць. Баліць за родную адукацыю.

Агульная беларуская праблема — гэта плагіят на плагіяце і спісванне. А цяпер у нас яшчэ і замежныя студэнты з'явіліся.

Калі я з'язджаў, на маёй плыні былі толькі два не беларусы, дый тое нашы людзі, бо яны ў Беларусі дагэтуль невядома колькі жылі. І вось вяртаюся я на родную зямельку, а ў нас на юрфаку траціна туркменаў, якія не тое што па-беларуску, па-руску не разумеюць.

Адзнакі ім ставяць проста так. У

нас і раней адукацыя была не самага лепшага ўзроўню, а цяпер дык і наогул. Ганьба!

Трэба, каб наша адукацыя была беларускамоўнай, гэта будзе нармальным адсейвальным фактарам.

У Тарту на маёй плыні былі два замежныя студэнты: я і фін, для якога эстонская мова як для нас — польская.

Я не супраць таго, каб да нас прыязджалі замежнікі, але няхай для іх будуць тыя ж умовы, што і для беларусаў. Каб не было патуранняў праз тое, што яны плацяць за навучанне ў два-тры разы больш.

Я ўжо не кажу пра тое, што ў нас ніхто не піша дыпломных работ — іх спампоўваюць ці замаўляюць. У Тартускім універсітэце за гэта адлічваюць адразу.

У нас студэнт выходзіць са школы і трапляе ў тую самую школу, дзе яго водзяць за руку. У Тарту не так. Там трэба самому рэгістравацца на прадметы, самому складаць графік. Гэта зручна і вучыць самастойна ўладкоўваць сваё жыццё. Там няма прапускнога рэжыму, няма абавязковага наведвання заняткаў, няма звычайных залікавак, толькі ў электронным выглядзе.

Дарэчы, у Тартускім універсітэце вучыўся Антон Луцкевіч. І Усевалад Ігнатоўскі, першы прэзідэнт Беларускай акадэміі навук. Я свае навуковыя работы пісаў якраз па беларускіх студэнтах Тартускага ўніверсітэта. Ад 1632 да 1918 года там адвучылася каля 2700 студэнтаў, што паходзілі з беларускіх зямель ВКЛ.

Дарэчы, Тартускі ўніверсітэт заснаваны на падмурках Езуіцкага калегіума, які адчынілі ў Тарту ў 1583 годзе пасля Лівонскай вайны, калі Тартаўшчына і іншыя тэрыторыі былі далучаныя да Рэчы Паспалітай. Беларусы і палякі прыйшлі ў Тарту і адкрылі калегіум, дзе ўпершыню ў гісторыі пачалі выкладаць на эстонскай мове.

**«НН»: Не было жадання застацца ў Эстоніі?**

**ІС:** У мяне заўсёды былі думкі, што трэба вяртацца, падымаць краіну з кален. У гэтым сэнсе я непрактычны чалавек. Хочацца, каб наша краіна была не горшая за Эстонію.

У Тартускім універсітэце амаль усе выкладчыкі — практыкі. Палова тых, хто выкладаў у мяне, працуе ў Вярхоўным судзе. Адзін з выкладчыкаў мае адну з найвялікшых адвакацкіх кантор у краіне.

У Эстоніі заробкі ўсіх суддзяў адкрытыя, любы можа іх паглядзець. Суддзя там атрымлівае каля 10 тысяч еўра. І ён прыходзіць ва ўніверсітэт, выкладае проста для таго, каб даць веды сваёй змене. Там існуе сацыяльная адказнасць, і людзі не пантуюцца. А ў нас усе хочуць нешта даказаць, узвысіцца за кошт кагосьці, паказаць сябе. Ды будзь ты чалавекам — і ўсе цябе ўбачаць!

Я аднаму эстонскаму выкладчыку, у якога пісаў навуковыя працы, прывозіў беларускія кнігі па БНР. Ён казаў, што размаўляць па-беларуску не можа, але можа чытаць і разумець. А нашы што?

**«НН»: Раскажыце, як вы сталі «моўным інспектарам».**

**ІС:** Гісторыя пачалася даўно, яшчэ калі я вучыўся ў Тартускім універсітэце. У 2009 годзе мяне дэлегавалі ад Эстоніі на з'езд беларусаў свету. Уступнае слова прамаўляў Павел Латушка, ён тады быў міністрам, казаў, што зробіць Міністэрства культуры беларускамоўным. Пасля ўзяў слова Стэфан Эрыксан, тагачасны пасол Швецыі, ён таксама добра размаўляў па-беларуску. Я вырашыў, што з такімі людзьмі ў Беларусі магчыма ўсё зрабіць беларускім, і пачаў перапіску з чыноўнікамі.

Праўда, Паўла Латушку адправілі ў Францыю, Стэфана Эрыксана — у Швецыю, але я вярнуўся ў Беларусь.

Ужо восем гадоў дасылаю лісты ў міністэрствы, выканкамы, розныя ўстановы з прапановай шырока выкарыстоўваць беларускую мову. Калі — дзесяць лістоў на месяц, калі — сто. Цяпер ёсць электронная пошта, стала прасцей. Ды і дзвіжуха пайшла, іншыя пачынаюць гэтым займацца.

Памятаю, аднойчы прыйшоў рускамоўны адказ ад рэктара Мінскага інавацыйнага ўніверсітэта Мікалая Сушы. Звычайна тых, хто адказвае па-руску, я прашу даць мне адказ па-беларуску. Але на гэтую просьбу ён мне даслаў штосьці кшталту: «Господін Случак, если вы не знаете русскій, то займітесь его изученіем, потому что знаніе языков расширяет кругозор» і далей у тым жа духу. Я абразіўся і ўзяўся за прасоўванне зменаў у закон аб зваротах грамадзян і юрыдычных асоб. Каб было правілам адказваць на мове звароту.

У 2011 годзе закон быў прыняты. Цяпер гэта адзіны закон, які рэгламентуе, якая дзяржаўная мова мусіць выкарыстоўвацца пры перапісцы. У іншых выпадках чорт яго разбярэ, якую мову трэба выкарыстоўваць, няма парадку.

У іншых краінах, дзе ёсць двухмоўе, — Швейцарыя, Бельгія, Фінляндыя, Ірландыя, Канада, — той, хто звяртаецца ў дзяржаўныя органы, лічыцца слабым бокам і ў камунікацыі, ён абірае мову. У Швейцарыі чатыры дзяржаўныя мовы і чыноўнікі дзяржаўнага ўзроўню павінны валодаць усімі. І заканадаўства аўтаматычна выходзіць на ўсіх дзяржаўных мовах.

У нас жа абсалютна дзікая сітуацыя. Кажуць, маўляў, беларусы не хочуць размаўляць па-беларуску. А чаму ім парусску хочацца? Таму што законы — па-руску, абслугоўванне — па-руску, этыкеткі — па-руску, універсітэты — па-руску.

Я калі прыйшоў у тэхнікум пасля беларускамоўнай школы, не разумеў тэрмінаў, таму што пабеларуску яны гучалі зусім інакш. Мне давялося зноў перавучвацца на рускую мову. Хіба я хацеў парусску вучыцца? Ды ў мяне не было ніякага выбару. І ва ўсіх няма выбару.

Чаму мы здзіўляемся, што беларускамоўных школ становіцца менш? Нашы людзі, як і ўсе іншыя, хочуць жыць як найпрасцей. Цяпер руская мова праз перагіб у дзяржаўнай моўнай палітыцы становіцца асноўнай. У гэтым і ўся праблема. Людзі проста хочуць жыць з меншай колькасцю стрэсаў. Яны не хочуць перакладаць падручнікі ва ўніверсітэце, вышукваць беларускамоўныя бланкі, не хочуць прыходзіць у кавярню і па сто разоў паўтараць адно і тое ж. Яны хочуць проста спакойна рабіць свае справы і не перажываць увесь час стрэс. І я не хачу стрэсавацца, таму часам бываю жарсткаваты да тых, хто абражае беларускую мову.

**«НН»: Дарэчы, наконт стрэсаў. Як вы спраўляецеся з бясконцымі наездамі на вас?**

**ІС:** Канечне, часам перажываю, я ўсё ж такі чалавек. Але перажываю не столькі праз абразы, колькі праз тое, што людзі не разумеюць праблему, не бачаць сутнасці.

**«НН»: Дык а пагрозы былі?**

**ІС:** Раней час ад часу прыходзілі, але так, млява. А вось у сітуацыі з падлеткам, які назваў мову «мёртвай», калі ўключыліся рускія сайты, пайшла хваля. Пісалі рознае маўляў: «Прыязджай у Цюмень, будзем есці з табой пельмень». Бывала, па 10—20 аднатыпных пагроз ад расіян прыходзіла. А вось ад беларусаў пагроз, здаецца, не было.

**«НН»: Не страшна, што калінебудзь хтосьці падпільнуе ў падваротні?**

**ІС:** Я вучыўся чатыры гады ў машынабудаўнічым тэхнікуме. Інтэлігентаў там было мала, збольшага простыя людзі. Яшчэ падчас навучання чалавек пяць пасадзілі. Мне там даставалася, першы год заўсёды плечы былі сінія.

Калі мяне аднойчы давілі, я шпульнуў у аднаго крэслам, а ў другога — напільнікам. Мне, канечне, пасля гэтага надавалі, давялося падымацца з падлогі, але пасля дыскусія перайшла ў іншую плоскасць. Усе зразумелі, што зламаць мяне не ўдасца.

У мяне былі два пераломы носа, і не таму, што я ў дзверы не ўпісаўся. У бойках іх зарабіў.

**«НН»: Што з кім не падзялілі?**

**ІС:** Адзін перелом атрымаў у Беларусі, другі — у Эстоніі. Быў там армянін, які хадзіў у цішотцы з надпісам «Россія» і лічыў сябе вялікім эстонцам. І ён быў такім надакучлівым... А я чалавек просты. Неяк не стрымаўся, сказаў яму, каб ехаў у свой Азербайджан і там дурыў галаву. Пераблытаў. Іх сям'я якраз уцякала адтуль, бо іх там рэзалі. Так дыскусія перайшла ў іншую плоскасць. Карацей, трэба добра ведаць гісторыю і геаграфію і не блытаць Азербайджан з Арменіяй.

**«НН»: Раскажыце пра сваё захапленне футболам.**

**ІС:** Футбол — якраз тая сфера, дзе беларусізацыя ідзе поўным ходам. Раней у нашым футболе не выкарыстоўвалася мова, але федэрацыя ўспрыняла беларускую ідэю.

За апошнія пару гадоў 11 з 16 клубаў сталі пісаць сваіх гульцоў па-беларуску. Да 2014 года наогул ніводнага такога клуба не было!

**«НН»: За каго заўзееце?**

**ІС:** Я спрабую заставацца нейтральным, але найбольш прыхільны да «Гомеля», бо я з Гомеля, і да «Крумкачоў», бо гэта фактычна адзіны прыватны клуб. Плюс у іх усё добра з беларускай мовай і наогул з працай з людзьмі.

У Тарту ёсць футбольны клуб «Таміка». На гульнях «Крумкачоў» атмасфера вельмі падобная на тую, што на тартускім стадыёне. Калі б яшчэ прыбраць кардоны і міліцыю, увогуле быў бы эстонскі чэмпіянат. Тарту — статысячны горад, на гульні на стадыён прыходзіць звычайна 300—500 чалавек, як і на «Крумкачоў». Там усяго два ахоўнікі. Ніхто не правярае сумкі, не забараняе піць піва, паліць дымавыя шашкі. Усё душэўна, і нічога не адбываецца. А мы здзіўляемся, чаму ў нас малая наведвальнасць.

«Крумкачы» яшчэ імкнуцца неяк свайго гледача абараніць, зрабіць так, каб яму было камфортна. А на гульні некаторых клубаў прыходзіш як у канцлагер.

У мяне ёсць акрэдытацыя большасці клубаў, бо я вяду блог «Мова Спартова», пішу пра моўныя навінкі клубаў. Плюс сёлета вырашыў праверыць, як клубы ставяцца да блогераў. Амаль што ўсе акрэдытавалі, акрамя БАТЭ, «Тарпеды-БелАЗ», «Віцебска» і «Нафтана».

**Настасся Роўда, фота Сяргея Гудзіліна і з архіва героя**




**Я спрабую заставацца нейтральным, але найбольш прыхільны да «Гомеля», бо я з Гомеля, і да «Крумкачоў»**

Ну і ну

## Міліцыя склала больш за 100 пратаколаў на ўдзельнікаў фестывалю ў Браславе

На фестывалі «Viva, Браслаў» больш за ўсіх, відаць, працавала міліцыя, паведамляе «Беларускі партызан».

У першы дзень на фестывалі дзяжурылі 75 міліцыянтаў, а ў другі — ужо больш за 100.

У выніку ў першы вечар да адміністрацыйнай адказнасці было прыцягнута 25 чалавек (з іх 7 непаўналетніх), а ў другі — з суботы на нядзелю — складзены 54 адміністрацыйныя пратаколы.

З іх 38 — за распіванне спіртных напояў ці знаходжанне ў грамадскім месцы ў п'яным выглядзе (11 непаўналетніх), 7 — за дробнае хуліганства. Трое бацькоў будуць адказваць за тое, што ў позні час іх дзеці знаходзіліся без нагляду дарослых, 6 асоб затрыманыя за ўцягванне непаўналетніх у антыграмадскія паводзіны.

Акрамя таго, як паведамляе мясцовая прэса, быў выяўлены факт незаконнага абароту наркотыкаў.

Viva Браслаў — гэта адзіны буйны фестываль у Беларусі з пляжам, шырокай спартыўнай праграмай і намётавым мястэчкам.

# «Хацеў бы, каб на маім пахаванні таксама спявалі, толькі ці будзе каму?»

Пра традыцыю пахавальных спеваў распавядаюць жыхары Смаргонскага раёна.

Спевы па нябожчыках — традыцыйная частка пахавальнага абраду, якая яшчэ захавалася ў правінцыі, але паціху знікае. Звычайна спевакі — людзі пенсійнага ўзросту, маладыя сярод іх — рэдкасць. Пра пахавальныя спевы мы паразмаўлялі з апошнімі смаргонскімі захавальнікамі традыцыі.

### Яніна Блажко, 94 гады

Цяпер няма такой моды, а раней часта пялі. Як Юр'я, 23 красавіка, тады ж лезем, каб дзе вышэй. На дрэвы, ці свірны былі з бальконачыкамі — дык на балькон на гэты. Пяём звысока, вёскай сабраўшыся. Чуем: там Паляні пяюць, там — Будзілкі, там — Хацілавічы. Я праваднічая заўсёды была — гэта значыць, за мной пялі. Як ішлі вёскай на вяселле — такі закон быў: пялі. Цяперака помню гэтыя песні як праз туман. І вясельныя, і па нябожчыках.

Павучок па небу йдзець,
Павучынне ў дом падзець,
Марыйка за стол ідзець,
Мамачцы да ног падзець:
«Мамачка родная,
Блаславі мне сцежачку,
Сцежачку мяцёную
Дзіцяці радзонаму,
Сцежачку таптаную
Дзіцяці каханаму».
А ў нядзельку раненька
Сонца з неба коціцца,
А мамачка родная
Ў Пана Бога просіцца:
«Ой, Божа-збавіцелю,
Пусці мяне на вяселле.
Я ў хатку не пайду,
Пад аконцам пастаю.
Пад аконцам пастаю,
На сіротку пагляжу,
Ці стройна прыбраная,
Ці шчыра благаслаўленая».
Убраная, як панётка,
Бласлаўлёная, як сіротка.

Мне было гадоў шаснасце, як начала па пахаронах пяяць. Не адна — з дзяўчатамі. Сястра мая Юзэфа была і Грышчыха. Дзе хто ідзе спяваць па нябожчыку — кажуць: «Прыдзіце памажыце», і мы ідзем у пахараны. Так і прыладзіліся. Перш не плацілі, гэта после можа хто кофія баначку купіць і платок на галаву. Толькі кармілі.

Неяк было песеннікаў многа. Антося Шчэрбачава хадзіца пяяць, Франук Крыстынін, Юлісь Якубачкаў — мой бацька хрышчоны, Болюсь Мізулаў, Рэня, Антося, Амэльця Янчыкава, Сабіна Лявонава, Алёшчыха, Фалевіч дзядзька Юзюк — татаў брат.

І тата наш пяяў. Вясёлы быў чалавек: на Ганны ў Жодзішкі паедзе, вып'е, пакладзем яго на калёсы, і ён усю дарогу песні па нябожчыках галосіць. Ці сястры сына забілі дзецюком у Выгаленятах. Тата мувіў-мувіў, пяяў-пяяў па ім, а тады на канцы: «Нех бэндзе похвалёны Езус Хрыстус».

Надта добра, што цяпер водкі няма на пахаваннях. Бо нап'юцца — ракам выходзяць. Як хавалі Янушкевічыху, нейкая водка была «Алеся». Пялі-пялі — як наалесіліся, прыйшлі вечарам за стол, дык пяяў ужо Зыгмонцік — тады за Зыгмонцікам усе пялі. Да адной павернецца — тая крычыць, да другой — крычыць. А назаўтра ня пела ніводная — ахрыплі. Мы з Зыгмонцікам удваіх і дапялі, бо я не піла.

Цяпер дык скора і хаваюць. Сусед учора памёр, а сёння паўдванаццатай і папраўдзяць. А перш жа ж две начы начаваў нябожчык у хаце. Пялі адзін вечар, цэлы другі дзень і назаўтра дзень. Я з ксёнжкі пяяла, а цяпер ужо новыя песні, павыпісываныя, і па-руску, і па-беларуску. Пяяла, пакуль магла. Не стала магчы — не пайшла. Тады Гэня стала хадзіць, мяне замяніла. Зараз ужо не будзе каму: гэтыя паўміраюць, а новых няма.

* * *

*Размова Яніны Блажко з дачкой Тарэняй:*

*— Ну як там пяюць? Чуваць хоць троху?*

*— Чуваць. Галюня добра пяець.*

*— Кінулася б і ты там. Тожа ж голас нічога маеш.*

*— Можа, каб якія брындушкі. І тое — цяпер ужо няма хэнця пяяць.*

*— А Марыся ж Рагачова такая ж ахотніца. Пяець?*

*— Пяець. Кажуць: «Марыся, ты не так цягнеш». «Слухай, як хачу, так пяю».*





### Чэслаў Курчэўскі, 58 гадоў

Спяваю з 1991 года, у асноўным — адзін, але, бывае, з бабай Зосяй — ёй 89 гадоў, але спявае харашо. Многа пахаваў і не толькі на Смаргоншчыне. Ашмянскі, Воранаўскі, Астравецкі, Валожынскі, Маладзечанскі, нават у Мінску быў. Я, атрымліваецца, чацвёртае пакаленне па мацярынскай лініі, якое спявае. Музычнай адукацыі ў мяне няма, але маю харошы слух і голас — прыемны лірычны тэнар. Быў такі Ходаш Мікалай Іванавіч, ён вёў клуб, калі я працаваў у Суцькаве настаўнікам беларускай мовы, — тады і паставіў мне голас.

Цяпер добра, ёсць услугі рытуальныя ў Смаргонях — усё праз іх робіцца і спевакам рэклама ідзе. У Смаргонях іх аж пяць. Прыходзяць людзі па труну, вянкі: «А пеўчыя ў вас ёсць?» І ў касцёле на вахце мой тэлефон ляжыць.

Пачынаў спяваць па католіках, цяпер хаджу і па праваслаўных. Закону такога няма, каб па веравызнанні адпяваць. Але ў мяне ўсё афіцыяльна, ёсць дазвол. Ездзіў у Ліду да Гурыя, архіепіскапа праваслаўнага, дабіўся сустрэчы, маю дакумент.

Па праваслаўных спяваць складаней: трэба адчытаць вялікія малітвы, цэлую кніжку, 450 старонак, 20 кафізмаў. Я адчытваю нараспеў, прыгожа атрымліваецца. Кожную кафізму чытаю 45-50 хвілін. Звычайна забяруць у якіх 6 гадзін, дык 10 гадзін чытання — бывае, і не ляжаш. І цэлы дзень назаўтра. І песенькі праваслаўныя таксама ёсць. Але песенькі — пастолькі пасколькі. Бацюшкі найперш звяртаюць увагу, ці адчытаныя кафізмы. А тады ўжо можна і песенькі — да Святой Багародзіцы, да Нікалая Угодніка, да Ісуса Хрыста, Госпада нашага.

Песні падбіраеш вэдлуг таго, на якім пахаванні знаходзішся. Калі мама маладая памірае, то спяваем сіроцкія песні. Для дзяцей асаблівых песенек няма, але тады можна да Маткі Боскай, бо дзяця — бязгрэшнае, анёлак. Ёсць песні вельмі жалосныя — пра тату, пра маму, там такія словы — бяруць за душу. Калі дзеці бацькоў хаваюць — дык гэта так прынята. А калі ўжо бацькі дзяцей, ды маладых — і мы не каменныя, просім — пацярпіце. Бо камок у горла падступае і ўсе спевы закладае.

Я і сам чалавек гаротны, мама памярла маладой, я яшчэ студэнтам быў. Нікому не адмаўляю — спяваў і па нехрышчоных, і па нешлюбаваных, і па тых, што рукі на сябе наклалі. Але бываюць пеўчыя і не ідуць — пытаюцца, якая прычына смерці. Кажуць: «Па вісельніку ці па п'яніцу не будзем спяваць». Але я думаю так: касцёл імшу адпраўляе? Адпраўляе. Хай бог іх судзіць. І я ніколі нікому не адмовіў. Нават калі, бывае, людзі і сярод ночы з пасцелі падымуць — прыязджаюць здалёк — і за 60, і за 80 кіламетраў. Бо і пеўчых ужо мала, і, ведаеце, так паміраюць людзі — па-страшнаму.

### Алена Алянцэвіч, 79 гадоў

Сначала я на хор пайшла, мяне сам ксёндз выбраў. Як касцёл адкрылі, ксёндз кажа: «Хто мае голас, хадзіце ў хор». Трэба было песню спяяць, ён сам правяраў. Я пяяла «Сэрдэчна Матка, опекунка люду». Кажа: «Маеш добры голас» і запісаў. Як дзеўкай была, не знала, што спяваю, пакуль у касцеле не сказалі. Усе пяюць — і я пяю, а ці я панімала, што ў мяне слух? А цяпер паявіўся. Арганіст у касцеле зайграе — я ўжо знаю, якая песня будзе, ці дзе фальшыва — тожа чую.

Тады бабы з хора, што хадзілі пяяць па пакойніках, кажуць: «Людзей не хватае, нехта забалеў», — пазвалі мяне. Пайшла, папрабавала, харашо палучылася — мяне ўзялі ў кампанію. Так мы ўтраіх і хадзілі: Ірына Гіль, Ядзя Дзевяцень і я. Я з іхных песеннікаў пяяла, сваіх не мела. У шэсць начыналі, у дванасце канчалі. Назаўтра ідзём на імшу на восем гадзін, пасля ідзём зноў пяяць.

Раней было так — хто сколькі дасць. Цяпер, чула, стаўка — 30 рублей на аднаго чалавека за ўсё. Нават у вёсцы ўжо бяруць. Няма каму пяяць, папаміралі спевакі, дзефіцыт.

Першыя разы дык плакала. Людзі плачуць — і я плачу, а патом прывыкла. Толькі па маладых плакала, па старых ужо не. Як што — дык валідол піла ці карвалол. На адных пахаронах палучыла гэту во трасуху. Маладая жэншчына, 40 гадоў, ну такая красівая!.. Балезнь у яе была — пяць дней сядзела ў кустах, каб смерць сабе зрабіць. Дзепрэсія. Дачка такая красівая, сын такі красівы, у кварціры такая красата, мужык усё: «Красавіца мая, красавіца...» Такая стройная, так я спужалася, так сплакалася, што стала трэсціся пасля таго.

Я прывучылася — мне і хацелася ўжо пяяць. Не тое, што хадзіць па похаранах — проста я пяяць любіла. І между людзьмі заўсягды, не сядзіш дома. То ў касцёл, то на кладбішча — всегда заняты. А то ляжыш адзін, самае страшнае — гэта ляжаць. І песні стала забывацца.

### Альбіна Кляпацкая, 82 гады

Тата мой пяяў у Шутавічах. Збіраліся па 12 чалавек, спявалі і грошы не бралі. Я, як на хор стала хадзіць, пяяла разам са Стасяй і Аняй Кубліцкай. Кубліцкая ў ларку касцельным прадавала, памярла ўжо, мы і па ёй пялі. Цяпер хор разляцеўся, і арганіст сышоў, і жонка яго.

Цяплом трошкі меней паміраюць, а зімой дык было шмат. Я пачці не пяю ўжо, здароўя няма. Хто ў Смаргоні пяе — дык гэта пан Чэслаў з Чапаева. Ён прайшоўшы Вільню-Трокі. Такі католік, што свет не знае! Граматны, як ксёндз.

* * *

*Размова Альбіны Кляпацкай з Чэславам Кежунам:*

*— Пан Чэслаў, добры дзень!*

— ...

*— Як здароўе?*

— ...

*— У Сукневічах адпяяў? Мяне ж бралі, але я ў касцеле на восем была, не дазваніліся.*

— ...

*— А Рэні чаму не пазванілі?*

— ...

*— Ну, яе трудна злавіць, трудна.*

— ...

*— А хто там, малады ці стары?*

— ...

*— А Божа ж мой мілы!..*

— ...

*— Але ж адпяяў жа ж.*

— ...

*— Ну, дзякуй Богу.*

### Чэслаў Кежун, 89 гадоў

Я мог даўно спяваць, яшчэ ў сябе на радзіме,6 на Астравеччыне. Засценак Варонка — я адтуль. Мой дзед па мамінай лініі, мама з сёстрамі — усе спявалі па нябожчыках. Але 40 год рабіў бухгалтарам, з іх 30 — галоўным. Нельга было. Мог бы і дырэктарам стаць, але не хацеў у партыю ўступаць.

Я з першага класа ўдзельнічаў у пастаноўках. У 41-м годзе наша школа ў Астравецкім раёне заняла першае месца сярод хораў. У нашым рэпертуары былі польскія, беларускія, рускія, украінскія і нямецкія песні.

Голас з маленства меў.

Быў такі случай, я спяваў на Вілейскай, утраіх мы былі. З Мінска прыехаў нейкі сваяк, бачна, знакаміты. Ён слухаў, як мы вечарам спявалі, потым слухаў нараніцу, потым — пасля пахавання, за абедам у «Спадары». Пад самы канец падыходзіць да мяне: «Сколько вам лет?» «85», — кажу. «Если б вам было 60, я позвал бы вас в свой ансамбль». І ўвогуле, дзе ні пайду — усюды хваляць. Ня ведаю — ці заслужана? То называюць Лешчанкам, то Кабзонам. Апошняе, што чуў, — «смаргонскі салавей». Але хто сам сябе хвалі, нех го Пёрун спалі, як кажуць.

Я тады якраз на пенсію выйшаў — мяне пазвала спяваць жэнщчына з Камсамольскай, яна з мужам пела. Пачула мяне ў касцеле і пазвала. Свае песнінікі я перапісаў ад яе. Мы спявалі і ў праваслаўных, і ў каталікоў. Потым яе муж памёр, яна прыгласіла пець яшчэ аднаго мужчыну. Мне цяжкавата было па праваслаўных хадзіць, я папрасіў, каб мяне звалі толькі да каталікоў. Дык як вышла — той мужчына рабіў у сельхозхіміі. У яго распараджэнні былі два каня. Як пачнецца вясна — агароды. Дае каня — сам тады ужо не можа рабіць. І зноў мне звоняць, прыходзіцца па праваслаўных спяваць.

Калі я выйшаў на пенсію у 87-м, то 13 год яшчэ працаваў ахоўнікам. Бывала, просяць пасняваць, а ў мяне дзяжурства. Тады я дамаўляюся з начальнікам, жонка ідзе за мяне працаваць, а я — на пахаванне. Калі не было з кім спяваць, яна са мной ішла, дапамагала.

...Гэтта былі застольныя часы. Па тры дні гулялі пахароны. Самагонку канамі выпівалі. Нават нам, спевакам, як сыходзім, — кусок кілбасы самаробнай і бутэльку самагонкі ў кішэню. У горадзе і грошы давалі. Тады ўжо была стаўка — за вечар і назаўтра — 15 рублёў.

У вёсках платы не было. Там, калі ў сям'і быў хто ўжо слабаваты, то трымалі на выпадак кабанчыка. Пад страхой ляжалі дошкі на труну. Калі чалавек паміраў — запрашалі двух мужчын яе збіваць. Габлюшкі пад бок аббівалі саматканым палатном. У падушачку клалі свянцоныя зёлкі. Пакуль зробяць труну, нябожчык ляжыць на доўгім зэдлі. Гэты зэдаль служыў усёй вёсцы. Чатырох мужчын клічуць капаць магілу. Спевакоў было не так, як цяпер, — а 6—8 чалавек. Вечарам у хаце ўся вёска. Кажды павінен сесці за стол, паесці і выпіць. Не сільна. Назаўтра, як пахаваюць, стол ужо настаяшчы. Радня, як раз'язджаецца, трэба з сабой даць бутэльку і закуску, каб назаўтра пахмяліцца. Тады ўжо глядзяць, калі кана ад малака вымытая на плоце вісіць, значыцца, нечага сюды ўжо заходзіць, бо няма чаго выпіць. Добра, цяпер няма такой моды. Але бывае прэдлагаюць, асобенна вечарам: «Ну па келішку ж можна, каб лепей спяваць». «Не, — кажу, — мне яна мешае».

За 30 год, я так падлічыў, недзе 600 чалавек адпяяў. Раней я ўлік не вёў, толькі чацвёрты год. Пахаванняў было менш, ды і занятак — пішаш, справай займаешся. Я б пачытаў — выпісваў газету «Друг пенсіянера» і часопіс «Я на пенсіі». Але там такі дробны шрыфт, што не змог чытаць.

Я так ксяндзу сказаў: «Каб я столькі ўдзельнічаў у пахаронах, колькі вы, я б ужо цэлую Гродненскую дыяцэзію абслужыў бы». Я чатырнаццаць гадзін аддаю нябожчыку, а ксёндз? Мша святая 30—40 мінут. Вынесці труну з дома — 20 мінут. На могілках — 15—20 мінут. Вот і ўвесь удзел. Я пяю з вечара да 11-ці. З раніцы мша, мяне забіраюць у касцёл, пасля мшы — зноў спевы дома, спяваем, пакуль не пахаваем і не адбудзем абед.

Летась давялося трох вісельнікаў адпяваць. Праваслаўны бацюшка не моліцца за такіх. Тады звяртаюцца да ксяндза, і ён адпраўляе мшу. Але дамоў ці на могілкі не ідзе. І спевакоў завуць нашых, мы па-польску тады спяваем. Я не адмаўляю ніколі, мы за іх не адказваем, яны самі за сябе там адкажуць. Па ўсіх пяю. Па бацьку і маці толькі не спяваў. А так — па сястры, па брату, па цётках. Я ўжо прывык, смерці не баюся, нават сваёй — хоць сёння. Некаторыя на могілках баяцца, як чуць сцямнее, а мне нічога. Ці спаткаць кагох з блізкіх памерлых. Я радаваўся б — пагаварылі б хоць.

У нашай дыяцэзіі выдалі спецыяльную кнігу, 152 песні толькі па нябожчыках. І з Мосара кніжачку з песнямі погжэбовымі купіў, яшчэ ксёндз Юозас Булька-нябожчык выдаваў. Тут 22 пытанні з адказамі, калі хто не знае, як праводзіць пахаванне. Бывае ж, людзі нават не ведаюць, як рукі нябожчыку скласці. Я прыходжу і гляджу, ці правільна. Калі не — кажу памяняць. Бо калі трэба пержагнацца — не будзеш жа левай рукой, якая зверху ляжыць.

Хацеў бы, каб на маім пахаванні таксама спявалі, толькі ці будзе каму? Добра было б, каб Альбіна, але яна ў апошні час адмаўляецца. Нядаўна ледзь угаварыў паспяваць на Якуба Коласа. У Польшчы толькі на вёсцы яшчэ спяваюць, у горадзе ўжо не. Жалобныя музыка ўключаецца — і ўсё. Лічыцца, што спеў — гэта ў два разы большая малітва. У іншых раёнах ёсць людзі, якія запісваюць такія спевы на магнітафон ад пачатку і да канца. Потым можна ўключыць на любым пахаванні — няхай лепш так, чым проста музыка.

smorgon.org

# Жыхары вёскі Заказанка шукаюць управу на суседа, які здае дом пад вяселлі і карпаратывы

«З суседам сябруй, а плот гарадзі», — востра заўважае народная мудрасць. Праўда, не заўсёды ратуе і плот. Пяць гадоў таму Яўген Лявіт купіў у Заказанцы, што за шэсць кіламетраў ад Брэста, участак пад будаўніцтва. Зараз у доме вядуцца працы па аздабленні. Пры найлепшых раскладах Новы год Яўген з жонкай Ірынай і дзецьмі-ўнукамі планавалі сустрэць у новым доме. Але цяпер сумняваецца, ці перасяцца з горада сюды наогул. Прычына — у шумным суседстве. Два гады таму сусед пачаў здаваць на ўчастку лазню кампаніям, а ў гэтым годзе пабудаваў банкетну залу з бруса.



«Надакучыла мітусня вялікага горада? Хочацца ўтульнасці, цішыні і яднання з прыродай? Тады вітаем у аграсядзібе «Заказанка». Сядзіба складаецца з аднаго вялікага драўлянага дома з унікальным мікракліматам натуральнага дрэва», — значыцца ў рэкламным тэксце сядзібы. І тут жа — прапанова арганізаваць банкет. Банкеты здараюцца часта.

— Вось ужо месяц я здымаю відэа гэтых шумных гулянак за плотам. Толькі так я магу даказаць, што гэта сапраўды перашкаджае мне жыць! — Яўген Лявіт дэманструе на сваім тэлефоне відэа, знятае на апошніх выхадных. Потым яшчэ адно і яшчэ. Музыка грыміць так, што здаецца: музычны цэнтр стаіць дзесьці побач, на тэрасе дома. На самай справе шумнае вяселле святкуецца ў банкетнай зале на суседнім участку. І так — амаль кожныя выхадныя. Сям'і Лявіт «пашэнціла» больш за астатніх — іх ўчастак суседнічае з неспакойнай аграсядзібай.

Заказанка — дзіўнае сяло. Тут няма выразна акрэсленых вуліц, дамы раскіданыя па лесе па прынцыпе хутара, і зусім побач дзяржаўная мяжа. Дамы Лявітаў і злапомны суседскі ўчастак размешчаны на вуліцы, па іроніі лёсу названай Ціхай.

Па адукацыі Яўген — ландшафтны архітэктар, таму будаўніцтва дома стала для яго сапраўдным выклікам. Было цікава, ці ўдасца захаваць натуральную флору гэтага кутка прыроды. Удалося.

Выбіраючы жыццё на зямлі, Лявіты хацелі максімальна наблізіць сваё месца пражывання да натуральнай прыроды. Таму фасад дома выходзіць на самаробную сажалку, акружаную хвоямі, туямі, елкамі. Усё зроблена сваімі рукамі.

З суседам па ўчастку ў Яўгена спачатку склаліся абсалютна нармальныя, партнёрскія адносіны. Даведаўшыся, што той займаецца распілам драўніны, Яўген Лявіт не адзін раз карыстаўся яго паслугамі. Усе бэлькі, іншыя драўляныя канструкцыі для дома заказваў у суседа. Пакуль не пачалася гэтая вакханалія. Спачатку сусед адбудаваў лазню за два метры ад плота і адразу ж пачаў яе здаваць.

— Яму што — ён заселіць людзей і з'язджае, а мы з усім гэтым жывём. Тыя, хто прыязджае адпачыць, расслабляюцца як умее. Хтосьці адпускаў непрыстойныя жарты на адрас маёй жонкі, хтосьці з лазні выбягаў на двор голым... Калі б гэта было толькі раз, ну два — можна пацярпець. Але кожныя выхадныя! У мяне маме 92 гады, у яе стаіць кардыёстымулятар, унукі — школьнікі. Яны прыязджаюць сюды, каб адпачыць. Але атрымліваецца нейкі занадта шумны адпачынак, у старых скача ціск. Спецыяльна, каб было менш шуму, я паставіў ралеты ў праёме, які вядзе на бок суседзяў. Але гэта не ратуе, нават з іншага боку дома мы чуем гэтых Верак Сярдзючак. Святы — гэта вельмі добра, але, паверце, цяжка жыць у адным суцэльным свяце.

Яўген з Ірынай пакуль не заехалі ў новую хату, але ўжо разумеюць, што пры такім суседстве жыцця ім не будзе. Вокны спальні выходзяць наўпрост на бок лазні, якая здаецца ў арэнду. Значыць, аб спакойным сне можна забыцца.

Спробы пагаварыць з суседзямі закончыліся беспаспяхова. Спачатку Яўгену было сказана, што той хоча знішчыць чужы бізнэс, а пасля зносіны спыніліся зусім. Некалькі разоў Лявіты і іншыя суседзі выклікалі ўчастковага, звярталіся ў сельсавет. Але праблема засталася.

— Калі б гэта былі класічная аграсядзіба, якая прапагандуе традыцыйную беларускую культуру, — я б слова не сказаў, — тлумачыць Яўген. — Яшчэ б і падтрымліваў пачынанне: у мяне ёсць квадрацыкл, і я б з радасцю катаў на ім пастаяльцаў па лесе. Аднаму сумна, звычайна ўнукі чакаюць. Але гэта не той выпадак — дадзеная сядзіба здаецца пераважна пад шумныя п'яныя вечарынкі. З гэтым я не магу пагадзіцца.

Яўген з суседзямі напісалі зварот у райвыканкам, але выхарпалі адказ не атрымалі: «Кіраўніцтвам райвыканкама праведзена тлумачальная размова з гаспадыняй аграсядзіба наконт захавання правілаў». У выпадку парушэння правапарадку рэкамендую звяртацца ў органы ўнутраных спраў». Пры гэтым жыхароў Заказанкі абнадзеілі, што цяпер распрацоўваецца законапраект, які будзе рэгуляваць пералік паслуг, якія аказваюць суб'ектамі агратурызму. Зрэшты, у найбліжэйшыя пасля атрымання афіцыйнага адказу выходныя шумнае вяселле ў аграсядзібе паўтаралася.

Уладальніца аграсядзібы Марына Амяльчук з довадамі суседа катэгарычна не згодна, мяркуючы, што суседу не падабаецца іх бізнэс:

— Мы не ведаем, як з імі змагацца. Так, у нас бываюць госці, так, многія з іх шумяць. Але не настолькі, каб перашкаджаць тым, хто яшчэ нават не жыве па суседстве. Гэты ўчастак мы атрымалі як грамадзяне, якія маюць патрэбу, — у нас трое дзяцей. І я не разумею, чаму людзі, купляючы ўчастак, не даведаліся загадзя, што будзе ў іх па суседстве. На нас не складзена ніводнага пратакола. Прыязджаў участковы, але гэта было ў светлы час сутак. Мы заўсёды настройваем гасцей на тое, каб без пятнаццаці адзінаццаць яны спынялі шум. Але хто можа забараніць шумець днём? У банкетнай зале калонка заўсёды накіравана ўнутр памяшкання, каб не было моцна шумна. Мы развіваем аграэкатурызм — можам прапанаваць стравы нацыянальнай кухні, для дзяцей у нас ёсць паслуга аніматараў. Мы вельмі стараемся, нам нічога не даецца проста так, і не разумеем, чаму да нас такое стаўленне. Я думаю, гэта банальная зайздрасць. Людзі баяцца, што мы станем багацейшымі за іх. Нідзе і ніколі ў нас не было канфліктаў з суседзямі, а тут не зразумела што. Але бізнэс мы не закрыем, пра гэта не можа быць і гаворкі.

Яўген Лявіт разумее, што наладзіць адносіны з уладальнікамі сядзібы не ўдасца, але яго ўласны спакой даражэйшы за далікатны мір з суседзямі. Ён будаваў дом для таго, каб сустрэць у ім ціхую старасць, і зусім не планаваў быць няпрошаным госцем на чужых вяселлях.

**Афіцыйна**

Увосень 2016 года ў Савет міністраў паступіў праект зменаў №372 да Указ «Аб мерах па развіцці аграэкатурызму ў Рэспубліцы Беларусь», у якім указвалася, што ніякіх вяселляў і карпаратываў на сядзібах быць не павінна, а колькасць гасцей абмяжоўвалася 20 чалавекамі. Тым, хто не ўпісваўся ў зададзеныя рамкі, прапаноўвалася зарэгістравацца ў якасці індывідуальнага прадпрымальніка. Аднак гэтыя змены так і не ўступілі ў сілу. Як і запіс пра тое, што ўладальнікі сядзіб за кожнае вяселле павінны былі плаціць дадатковы падатак. У выніку, выплачваючы ў бюджэт адну базавую велічыню на год, можна на законных падставах ладзіць банкеты, вяселля, навагоднія карпаратывы.

Паводле «Вечерній Брест»

# Наступствы бязвізавага ўезду дайшлі да Глыбоцкага раёна

Піша **Кастусь Шыталь.**

Наступствы бязвізавага ўезду дайшлі і да нас. Днямі ў вёсцы Валодзькава Глыбоцкага раёна размаўляў з турыстамі з ЗША пра лёс беларускай мовы, уніяцкую царкву і «Нашу Ніву».

А сустрэча атрымалася зусім выпадкова. Проста не хацеў сядзець дома. Як звычайна ў такіх выпадках, спадарожнымі машынамі дабраўся да Глыбокага. Абы трапіць у Глыбокае — а там будзе бачна... Прыехаўшы ў горад, узгадаў пра Юлію Буку, гаспадыню вядомай агратурыстычнай сядзібы ў вёсцы Валодзькава. Тэлефаную.

— Добры дзень, спадарыня Юлія! Як вы там маецеся?

— А во, амерыканцаў чакаем. Будзем іх нашым бацвіннем частаваць. Калі хочаш, пад'язджай.

— О, цудоўна. А я і думаў да вас выбрацца. Скора буду.

Прыгарадным аўтобусам «Глыбокае — Лужкі» даязджаю да павароты на Валодзькава. Праходжу праз вёску, прыходжу на падворак спадарыні Юліі. Звычайная вясковая хата. І турыстаў спадарыня Юлія прымае ў хатах, скупленых ад былых гаспадароў, дзе захаваная вясковая атмасфера...

У публікацыі ў беларускай прэсе трапляе не толькі спадарыня Юлія са сваёй сядзібай, але і яе дзеці. «Наша Ніва» нядаўна пісала пра Даніка Буку, сына спадарыні Юліі, які паехаў вучыцца па праграме Каліноўскага і стаў чэмпіёнам Польшчы па муай-тай.

Гаспадыніна сучка Магда першая заўважыла маё з'яўленне і пачала брахаць. Заходжу ў хату.

— Прывітанне, Кастусь! Мы тут трохі занятыя. Схадзі ты да Насты, а потым прыйдзеш, мы цябе нечым пакормім, — кажа спадарыня Юлія. Мы з гаспадыняй даўно і добра знаёмыя, яна да мяне ставіцца па-свойску.

— Якой Насты?

— Мастачка, з Наваполацка, адпачывае ў нас. Вы ж з ёй знаёмыя...

Ашалець! Вось трапіў дык трапіў! Наста — адна з самых светлых людзей, якіх я сустракаў за жыццё. Мы пазнаёміліся некалькі год таму ў мястэчку Лужкі. Дзяўчына скончыла віцебскі «худграф» і папрасілася, каб яе размеркавалі ў вёску. Тры гады адпрацавала настаўніцай малявання ў Лужэцкай мастацкай школе. Я ўсё хацеў выбрацца да яе на госці ў Лужкі — ды ніяк не атрымлівалася. А тут такая нечаканая сустрэча!

Падлога хаты, дзе спынілася Наста, засланая акварэльнымі і графічнымі малюнкамі. Дзяўчына малюе вясковыя хаты, краявіды. На электрычнай плітцы яна ставіць ваду на гарбату, мы ідзём у пакой і размаўляем пра многія рэчы.

Як добра сустрэць чалавека, з якім аднолькава глядзіш на свет!

Нашую размову перапыніла Алеся, дачка спадарыні Юліі. Зайшла ў хату і кажа:

— Наста! Кастусь! Хадземце! У амерыканцаў змяніліся планы — праз гадзіну будуць у нас.

На падворку спадарыні Юліі мітусня. Трэба хутка накрыць стол для чатырнаццаці чалавек. Стол накрываем пад голым небам. Я дапамагаю, чым магу. Наразаю яйкі, вылоўліваю з чыгунка скабкі (рэбры), расстаўляю посуд. Спадарыня Юлія і дзяўчаты бегаюць, спехам усё рыхтуюць.

Наста раскладвае на тэрасе лазні свае малюнкі — прапанаваць іх турыстам як сувеніры.

Толькі паспелі ўсё падрыхтаваць — як на вясковую вуліцу павярнуў вялікі турыстычны аўтобус. Турысты павыходзілі з аўтобуса і сабраліся на падворку спадарыні Юліі.

Спадарыня Юлія расказала пра сваю сядзібу ды пра тое, якія стравы прыгатавала турыстам. А там былі суп з бацвіння са скабкамі, грыбы, клінковы сыр, кіслае малако, напой з зёлак, бярозавы сок, хворас... Стаялі і невялікія пляшкі крамбамбулі... А бульбу зварыць не паспелі: было дамоўлена, што турысты пазней прыедуць. Турысты паселі за стол.

Амерыканцы не толькі ахвотна елі беларускія стравы, але і шмат распытвалі ў гаспадыні. Што за страва, з чаго зроблена? Сярод іх аказалася мо' чацвёра вегетарыянцаў — адмовіліся ад бацвіння са скабкамі. Ну нічога, замест мяса грыбоў паелі.

Турысты пад'елі і пачалі выходзіць з-за стала. Разглядалі малюнкі Насты з вясковымі хатамі — дзесяць малюнкаў набылі сабе на памяць пра Беларусь. Некалькі турыстаў пайшлі паглядзець хаты, у якіх спадарыня Юлія прымае гасцей. Казалі, вельмі добрыя — вясковы каларыт спалучаны з сучаснымі выгодамі. Сталі завязвацца ў нас размовы. Адна з турыстак, габрэйскай знешнасці жыхарка Лос-Анджэлеса, распавяла, што ейныя карані аднекуль з-пад Слуцка. Яна спрабавала даведацца болей пра сваіх продкаў, але пакуль што не атрымалася.

Пыталася ў мяне, ці былі габрэі ў маёй мясцовасці і які быў іх лёс падчас Другой сусветнай.

А найбольш уразіла гутарка з амерыканскай кіраўніцай турыстычнай групы. Як яна даведалася, што я вывучаю мясцовую гісторыю, то запытала, якія тэмы вывучаю апошнім часам. Тут нам дужа дапамог малады хлопец з рускамоўнай сям'і з Нью-Ёрка, які ведае ўкраінскую і дасканала разумее беларускую. Ён нам перакладаў.

Я адказаў, што апошнім часам займаюся міжваенным перыядам — пераглядаю тагачасныя газеты, шукаю артыкулы пра Глыбокае і ваколіцы. Тады амерыканка стала мяне распытваць пра моўную і нацыянальную сітуацыю. Я адлюстраваў тую сітуацыю на прыкладзе свайго сваяка, каталіцкага святара Францішка Рамэйкі. Ён прапаведваў Божае Слова беларусам па-беларуску і за гэта быў зненавіджаны польскімі адміністрацыйнымі і духоўнымі ўладамі.

Далей амерыканка стала пытацца ў мяне пра лёс грэка-каталіцкай царквы ў Беларусі, пра моўную сітуацыю ў наш час. Мяне здзівіла яе дасведчанасць у беларускіх справах. Кажа, што ў турыстычнай групе многія абмяркоўваюць пытанне пра тое, чаму беларусы карыстаюцца рускай, а не сваёй мовай.

— Гараджане і багатыя жыхары раней не размаўлялі па-беларуску. Па-беларуску размаўлялі ў вёсках, і беларуская мова доўгі час лічылася другараднай, вясковай... — кажу я. — Першая газета на беларускай мове стала выходзіць толькі ў 1906 годзе...

— «Наша Ніва»? — перапытвае амерыканка.

— Так, «Наша Ніва». Яна была заснаваная ў 1906-м, а ў 1991-м была адроджаная, працягвае традыцыі таго старога выдання. Я з'яўляюся адным з аўтараў «Нашай Нівы», — кажу.

— А як вы вырашылі размаўляць па-беларуску?

— У маёй сям'і, — кажу, — ніхто ніколі не гаварыў па-руску. Мае бацькі, дзяды і прадзеды гаварылі па-беларуску, на мясцовым дыялекце. Пакуль хадзіў у школу і жыў з бацькамі, я размаўляў так, як размаўлялі дома. А калі паехаў у горад, то працягнуў карыстацца беларускай мовай...

Мы б гаварылі і далей... Амерыканка пыталася ў мяне пра адрозненні тарашкевіцы і наркамаўкі і ці існуе ў наш час самаідэнтыфікацыя «тутэйшыя»... Але мусілі перапыніць размову: беларускі гід паклікала ўсіх у аўтобус. Турысты развіталіся з намі беларускімі словамі «Да пабачэння!» і «Дзякуй!».

Развітаўшыся з турыстамі, мы нарэшце расслабіліся. Селі павячэралі, пагаварылі. Я не мог заставацца даўжэй — ужо вечар, а трэба даехаць спадарожнымі машынамі ў Параф'янава. Праз паўгадзіны пагодным ліпеньскім вечарам я гляджу на Глыбокае: на Копцеўку, капліцу святога Іллі і калону, велічныя муры і вежы Кармелітаў ды акуратную забудову Замкавай. «Прыгожы горад!» — падумаў я чарговы раз. Глыбокае не перастае ўражваць...

У цэнтры Глыбокага сустрэў яшчэ адну купку іншаземных турыстаў. Яны голасна абмяркоўвалі, дзе ў горадзе знайсці кавярню. Урэшце, убачылі шыльду «Бар» на двухпавярховым будынку, які пры Саветах паставілі на месцы царквы Святой Тройцы і хрысціянскіх могілак.

— Ну вот, пойдём сюда! — катэгарычна скамандавала адна з турыстак.

— Адкуль вы? — пытаюся.

— Із Москвы.


Амерыканцы не толькі ахвотна елі беларускія стравы, але і шмат распытвалі ў гаспадыні


**Юлія Бука, гаспадыня вядомай агратурыстычнай сядзібы ў вёсцы Валодзькава.**


**А там былі суп з бацвіння са скабкамі, грыбы, клінковы сыр, кіслае малако, напой з зёлак, бярозавы сок, хворас...**

**Кастусь Шыталь, фота аўтара**

# У Літве за шалёныя грошы скупляюць мухаморы

У шэрагу рэгіянальных газет і парталаў Літвы з'явіліся аб'явы, у якіх за кілаграм сушаных капялюшыкаў атрутных грыбоў прапануюць 150 еўра. Сам скупшчык кажа, што перапрадае мухаморы за мяжу, дзе яны запатрабаваныя праз свае гаючыя ўласцівасці, а вось фітатэрапеўт, фармацэўт Віргіліюс Скіркявічус адзначае, што мухамор валодае галюцынагеннымі ўласцівасцямі.



### Прадаюць за мяжу

«Па ўсёй Літве скупляем сушаныя чырвоныя мухаморы. Кілаграм — 150 еўра», — з'явілася аб'ява ў адной з раённых газет у Лаздзіяй. Аўтар аб'явы Арнольдас Скірымас у інтэрв'ю *Delfi* кажа, што грыбы перапрадае. Ён выказаў задаваленне тым, што ў Літве ён адзін скупляе небяспечныя грыбы, таму канкурэнцыі няма, аднак і людзей, якія б збіралі падобны тып грыбоў, таксама не хапае. Так што гэты заробак яму складана назваць залатой жылай.

«Кошт вызначаны такі, каб людзі цікавіліся, тэлефанавалі. У мінулым годзе цана была ніжэйшай, аднак калі людзі пачалі збіраць, сушыць, то зразумелі, што гэта сур'ёзная праца і не такая ўжо простая, як можа падацца», — кажа ён. Па словах прадпрымальніка, многае залежыць ад умоў надвор'я, грыбны ці негрыбны год і г.д. Ён кажа, што набытыя грыбы перапрадае за мяжой: «Самыя вялікія рынкі — аўстрыйскі, нямецкі і амерыканскі. Скажам, у Аўстрыі ёсць людзі або сем'і, цэлыя сямейныя прадпрыемствы, дзе цяжка адрозніць, ці з'яўляюцца яны юрыдычнай асобай, ці проста гэта група людзей, занятых у нетрадыцыйнай медыцыне, якія і скупляюць сыравіну».

### Вельмі небяспечны грыб

Тым часам шматгадовы прэзідэнт асацыяцыі грыбаводаў і перапрацоўшчыкаў Гінтаўтас Мілюс не чуў, каб хто-небудзь у Літве скупляў мухаморы. «Я памятаю, у дзяцінстве мухаморы мы збіралі для адпужвання мух, калі не хапала хімікатаў. Нейкім чынам грыбы выціскалі і палівалі сцены, але ў астатнім я не чуў, каб хтосьці іх скупляў», — сказаў ён.

Г. Мілюса скупка мухамораў вельмі здзівіла, таму што гэта вельмі атрутны грыб. «Я чуў пра яго гаючыя якасці, але я не магу сказаць канкрэтна. Напэўна, кожную атруту разумна можна выкарыстоўваць, каб атрымаць нешта карыснае, але я лічу, што гэта вельмі складаная рэч. Нават дотык да мухамора можа мець сур'ёзныя наступствы, трэба доўга мыць рукі», — адзначае эксперт.

Фітатэрапеўт, фармацэўт Віргініюс Скіркявічус прызнаецца: першая думка, якая да яго прыйшла, калі ён пачуў аб скупцы чырвоных мухамораў, іх галюцынагенны эфект. «Гэты грыб выклікае галюцынацыі. І толькі пасля гэтага мы можам гаварыць пра яго гаючыя ўласцівасці. Такім чынам, усё гэта дзіўна. У тых, хто скупляе, могуць быць іншыя тлумачэнні, я не хачу нікога падазраваць. Хоць мне цікава, навошта купляць, бо гэта не група навукоўцаў, якая скупляе грыбы, каб рабіць нейкія даследаванні. Нехта гэта проста так прыдумаў. Але я не хачу нікога падазраваць», — паўтарыў ён.

# СтопСпам: як пазбавіцца ад надакучлівых рэкламных смс?

Напэўна, кожнага з нас калі-ніякалі раздражняў рэкламны спам, які сыплецца з усіх «дзірак». І калі на вуліцах мы яго хутка мінаем, ад флаера можам адмовіцца, ад e-mail-рассылкі адпісацца (прынамсі, гэта ў правілах добрага тону), то вось з смс не заўсёды так проста: нумар спамера схаваны, на сайце інфы няма — што рабіць?

У якасці адказу на такое шырокае і філасофскае пытанне мы падрыхтавалі для вас невялікую інструкцыю, якая дапаможа пачысціць тэлефон ад непатрэбнага кантэнту.

Пачнём з матчасткі.

### Якімі законамі ў Беларусі рэгулюецца спам?

Распаўсюджванне рэкламы пры дапамозе тэлефоннай, тэлекснай, факсімільнай, сотавай рухомай электрасувязі ды электроннай пошты рэгламентуецца 12-м артыкулам Закона «Аб рэкламе».

Апроч таго, ёсць Правілы аказання паслуг электрасувязі, зацверджаныя ўрадавай пастановай №1055 яшчэ ў жніўні 2006 года. Міністэрства сувязі і інфарматызацыі распрацавала змены ў гэтую пастанову, але яны пакуль не зацверджаныя.

### Што ў законах ёсць па тэме?

Ніхто нічога не можа дасылаць на асабісты нумар без вашага панскага дазволу. Калі абанент у пісьмовай дамове дае згоду на атрыманне рэкламы, яго павінны праінфармаваць і пра магчымасць неадкладнага спынення распаўсюду рэкламы на ягоны адрас. Такую магчымасць абавязаны прапісваць у дамове.

Якія органы кантралююць выкананне закона?

Перш за ўсё дзяржаўны кантроль у галіне рэкламы ажыццяўляецца Міністэрствам антыманапольнага рэгулявання і гандлю, мясцовымі выканаўчымі і распарадчымі ды іншымі дзяржаўнымі органамі ў межах іх кампетэнцыі.

Такім чынам, што рабіць, калі вас дапякаюць спамам?




### 1. Калі гэта аператары мабільнай сувязі

МТС раіць дадаць паслугу адмовы ад галасавой рассылкі і sms-рэкламы, скарыстаўшыся агульным нумарам 0890: называеце свой нумар тэлефона, імя ўладальніка — і паслуга актывуецца. Натуральна, бясплатна.

«Вэлкам» прапануўвае звяртацца ў любыя фірмовыя офісы і пісаць там спецыяльную заяву. Абанент таксама можа патэлефанаваць у даведкавую службу і папрасіць заблакаваць непатрэбныя рассылкі. Калі ў вас ёсць асабісты кабінет, то адключыць непатрэбныя паслугі магчыма на сайце.

«Лайф» у такіх выпадках падказвае звяртацца ў інфармацыйна-даведкавую службу — спецыяліст, які здыме слухаўку, зафіксуе адмову ад рассылкі. Ёсць і яшчэ адзін варыянт: увесці запыт *120#, далей націснуць дзявяты пункт меню «Налады», абраць рэкламу ў смс і званках і адключыць яе.

### 2. Калі гэта нейкія «левыя» кампаніі, навіны якіх вам да лямпачкі

Акрамя магчымасці адправіць пэўны нумар у чорны спіс і заблакаваць (калі ён адлюстроўваецца), ёсць некалькі варыянтаў. Так бы мовіць, для добрых і злых паліцэйскіх.

Першы: тэлефануеце ў кампанію, у лапы якой аднойчы трапіў ваш нумар тэлефона, і просіце прыбраць вас з базы (такі сцэнар можа адбыцца з кожным, хто хаця б аднойчы заказаў ежу, таксі ці касметыку і такім чынам трапіў у секту). Адэкватнае кіраўніцтва адразу пойдзе насустрач. Менавіта так зрабілі сэрвіс па дастаўцы ежы «Ёлкі-палкі», кампаніі «Фаберлік» і «Мілавіца», якім мы тэлефанавалі ў якасці эксперыменту.

Іншы шлях «разборак» прадугледжаны законам: вам трэба звярнуцца да свайго аператара сувязі са скаргай на дзеянні абанента ці карыстальніка, які вас турбуе. Скаргі могуць накіроўвацца як у вуснай, так і ў пісьмовай форме. Аператар сам абавязаны разбірацца з тым, хто вас панепакоіў. Аднак, як расказаў «НН» юрыст Вячаслаў Дрызгаловіч, які ў сваёй практыцы сутыкаўся з падобнымі выпадкамі, прававая непісьменнасць аператараў сувязі не заўсёды дазваляе адэкватна і хутка вырашыць такія пытанні.

### 3. Калі не атрымліваецца па-добраму

З заявай пра здзяйсненне ў дачыненні да вас правапарушэння (так-так, гэта лічыцца адміністрацыйным парушэннем) трэба звярнуцца ў свой выканкам па месцы рэгістрацыі. Парушэнне заканадаўства аб рэкламе цягне накладанне штрафу ў памеры ад 5 да 30 базавых велічынь, на індывідуальнага прадпрымальніка — ад 10 да 40 базавых велічынь, а на юрыдычную асобу — ад 20 да 50 базавых велічынь. І гэта сапраўды працуе!

Увогуле ж, каб вам не давялося карыстацца парадамі з гэтага артыкула, будзьце пільнымі. Нярэдка людзі самі пакідаюць прыватныя тэлефонныя нумары і электронную пошту ў адкрытым доступе (у аб'явах ці на старонках у сацсетках), а потым здзіўляюцца, як трапілі ў чарговую базу рассылкі. Своечасова прыбірайце іх адтуль, калі няма жадання быць заспамленымі, і не забывайцеся пра магчымасць налады персанальных параметраў непажаданай пошты.

Аўтар дзякуе юрысту Вячаславу Дрызгаловічу і начальніку сектара каардынацыі ўзаемадзеяння і эксплуатацыі сетак Міністэрства сувязі Наталлі Кручковай за дапамогу ў падрыхтоўцы артыкула.

**Кацярына Карпіцкая**

# Мужчына перарэзаў сабе горла на Кастрычніцкай плошчы ў Мінску, але амапаўцы яго ўратавалі

«Нашай Ніве» стала вядома пра здарэнне, якое адбылося ў цэнтры сталіцы 7 ліпеня.

Мужчына прыйшоў на Кастрычніцкую плошчу з нажом і ўскрыў сабе горла на вачах у міліцэйскага патруля.

АМАПаўцы кінуліся да гэтага чалавека. Той пачаў уцякаць, але бегаў ад іх нядоўга.

У выніку яго скруцілі і перадалі ў хуткую.

Факт здарэння «Нашай Ніве» пацвердзіў прэс-сакратар мінскай міліцыі Аляксандр Ластоўскі.

«Сапраўды, чалавек у неадэкватным стане пашкодзіў сабе вострым прадметам шыю. Але не крытычна, яго завезлі ў шпіталь. Што з ім цяпер, я не ведаю», — сказаў Ластоўскі.

**Арцём Гарбацэвіч**

# Беларус пяць гадоў пражыў на Ямале. Гутарка пра завею, ненцаў, алкаголь і грошы

Павел Батуеў з Салігорска ў Беларусі працаваў электрыкам. У 2012 годзе Павел разам з жонкай пераехаў на Ямал. Там у яго нарадзіліся дзеці — сын Казімір і дачка Ядвіга. Летам 2017 Батуеў вярнуўся ў Беларусь, «НН» пагутарыла з ім пра паўночны побыт.


Павел Батуеў на поўначы.


Казімір Батуеў нарадзіўся на Ямале.

**«Наша Ніва»: Ці былі ў вас нейкія ўяўленні пра Поўнач перад паездкай і ці супалі яны з рэальнасцю?**

**Павел Батуеў:** Калі я туды ехаў, то думаў, што там заўсёды холадна. Насамрэч жа, як кажа народная мудрасць, аказалася, што «не бывае вельмі холадна, бывае мала адпаведнай вопраткі». Таксама я думаў, як бы гэта больш мякка сказаць, што там не зусім цывілізацыя. Дык гэтыя чаканні апраўдаліся на ўсе сто працэнтаў. У нашым пасёлку Сеяха (адны мясцовыя казалі, што назва значыць «рака, якая спявае», іншыя сцвярджалі — проста «вусце») адсутнічала інфраструктура, нейкае культурнае жыццё, кепска працуе інтэрнэт (яшчэ ён вельмі дарагі), мабільная сувязь (працуе эпізадычна). З культурнага жыцця магу згадаць толькі «Што? Дзе? Калі?». Кожнае прадпрыемства, якое ёсць у сяле, гуляе ў «ШДзК», мае сваю каманду. Турніры праводзіліся дзесьці раз на два месяцы.

**«НН»: Колькі людзей жыло ў вашым пасёлку?**

**ПБ:** Разам з навучэнцамі школы-інтэрната — каля 2 тысяч. Моладзі даволі шмат. 80% насельніцтва — гэта ненцы, у іх вялікая нараджальнасць. Наколькі я заўважыў, людзі імкнуцца застацца па тым месцы, адкуль паходзяць. Я амаль не чуў гісторый, каб маладыя перабіраліся ў Салехард ці сталіцу вобласці Цюмень. На вучобу — так, часам ездзяць, але потым вяртаюцца дахаты.

**«НН»: Вялікае адрозненне паміж ненцамі і рускімі?**

**ПБ:** Абсалютна вялікае. Яны вядуць розны лад жыцця. Калі казаць пра тых ненцаў, што жывуць у сяле, то многія з іх страцілі свае карані, многія зусім не ведаюць сваёй мовы ці ведаюць яе недастаткова добра. Калі ж казаць пра тых, хто жыве ў тундры, то гэтыя людзі, хутчэй, не ведаюць рускай мовы, ездзяць у самаробных нартах, ходзяць у самаробнай вопратцы. Пры гэтым нават у тундры ёсць элементы цывілізацыі: яны маюць снегаходы, генератары, нават спадарожнікавае тэлебачанне ёсць у чумах. Я быў толькі ў такіх лубочных чумах, якія выстаўляюць на Дзень аленявода, у сапраўдных бываць не даводзілася.

**«НН»: А за кошт чаго выжываюць тыя ненцы, што жывуць у тундры?**

**ПБ:** Гэта традыцыйныя промыслы: аленегадоўля, збор пантаў (рагоў) — яны досыць дорага каштуюць, каля 30 даляраў за кілаграм. Здаюць аленяў на мяса, вырабляюць шмат чаго са скуры аленя: боты, пантофлі. Скажам так, што гэта ўсё таксама не танныя тавары. Канечне, рыба, паляванне. Амаль кожны ненец мае стрэльбу — гэта не хобі, а неабходнасць. Што тычыцца рыбы, то ненцы маюць пэўную квоту на яе лоўлю. Напрыклад, калі рыбу будзе лавіць звычайны пасялковы рускі, то гэта будзе лічыцца браканьерствам і ён можа атрымаць за гэта немалы штраф, а для ненца будзе дзейнічаць квота, бо гэта неабходна для падтрымання традыцыйнага ладу жыцця. Тыя людзі, што жывуць у тундры, атрымліваюць так званыя «качавыя», то бок дзяржава плаціць за тое, што яны жывуць у такіх неспрыяльных умовах. Наколькі я памятаю, гэта не дужа вялікія грошы — каля 2000 расійскіх рублёў на чалавека ў месяц (65 рублёў — НН).


Адпачынак з жонкай. Паўднёвы бераг Карскага мора.



**«НН»: Ці вывучаецца ў школах ненецкая мова?**

**ПБ:** Так, вывучаецца. У пасёлку была школа-інтэрнат, бо бацькі дзяцей жывуць у тундры. Дзяцей напрыканцы жніўня збірае верталёт і адвозіць у школу. Фактычна бацькоў дзеці бачаць двачы разы на год. У маі ж дзяцей разбіраюць, недзе самі бацькі прыязджаюць на снегаходзе, дзесьці зноў верталётам развозяць па родных чумах.

**«НН»: Павел, ці ўдалося вам вывучыць хоць нешта на мясцовай мове?**

**ПБ:** Натуральна, адразу па прыездзе вывучыў пару словаў, каб вітацца ці развітвацца. У мяне было багата супрацоўнікаў ненцаў, таму я вывучыў фразу: «Ідзі працуй». Калі я званіў на пошту, то мог папытацца паненецку, ці ёсць пасылкі для Батуева.

У рэальнасці мова вельмі складаная, таму нават сказаць, што я яе засвоіў, хай нават на побытавым узроўні, будзе перабольшваннем. Вывучыў толькі самыя неабходныя для мяне 20—30 словаў. Нельга сказаць, што ненцы поўныя братэрскай любові да тых, хто прыязджае да іх. Але ў адкрытую агрэсію гэта не перарастае. Бывалі некалькі разоў размовы, маўляў, вось ты сюды панаехаў, у цябе такая добрая праца. На гэта я адказваў проста: каб у вас была адпаведная адукацыя, то я б не прыехаў сюды і вакансіі такой бы не існавала.

**«НН»: А ў чым заключалася ваша праца?**

**ПБ:** Я быў начальнікам участка цеплазабеспячэння. У маім падпарадкаванні было чатыры кацельні, станцыя водаачысткі. Мая праца заключалася ў тым, каб па магчымасці гэта працавала без перабояў. Калі маразы даходзілі да мінус 50, то ўсе збоі ў цеплазабеспячэнні маглі б скончыцца вельмі кепска для пасёлка. У маёй працоўнай кніжцы нават ёсць падзяка за ліквідацыю наступстваў шторму. У лютым 2013 года там была проста пякельная завея. Парывы ветру даходзілі да 40 метраў за секунду, зрывала дахі, рвала драты энергазабеспячэння. Мы потым мелі з гэтым шмат клопату. Я памятаю, што сышоў на працу ў пятніцу а 6 раніцы і вярнуўся ў суботу а 7 вечара. Выйшлі ўсе, там рэальна вялася гаворка пра выжыванне.

**«НН»: Бура ў нас і бура на Поўначы — гэта абсалютна розныя рэчы?**



**Ненцы, якія жывуць у тундры, не ведаюць рускай мовы, ездзяць у самаробных нартах, ходзяць у самаробнай вопратцы**

**ПБ:** Калі я чую слова «завея», то мне ўяўлялася такая завіруха, бяскрыўдная, міленькая, фоткі для інстаграма. Але на справе гэта зусім не так. Часам вятры даходзілі да такога, што мяне, чалавека, у якога больш за 100 кілаграмаў вагі, збівала з ног. Снегу ў завеі столькі, што бачнасць можа змяншацца да 4—5 метраў. Калі ты выйдзеш у сяло, то можаш заблукаць, бо няма ніякіх арыенціраў, толькі снег-снег-снег. Дыхаць вельмі цяжка, снег балюча сячэ па твары. Адчуванне такое, што ты на хуткасці галаву з машыны высунуў. Рэкордная завіруха пры мне працягвалася 8 дзён. У каго праца звязана з нейкай бесперапыннай вытворчасцю, як у мяне, вымушаныя былі хадзіць на працу пры любым надвор'і. У мяне былі рэальныя выпадкі, калі быў вымушаны паўзці на працу, бо не мог устаць.

**«НН»: Людзі часта гінуць у такіх умовах?**

**ПБ:** Фактычна кожную зіму нехта гіне. Гэтай зімой загінуў адзін ненецкі хлопчык. Яму было 3 ці 3,5 года. Ненцы звычайна прывязваюць сваіх дзяцей за пояс, каб яны не дабраліся да печкі і не вылезлі з чума. Маці адышла ад чума літаральна на 200 метраў у палонку па ваду, як пачалася пурга. Дзіцё было не прывязаным, таму згубілася. Знайсці кагосьці ў завіруху амаль немагчыма, бо ўсё заглушае гэтае скавытанне завірухі, крычы не крычы. Не маглі праз гэта выклікаць і верталёт. Нават у дарослага ў такіх умовах не было б шанцаў выжыць.

**«НН»: Колькі доўжыцца там зіма?**

**ПБ:** Снег у любой колькасці можа выпасці ў любы месяц. Пастаянны ж снег выпадае дзесьці ў другой палове верасня, бывала, што мы з дзецьмі 18 верасня ўжо ляпілі снегавікоў, а сыходзіць у сярэдзіне чэрвеня. У ліпені адмярзае заліў, Обская губа. Ацяпляльны сезон сканчваецца літаральна на месяц, калі можна правесці ўсе рамонтныя работы, — гэта частка ліпеня і жніўня.

**«НН»: Ці ўзнікалі ў вас праблемы праз палярную ноч?**

**ПБ:** Не, ніякіх. Я раней думаў, што палярная ноч — гэта як выйсці ў Беларусі на вуліцы а другой ночы. Абсалютная цемень. Але гэта зусім не так. Палярная ноч азначае, што сонца не падымаецца над далягладам. Першыя дні палярнай ночы нават можна бачыць сонечнае святло, але сам дыск не з'яўляецца. Абсалютнай цемры ўдзень няма, хутчэй шэрань. Мне гэта дыскамфорту не дастаўляла. А 12-й ты ідзеш на абед і вакол досыць светла, але ў 15—16 ужо сапраўдная ноч. Мне больш не падабаўся палярны дзень, калі сонца ўвесь час на даляглядзе. Сон парушаецца, трэба ўвесь час завешваць вокны. І доўжыцца такое больш за два месяцы. Яшчэ ёсць так званыя белыя ночы, калі сонца спускаецца за далягляд на 20, 30 хвілін, на гадзіну. У мяне няма асаблівай метэазалежнасці, таму, наадварот, нават было цікава.



Бачыў паўночнае ззянне. Калі першы раз убачылі з жонкай гэтую з'яву, то было суцэльнае расчараванне. Гэта быў такі зялёны статычны туман паласой на небе. Абсалютна ўяўлялася па-іншаму. Мы яшчэ спыталі ў жанчыны, якая праходзіла міма: а што гэта такое? Яна паглядзела на нас як на дурняў і адказала, што гэта ззянне. А потым аказалася, што такія ззянні, як паказвае *National Geographic*, бываюць досыць рэдка. Каб быў нябесны фоташоп і неба пераліваліся ў розных колерах, бывае два-тры разы на год. Зусім неабавязкова, што ты яго пабачыш. Яно з'яўляецца нечакана, раз — і ўсё неба ў агні. У мяне бывала, што я бачыў у фортку паўночнае ззянне, хапаўся за штатыў і фотаапарат, выбягаў на вуліцу, а фоткаць ужо не было чаго. А бывала такое, што вісела ў небе па шмат гадзін.

**«НН»: Я чуў пра такую цікавую з'яву, як міражы на Поўначы.**

**ПБ:** Так, сутыкаўся і з такім. Калі пабачыў упершыню, то не паверыў. Вакол усе казалі, што гэта міраж. Я ішоў дахаты, гэта было пасля 9 вечара, бачу: нейкія агні, такое адчуванне, што гэта пасёлак ці машыны едуць, але машыны там ехаць не маглі. Прыйшоў дадому, загугліў, аказалася, што на Поўначы досыць распаўсюджаная з'ява ў сухі мароз, калі няма ветру, туману. Быў бачны пасёлак Сабета, дзе здабываюць газакандэнсат. Я бачыў нават факел, у якім згарае спадарожнікавы газ. Адлегласць жа да гэтага пасёлка 140 кіламетраў.



**Ненцы не ядуць ніякай іншай рыбы, апроч той, што з серабрыстай лускою**

**«НН»: Дзе вы там жылі?**

**ПБ:** З жыллём усё цікава. Першы час, пакуль я быў на выпрабавальным тэрміне, я жыў у інтэрнаце. На аграмадны інтэрнат, можа, жыло 5 чалавек. Калі выпрабавальны тэрмін скончыўся, мне выдалі службовае жыллё — бочку. Гэта самае дзіўнае жыллё ў маім жыцці. Гэта такая цыстэрна, падзеленая на адсекі. Калі ў гаспадара рукі растуць адкуль трэба, то там ён робіць душ, прыбіральню, калі не, то выгоды — на вуліцы. У мяне бочка была з душам, я сам дарабіў там прыбіральню. Па зручнасці выкарыстання — гэта такая аднапакаёвая кватэра. Там было досыць цёпла, не мерзлі там ні разу. Адзінае, падчас завірухі жыллё троху хістае, бо яно стаіць на палях, там усё жыллё на палях. І калі пурга вельмі моцная, то ўражанне, што едзеш у трактары па вясковай дарозе.

З маім кар'ерным ростам мне выдалі іншае жыллё, так званы балок. Гэта такая некапітальная пабудова з друзу, дошак, абабітая рубероідам. Знешне гэта выглядае не дужа прэзентабельна, але ўнутры — звычайная кватэра. Цёплая, з усімі выгодамі.

**«НН»: А з ежай што?**

**ПБ:** З ежай больш складана. Летам па Обскай губе прыязджаюць караблі, так званыя плывучыя крамы. Мы спачатку з жонкай рагаталі, бо гэта вельмі смешна, калі прыходзіць карабель і ўвесь народ ідзе на закупы. Там можна купіць усё — ад ежы да квадрацыклаў. Калі ў іх чагосьці няма, то дамаўляешся: хлопчыкі, прывязіце мне наступны раз канапу. Музыка там іграе, як у беларускіх маршрутках, усё гэта выглядае вельмі каларытна.

Калі зіма і воднага шляху няма, то прабіваюцца «зімнікі» — машыны з ежай. Бывае, што іх засыпае пурга і яны некалькі дзён стаяць у дарозе, ежа прыязджае перамарожаная. Шлях ад Салехарда да пасёлка яны могуць прайсці за два дні, а могуць за тыдзень. Ад гэтага залежыць якасць прадуктаў.

Калі ж няма ні караблёў, ні зімнікаў, то складана: няма ні гародніны, ні садавіны. У крамах у асноўным крупы, кансервы, тое, што не вельмі хочацца ўжываць. Вельмі добрая сітуацыя там з мясам. Аленіна — нармальнае мяса і каштуе няшмат. Але калі ты там сядзіш 10 месяцаў, то перад адпачынкам ужо глядзець на гэтую аленіну не можаш. Хочацца нармальнай свініны ці любога іншага мяса.

**«НН»: А з рыбай што?**

**ПБ:** Цудоўна ўсё. Да таго, як я паехаў на Поўнач, рыбу амаль не ўжываў. А праз год еў у любым выглядзе: вяленую, сушаную, вэнджаную, сырую.

Рыба свежая, ёсць увесь час. Мне яшчэ пашанцавала, што было шмат супрацоўнікаў ненцаў. А ненцы не ядуць ніякай іншай рыбы, апроч той, што з серабрыстай лускою. Ёсць, напрыклад, такая рыба, як харыус, але ў яе чорная луска, таму павер'і забаранялі яе есці. Ненцы яе проста раздорвалі, таму я ўвесь час быў з рыбай.

**«НН»: Беларускія тавары туды даходзяць?**

**ПБ:** Так, ёсць беларуская гарэлка. Ёсць рагачоўская згушчонка. Я некалькі разоў бачыў, як тундравыя ненцы стаялі па яе ў чарзе. Гэта адзін з іх улюбёных прадуктаў. Адзін час там нават былі нейкія кумпякі Гродзенскага мясакамбіната, я не ўяўляю, як іх туды давозілі. Да беларускіх прадуктаў існуе вялікі сантымент. Беларускае — значыць якаснае.

**«НН»: Ці шмат п'юць на Поўначы?**

**ПБ:** Шмат. Магчыма, людзі проста не ўяўляюць, як можна бавіць час па-іншаму. За кніжкай ці неяк яшчэ. Шмат п'юць ненцы. Яны праз свае фізіялагічныя асаблівасці хутка співаюцца. Я б сказаў, што п'юць нашмат болей, чым у Беларусі. Можна сказаць, што ўся мая кар'ера на Поўначы будавалася праз алкаголь. Калі мяне ўзялі на працу, то начальнік участка быў у запоі — і мяне ўзялі майстрам, каб я пераймаў досвед. Калі праз год я вяртаўся, то дырэктар мяне віншаваў проста на верталётнай пляцоўцы з тым, што я новы начальнік участка. Бо былы зноў сышоў у запой. Яшчэ праз год я выконваў функцыі галоўнага інжынера, і там не абышлося без алкаголю.

**«НН»: А што там з бальніцамі, дактарамі?**

**ПБ:** Там ёсць бальніца. Апошнія гады там быў педыятр. Да гэтага быў толькі галоўны доктар — хірург. Я быў у бальніцы, мне аказалі там нармальную дапамогу. А сёлета там ляжалі мае дзеці — у іх была высокая тэмпература. У Расіі абавязковае медычнае страхаванне, у мяне гэтага дакумента не было. Адпаведна бальніца мне выкаціла круглую суму за пяць дзён, што сын і дачка правялі ў бальніцы, — 50 тысяч рублёў (1500 рублёў). За пяць дзён у вясковай бальніцы — гэта неяк замнога. Калі здараецца нешта экстрэмальнае, то існуе санітарная авіяцыя, якая транспартуе людзей у Салехард альбо ў раённы цэнтр Яр-сале.

**«НН»: Ці ўдалося ў выніку дасягнуць сваёй мэты — зарабіць грошай?**

**ПБ:** У мяне галоўнай мэтай былі нават не грошы. Пацягнула на Ямал праз прагу прыгодаў, грошы былі другаснымі. Аднак і першай мэты, і другой удалося дасягнуць.

**«НН»: Што б параіў беларусам, якія хочуць ехаць на Поўнач?**

**ПБ:** Складанае пытанне. Калі б я ведаў усе бюракратычныя моманты, то мог бы не паехаць. Туды няма сэнсу ехаць на кароткі тэрмін. Калі ты працуеш легальна, то заробак расце ў цябе на 10% у год. Мне траплялiся беларусы, якіх падманулі на Поўначы, яны судзіліся нават. Праца мусіць быць легальнай. Першы год грошай хапае толькі на харчаванне і вопратку. Наўрад ці можна знайсці працу, дзе грошы ўдасца зарабіць ужо ў першы год.

**Гутарыў Зміцер Панкавец, фота з архіва героя**

# Вандроўніца, за фотаблогам якой сочыць 20 тысяч чалавек: «Хачу стварыць у Інданезіі беларускую вёску!»

Алеся Чонг — у мінулым праграмістка ў другім пакаленні, а сёння — заўзятая вандроўніца — належыць да тыпу людзей, якім сумна сядзець на месцы.

На мапе куткоў свету, якія яна наведала, — дзясяткі краін, аднак сярод любімчыкаў, канешне, азіяцкі кірунак. Свае ўражанні жанчына фіксуе на камеру і выкладвае іх у інстаблог.

З «НН» Алеся падзялілася гісторыямі з падарожжаў, якія ледзь не каштавалі ёй жыцця, ды расказала, што замінае большасці людзей у Беларусі выйсці з зоны камфорту.

**«Наша Ніва»: Алеся, у вас за плячыма шмат вандровак, а памятаеце сваё першае падарожжа?**

**Алеся Чонг:** У мяне з дзяцінства перад вачыма быў натхняльны прыклад: мой бацька — таксама праграміст (яны з маці ўвогуле былі аднымі з першых беларускіх матэматыкаў-праграмістаў) па рабоце шмат паездзіў па сацыялістычных краінах. А дзед Максім у маладосці, адразу пасля вайны, служыў на Чарнаморскім флоце. З калегамі яны дужа паплавалі па розных марах і акіянах, пра ўсё гэта ён распавядаў фантастычна цікавыя гісторыі. Таму, як толькі з'явілася магчымасць, я таксама адправілася глядзець свет.




Амаль што без грошай у 1996 годзе з мужам мы накіраваліся ў Францыю аўтаспынам да сяброў. Нам было гадоў 20, на руках мы мелі толькі мапы і кантакты знаёмых. Добра, што Марк размаўляў па-французску, інакш перасоўвацца было б складаней. На шляху нам сустрэлася мноства файных людзей, якія, ведаючы, што мы едзем з мінімальным бюджэтам, часам адвозілі нас на 50 кіламетраў далей, чым ім было па дарозе. Аднойчы быў прыкольны выпадак: француз падвозіў нас да вёскі, дзе якраз жылі нашы сябры, і гасцінна запрасіў на яго хату ў Бардо, калі мы там выпадкова будзем, расказаў, пад якой анучай ляжыць ключык, дазволіў частавацца віном, каньяком. На жаль, нам гэта было не па маршруце.



Алеся з мужам Маркам.

**«НН»: Ваш муж — англічанін, як вы пазнаёміліся?**

**АЧ:** Я працавала ў Беларускім сацыяльна-экалагічным саюзе «Чарнобыль». Да 10-й гадавіны Чарнобыля мы рыхтавалі кніжку з эсэ школьнікаў, дзе тыя апісвалі, якім чынам аварыя паўплывала на іх жыццё. Невялікі зборнік найлепшых гісторый планавалася выдаць і па-англійску, яго рыхтавалі супрацоўнікі Лінгвістычнага ўніверсітэта. Нечакана высветлілася, што кніжку прыйдзецца перарабляць нанава, таму што ў некаторых месцах яны не толькі «забыліся» нешта перакласці, але і нават нешта дадалі ад сябе.

Тэрміны падціскалі, прыйшлося працаваць па начах. Пераклад даверылі майму мужу, які быў лінгвістам: ён праходзіў у Мінску практыку, а потым прыехаў сюды на работу. Мы з ім начамі сядзелі над зборнікам, каб яго выдалі своечасова: ён перакладаў, а я адразу вярстала. Так і пазнаёміліся.

У 1996 годзе мы страцілі апошнія ілюзіі наконт нашай будучыні ў Беларусі, страцілі надзею на яе адэкватнае развіццё і пераехалі ў Англію.

Там я падвучыла ангельскую, але сама краіна мне не спадабалася: усё занадта цывілізаванае. Ад'ехаць у дзікі лес, такі як у нас хаця б, амаль немагчыма: усе яны ў сцежках, знаках, папярэджаннях пра небяспеку... Дзяржава спрабуе клапаціцца пра сваіх жыхароў, але некаторым гэта перашкаджае. Муж таксама ніколі не хацеў жыць у Англіі, таму мы аселі ў Польшчы, тым больш што ў 90-я там была вельмі вялікая беларуская супольнасць, гэта цяпер у Польшчы ўкраінцаў значна больш, па вядомых прычынах.

Спачатку здавалася, што мы там часова і хутка вернемся ў Беларусь. Верылася, што палітычныя змены, якія адбываліся ў нас у канцы 90-х, — гэта нейкі анахранізм, непаразуменне, якое хутка скончыцца, і краіна працягне развівацца нармальна. Але ў выніку ўсё зацягнулася, і цягнецца да гэтага часу.

Некаторыя польскія сябры нават сёння думаюць, што, калі яны паедуць у Беларусь, іх адразу схопяць на мяжы і пасадзяць у турму. Мы ўсё гэта, канешне, аспрэчваем, але мясцовыя медыя даюць мала пазітыўных момантаў пра Беларусь. Яны глядзяць на гэта праз сваю прызму, не ўлічваючы мясцовую спецыфіку і здольнасць любога чалавека, не толькі беларуса, адаптавацца пад існуючыя ўмовы, калі ён не можа іх змяніць. Гэта агульнасусветны феномен: проста камусьці больш пашчасціла, камусьці — менш.

Хаця ў апошнія гады бачна, што як мінімум культурная сфера ў Мінску вельмі паправілася, у параўнанні з тым, што было раней. Шмат цікавых мерапрыемстваў праходзіць нават на некалі забытых богам хутарах.

**«НН»: Муж ваш вывучыў і беларускую мову?**

**АЧ:** І беларускую, і польскую мы разам ведаем. Але я сама прыйшла да мовы толькі ў канцы 80-х: бацькі былі рускамоўнымі, я хадзіла ў школу з рускай мовай навучання. А потым пачаліся мітынгі з удзелам «Талакі», зараджэнне БНФ... Плюс у Чарнобыльскім саюзе ў мяне адбылося знаёмства з Васілём Якавенкам: ён заўсёды быў беларускамоўным і вельмі моцна паўплываў на маё жыццё ў пазітыўным сэнсе.

Натуральна, што калі мы сям'ёй прыязджалі ў вёску, то там людзі зусім не па-руску размаўлялі, хаця некаторыя былі ўпэўненыя ў адваротным. Дарэчы, з гэтым «недарускамоўем» звязаная вельмі цікавая гісторыя. Мой сябра Бэн з Англіі толькі-толькі скончыў Оксфард, дзе вывучаў французскую і рускую. Ён першы раз прыехаў у Беларусь, а я яго адразу ў вёску Чэрнеўка да родных пацягнула. Машыну трэба было паркаваць на пачатку вёскі, а далей 1,5 кіламетра ісці пешшу да маіх сваякоў, бо дарога там была такая, што толькі трактар мог праехаць. Каля хаты, дзе мы паркаваліся, за сталом сядзела ўся вёска: нагодай была гадавіна са смерці нейкай мясцовай кабеты. Нас таксама паклікалі за стол — людзей растасоўвалі так, каб галоўныя п'яніцы не сядзелі побач. І так аказалася, што адзін з найгоршых алкаголікаў сеў разам з Бэнам: першы ўсё яму нешта расказваў ды падліваў. А Бэн зусім нічога не разумеў, мне прыйшлося перакладаць.

Пасля ён здзіўлена пытаўся: дык на якой мове яны ў вёсцы размаўляюць? Я пажартавала, што гэта сумесь рускай з мясцовым дыялектам ды з алкагольным акцэнтам.

**«НН»: У вашай сям'і вы з'яўляецеся ініцыятарам вандровак?**

**АЧ:** Мы абое гэта любім. Цікаўнасць да свету — тое, што ва ўсіх ёсць першапачаткова, толькі ў некаторых людзей яна чамусьці знікае. Ёсць, канечне, розныя тыпы людзей: адным, як мне, не сядзіцца на месцы, а ёсць тыя, для каго адпачынак, калі ніхто не чапае. Мы з мужам жартавалі, што нашы вандроўкі — гэта насамрэч цяжкая праца, якая патрабуе шмат эмоцый і фізічных намаганняў. Аднак, калі заўсёды сядзіш за камп'ютарам, пераключацца на нешта іншае вельмі важна.

Я заўважыла, што ў многіх беларусаў цікаўнасць да свету хоць і захавалася, але яны баяцца. Таму што не ведаюць іншую мову, не ведаюць, што іх за мяжой чакае... Яны перастрахоўваюцца і набываюць пуцёўкі за велізарныя грошы ў такія месцы, куды ўвогуле не варта ехаць, бо для іх гэта гарантыя, што з імі нічога не здарыцца. Але гэта няпраўда, бо натоўпы турыстаў утойваюць у сабе больш небяспекі, чым рэгіёны, дзе іх няма.

**«НН»: Калісьці вы расказвалі чытачам «НН», як на Мадагаскары вас уджаліў скарпіён, што яшчэ пагражала вам падчас падарожжаў?**

**АЧ:** З Мадагаскарам нам увогуле не шанцавала: былі там з мужам чатыры разы, і кожны з іх ці я, ці ён, ці мы разам баяліся, што памром. У большасці выпадкаў гэта было звязана з вандроўкамі па моры. Так, аднойчы мы хацелі трапіць на пірацкую выспу Сант-Мары. Чатыры дні чакалі, пакуль мора супакоіцца, каб паром мог нас давезці. Адлегласць там невялікая: у звычайны дзень да-



Мадагаскарская замалёўка.



На Хальмахеру (Інданезія) Алеся вернецца, каб зрабіць пра востраў дакументальны фільм.

рога займае не больш за гадзіну. Аказалася, што паром, на якім нас будуць перапраўляць, — насамрэч карабель часоў Другой сусветнай вайны з плоскім дном пад назвай «Самсанэт». Тое месца, трум, якое мусіла заставацца пустым, каб карабель не перакульваўся, абслугоўваючы персанал ушчэнт забіў рэчамі пасажыраў. У мясцовых жыхароў да ўсяго трошкі пафігісцкае стаўленне: лічыцца, што лёс залежыць ад нейкіх найвышэйшых сіл, толькі не ад самога чалавека. На борце было турыстаў 70 і джып. Пачаліся велізарныя хвалі, капітан рабіў усё, каб судна не перакулілася, але яго кідала то налева, то направа. Вада ляцела ўнутр, усе стаялі бледныя, ванітавалі, развітваліся з жыццём... Але мы выжылі!

На наступны год, за месяц перад нашым прыездам, «Самсанэт» патануў разам з мясцовай футбольнай камандай, а на мяне напаў скарпіён. А яшчэ праз год мы зноў трапілі на «лодку з пекла», на борце якой здарыўся пажар.

У Кеніі мяне ўразіла беднata і стаўленне да мясцовых жыхароў дырэктараў фірм, што нажываюцца на турыстах. Яны атрымліваюць ад прыезджых вялікія грошы, а так званыя абарыгены не толькі пазбаўленыя права на сваю зямлю, дык яшчэ і атрымліваюць за працу на кухні ці ў якасці ахоўнікаў 3—4 даляры на месяц.



Камбоджа.

Першая парада, якую мы атрымалі, калі прыехалі ў Кенію, была наступная: ніколі не пакідайце гатэль самастойна, перасоўваецеся толькі на таксі.

За вячэрай іншыя турысты распавялі нам гісторыю, як адзін з хлопчыкаў, што спыніўся тут за тыдзень да нас, усё ж вырашыў самастойна пайсці ў парк, што знаходзіўся побач. З сабой ён узяў толькі мапу. Вярнуўся вельмі хутка, увесь у сіняках і адных майтках.

Да парку ён дайшоў без праблем, але, як толькі апынуўся ў межах, на яго накінулася група маленькіх дзяцей, па 5—6 гадоў. Яны, як ліліпуты Гулівера, павалілі яго на зямлю і ўсё, што здолелі, паздзіралі.

Там шмат бяздомных дзяцей, і гэта культурны шок — назіраць, як малое дзіця нюхае клей, напрыклад... Пры гэтым Кенія зусім не бедная краіна, яны шмат экспартуюць.

У 2002 годзе з Беліза я прывезла трапічную хваробу.

Першыя сімптомы ў мяне былі страшныя: вялікая тэмпература, балелі косці, я памірала. Наступныя некалькі дзён усё было акей, пасля паўтарылася зноў. Калі я ўжо дабралася да шпіталя ў Польшчы, дактары нічога не знайшлі ў мяне, для прафілактыкі назначылі антыбіётыкі. Але апошнім часам хвароба пачала праяўляць сябе раз на тры месяцы і цягнуцца ўсё даўжэй — гэта стала замінаць нармальна функцыянаваць, а ў шпіталях нічога вызначыць зноў не маглі.

Таму я сама пачала чытаць тэматычныя форумы, шукаць парады ад людзей, якія былі ў падобных краях, — усё сведчыла пра барэліёз. Пазней я знайшла ў Варшаве спецыяліста, які ведае гэтыя хваробы: выпрацоўваем з ім стратэгію лячэння, што грунтуецца на антыбіётыках і рэчывах, якія разбураюць цысты, у якіх бактэрыі праводзяць большую частку часу, хаваючыся ад імунітэту і ад любых лекаў.

**«НН»: І не страшна пасля гэтага наведваць экзатычныя краіны?**

**АЧ:** Рызыка захварэць заўсёды ёсць, нават у Беларусі. Калі нехта ў лес любіць хадзіць, то падхапіць заразу ад кляшчоў даволі проста. Таму галоўнае — заўсёды загадзя рыхтавацца да вандровак, здабываць веды наконт таго месца, куды едзеце.

**«НН»: Многім будзе цікава даведацца, як зарабляць грошы такім чынам, каб мець магчымасць пастаянна вандраваць, як вы?**

**АЧ:** Зараз мы працуем як фрылансеры, займаемся перакладамі. Натуральна, гэта не прыносіць шалёных грошай. Аднак у нас ніколі не было мэты купіць дарагі аўтамабіль, яго няма да гэтага часу.

Мы эканомім на шмат якіх рэчах: напрыклад, усё адзенне, акрамя абутку і джынсаў, я набываю ў сэканд-хэндах. Навошта марнаваць грошы на шмоткі, калі іх можна адкласці на падарожжа?

Калі мы ў 20 гадоў праехалі амаль усю Францыю аўтаспынам, у нас таксама амаль не было грошаў, але гэта не стала перашкодай. Можна падарожнічаць і з досыць абмежаваным бюджэтам. А калі ёсць час, зарабляць на жыццё наўпрост на месцы. Так, у Мексіцы, каля Паленке, звычайныя турысты плацілі за бунгала і ежу каля 10 даляраў у дзень. Але існавала опцыя жыць там зусім бясплатна, для гэтага ты мусіў нечым дапамагаць уладальнікам чатыры гадзіны на дзень: падмесці лісце, папрацаваць на кухні ці падрыхтаваць бунгала для новых гасцей.

У Камбоджы трое амерыканцаў, што падарожнічалі па Азіі, жылі бясплатна, дапамагаючы гаспадарам тым, што балбаталі з гасцямі ды рабілі ім кактэйлі. Такія мажлівасці ёсць паўсюль: чым больш ты размаўляеш з людзьмі, тым больш магчымасцяў адкрываецца.

**«НН»: Якая краіна для вас стала самай любімай, куды хочацца вяртацца і, можа, нават жыць?**

**АЧ:** Любімай краінай для мяне стала Інданезія. Туды я прыязджала ўжо разоў пяць: там вельмі танна і не так шмат турыстаў (калі не лічыць Балі, канечне). Акрамя таго, інданезійцы — вельмі файныя людзі.

Палітычна краіна даволі стабільная. Цэнтральная ўлада амаль не ўмешваецца ў лакальныя справы, таму там моцна развітае самакіраванне і мясцовы бізнэс, і гэта вельмі добра.

На выспачцы, дзе мы апошні раз былі з сяброўкай, у дзвюх вёсках жыве 400 чалавек. Цікава, што ў кожнай з іх свой дыялект, які суседзі з іншага сяла не разумеюць. Мы вырашылі, што гэта для таго, каб спакойна пляткарыць адзін пра аднаго (*смяецца*).

Што мяне здзівіла, дык гэта развітая інфраструктура на гэтыя некалькі кіламетраў. Там стаяць тры школы, ёсць шпіталь з хуткай лодкай, якая за гадзіну даставіць цябе ў лепшы шпіталь, маецца свая пажарная служба, але няма паліцыі.

Мы запыталіся: «А чаму так?» На што пачулі адказ: «У нас усе баяцца старшыні вёскі». А старшыня ў іх — гэта жанчына, сталая ўжо. І мы яшчэ раз пытаемся: «Дык а што яна вам можа зрабіць?» На што мясцовыя кажуць: «Яна будзе незадаволеная».

Нам так там спадабалася, што мы з сябрамі марым заснаваць у Інданезіі беларускую вёсачку. Амерыканская там, дарэчы, ужо ёсць.

На Мадагаскары таксама вельмі крута, але ў тых месцах, дзе я б хацела жыць, усё вельмі нестабільна па прычыне надвор'я. Кожны год рознымі шляхамі там праходзяць цыклоны, разбураючы ўсё. Няважна, што ў цябе ў маёмасці: праз некалькі гадоў усяго гэтага можа не быць.

**«НН»: Сваімі ўражаннямі ад паездак вы дзеліцеся ва ўласным фотаблогу, раскажыце пра яго падрабязней.**

**АЧ:** Так, я маю інстаблог, які з'явіўся пасля таго, як сябры пачалі сароміць мяне: маўляў, маю шмат фотаздымкаў, з якімі нічога не раблю. Арганізоўваліся ў мяне аднойчы паказы слайдаў у Польшчы, але не больш за тое. Адзін з сяброў вызваўся дапамагчы стварыць фотаблог і пачаў яго раскручваць. Але нешта ў яго не атрымалася, ды, і часу не хапала, таму я пачала займацца ім сама.

У нейкі момант на блог пачалі падпісвацца па 300 чалавек на дзень. Сёння я маю амаль 20 тысяч падпісантаў. Можа, калі-небудзь блог стане адной з дадатковых крыніц заробку, але спачатку мне трэба крышачку гэтаму ўсяму павучыцца.

**Кацярына Карпіцкая,**
**фота з архіваў гераіні**

# Беларус, які вярнуўся з заробкаў: «Палякі рачкуюць так, што беларусам і не снілася»

Жыхар Баранавічаў пра працу ў Польшчы, заробкі і асаблівасці палякаў.

Мікалай распавёў «Салідарнасці», як з'ездзіў вясной на заробкі ў Лодзь і чым яго здзівілі польскія калегі.

— На працу ў Польшчу мы паехалі з дзяўчынай з некалькімі мэтамі. Першапачаткова разумелі, што хоць заробкі, якія нам прапаноўвалі, былі значна вышэйшымі за баранавіцкія, але шмат мы не заробім. Ехалі ў Лодзь найперш з разведвальнымі задачамі: як атрымаць «карту пабыту», як знайсці добрую працу ў Польшчы і Еўропе і г.д.

Працавалі на буйным складзе-краме, які займаўся аптовымі продажамі. Туды дастаўлялася адзенне з розных швейных фабрык, а я з калегамі павінен быў камплектаваць з іх аптовыя пасылкі на заяўкі крамаў з Варшавы, Гданьска, Кракава, Познані і інш.

Графік быў нармальны: з 8-й да 16-й, пяць працоўных дзён на тыдзень.

Спачатку мой заробак складаў 450 еўра, потым дадалася прэмія. З дзяўчынай, якую ў тую ж фірму ўзялі прадаўцом для зносінаў з расійскамоўнымі купцамі, здымалі паўдома ў Лодзі. Два пакоі абыходзіліся нам у 220 еўра за месяц. На прадукты сыходзіла яшчэ прыкладна столькі ж.

На маім працоўным месцы калектыў цалкам складаўся з палякаў. Але праблемаў у зносінах не ўзнікала, мяне прынялі з прыязнасцю. Што здзівіла, дык гэта інтэнсіўнасць іх працы. За сваё жыццё я паспеў шмат дзе папрацаваць і ў Расіі, і ў Беларусі, але такіх хуткасцяў нідзе не сустракаў. Тут я аказаўся самым павольным!

Палякі рачкуюць так, што беларусам і не снілася. Здавалася, што яны нават не хадзілі, а бегалі. У Беларусі на працы часам можна нават адседзецца, тут жа ўсё было на галаву больш інтэнсіўна і плённа.

Разам з тым разумеў, што ў калегаў была зусім іншая матывацыя. У Польшчы цалкам даступныя крэдыты на нерухомасць, шмат хто з маіх маладых калег жыў у прыватных дамах. Вядома, не ў самой Лодзі, а ў прыгарадзе.

Пры сістэме «чым большы аб'ём працы паспяваеш зрабіць — тым больш атрымліваеш» кожны быў звышматываваны.

Мая дзяўчына часам не паспявала паабедаць, але пры гэтым яе калегі-прадаўцы ў добрыя месяцы маглі зарабляць 1000 еўра.

Пры гэтым палякі расказвалі, што хацелі б з цягам часу знайсці працу на Захадзе. Іх там цэняць: усёй Еўропе вядомы брэнд польскага сантэхніка, які працуе хутка і якасна.

Тым часам вызваленыя працоўныя месцы ў Польшчы займаюць прыезджыя. У апошнія гады назіраецца нашэсце ўкраінцаў. Мы, дарэчы, здымалі дом разам з парай з Украіны.

За кошт таго, што працуюць амаль без выходных, яны атрымліваюць 600—700 даляраў, чым, натуральна, вельмі задаволеныя. Але ім нялёгка. Украінцаў у асноўным бяруць проста рабочымі, правоў у іх практычна няма, і ў любы момант яны могуць страціць працоўнае месца.

Мы з дзяўчынай пакуль вярнуліся ў Беларусь, пры гэтым застацца ў Лодзі не было праблемай. Варыянтаў для далейшага працаўладкавання хапала. Ды і нерухомасць там таннейшая, чым у Баранавічах.

**Gazetaby.com**

# Стала вядома, што за брунэтка сядзела з Лукашэнкам на Купаллі

На святочным купальскім канцэрце, які прайшоў у «прэзідэнцкім аграгарадку» Александрыя пад Шкловам, побач з Аляксандрам Лукашэнкам заўважылі новую маладую прыгажуню. Раней дзяўчына не з'яўлялася разам з кіраўніком краіны.





Як стала вядома «Нашай Ніве», побач з Лукашэнкам сядзела 21-гадовая віцебская студэнтка Крысціна Нявера. Яна — будучая фінансістка, сёлета атрымала дыплом Віцебскага дзяржаўнага тэхналагічнага ўніверсітэта. Вучылася Крысціна на факультэце эканомікі і бізнэс-кіравання па спецыяльнасці «фінансы і крэдыт». Сёлета Нявера ўдзельнічала ў прэзідэнцкім балі.

Акрамя таго, Крысціна здымаецца як мадэль, актыўна ўдзельнічае ў шматлікіх творчых конкурсах.





Крысціна — лаўрэатка розных конкурсаў: Першага міжнароднага студэнцкага славянскага форуму, Міжнароднага маладзёжнага фестывалю «Агонь танцу — 2014», Міжнароднага фестывалю харэаграфіі «Дэнс асарці — 2015», двойчы лаўрэат Рэспубліканскага агляду-конкурсу мастацкіх калектываў вучнёўскай і студэнцкай моладзі «Арт-вакацыі 2014, 2016». Нявера ўжо двойчы ўдзельнічала ў «Славянскім базары».

«У Александрыі яна сустракала прэзідэнта з хлебам-соллю. Як адбываўся кастынг, не ведаю. Але, канечне, я ганаруся дачкой», — распавёў «Нашай Ніве» бацька Крысціны.

Крысціна выйграла конкурс прыгажосці «Каралева Вясна — 2016» у Віцебску. Конкурс арганізуе БРСМ, Мінадукацыі і Нацыянальная школа прыгажосці.

Адна з набліжаных да Лукашэнкі прыгажунь — Дар'я Шманай — таксама была пераможцай гэтага конкурсу. У 2013 годзе Шманай выйграла рэспубліканскі фінал «Каралевы Вясны».



Крысціна Нявера ў рэспубліканскім конкурсе засталася без узнагарод. Але гэта не перашкодзіла ёй трапіць у крэсла побач з кіраўніком дзяржавы.

Акрамя таго, Крысціна — актывістка БРСМ.

«Камсамолка, актывістка, а да таго ж яшчэ і будучая фінансістка Крысціна Нявера — зычлівая, спагадлівая, камунікабельная і ініцыятыўная студэнтка, — паведамляе сайт БРСМ пра дзяўчыну. — Яна актыўна ўдзельнічае ў культурным, навуковым і грамадскім жыцці ўніверсітэта, удзельнічае ў творчым актыве факультэта: з'яўляецца ўдзельніцай студэнцкага Дома моды, студыі эстраднага танца «V.I.P.», выступае ў канцэртных праграмах».

**Улад Швядовіч**



# Нявеста з Аляскі паслухала сэрца свайго нябожчыка сына

Жаніх амерыканкі Бэкі Тэрні зрабіў ёй незвычайны падарунак на вяселле — магчымасць паслухаць, як б'ецца сэрца яе сынанябожчыка, піша Бі-бі-сі.

Сын Бэкі Трыстан памёр у 2015 годзе ва ўзросце 19 гадоў.

Яе жаніх Кэлі прывёў на цырымонію Джэйкаба Кілбі — маладога чалавека, у грудзях якога цяпер б'ецца сэрца Трыстана.

«Я пачаў планаваць гэты сюрпрыз з Джэйкабам за чатыры ці пяць месяцаў. Ён надзвычайны малады чалавек, — распавёў Кэлі Бі-бі-сі. — Мы заклікаем усіх стаць донарамі органаў. Гэта ратуе жыцці іншых людзей і назаўсёды змяніла наша».

40-гадовая Бэкі таксама паслухала біццё сэрца яе сына праз стэтаскоп, прыкладзены да грудзей Джэйкаба.

Джэйкаб распавёў, што гэта былі «абсалютна нерэальныя эмацыйныя» перажыванні для яго.

Для таго, каб зрабіць Бэкі сюрпрыз, Джэйкаб прарабіў шлях даўжынёй амаль 5 тысяч кіламетраў з Каліфорніі на Аляску.

На вяселлі яму была даручана роля аднаго з шафераў.



# Каб захаваць беларускасць сыноў, у сям'і Шэіных з Мінска іх перавялі на хатняе навучанне

Першае, што кідаецца ў вочы, калі трапляеш у кватэру Шэіных, — лабірынты кніжак.

Яны паўсюль: на паліцах, падлозе, сталах... Чытаць любяць усе члены сям'і: і гаспадыня Наталля, і дзеці. Старэйшы, Якуб, глытае іх залпам, а малыя Ян ды Сымон паціху падцягваюцца за братам. Аляксею, як пісьменніку-пачаткоўцу, без літаратуры ніяк. Шэсць гадоў таму ён канчаткова вырашыў адысці ад актыўнай палітычнай дзейнасці ў Хрысціянскай дэмакратыі, каб пагрузіцца ў майстэрства стварэння гісторый.

Нядаўна раман для падлеткаў «Сем камянёў», напісаны Аляксеем, атрымаў міжнародную прэмію Еўрапейскага таварыства навуковай фантастыкі як найлепшы літаратурны дэбют, а на сцэне РТБД паставілі спектакль па яго першай п'есе «1517» пра Францыска Скарыну. Цяпер ён рыхтуе адразу некалькі новых кніжак.

Пра іх будучы змест, былыя прыгоды, каханне, якое было не з першага, а з «сотага» позірку, ды хатняе навучанне дзяцей Аляксей разам з жонкай Наталляй распавялі «Нашай Ніве».

### «Мог стаць алкаголікам, але стаў пісьменнікам»

Аляксей рос у Гродне. У Мінск трапіў, як паступіў у Ліцэй БДУ. Пасля працягнуў навучанне на філфаку. Дарэчы, менавіта ў ліцэі разам з сябрамі ён вырашыў перайсці на беларускую мову. Вось як сам Аляксей пра гэта ўспамінае: «Мне было 15, ішоў 1991 год, атмасфера перамен натхняла на многае. Разам з аднакласнікамі мы проста захацелі раз і назаўжды перайсці на мову: у мяне атрымалася зрабіць гэта за тры месяцы. Але першы ўрок патрыятызму я атрымаў яшчэ ад маці. У школе нам неяк задалі пераклад з рускай на беларускую. Я падышоў да маці і спытаў: «Как по-ихнему будет пулемёт?» Яна мяне адразу асекла і аблаяла: «Якая іхняя? Гэта наша мова!» Пры тым што ў сям'і мы па-беларуску не размаўлялі, беларускую я чуў толькі ў Ракаве ў бабулі».

Студэнцкія гады ў хлопца былі насычаныя: Аляксей быў адным з заснавальнікаў «Маладога фронту». З паплечнікамі вывешваў бел-чырвона-белыя сцягі на дахі цэнтральных будынкаў, ладзіў акцыі. У нейкі момант на хвалі свабоднага жыцця без бацькоў пачаліся праблемы з алкаголем.

«Раз на два дні мне стабільна трэба было выпіць, сабрацца з нейкай кампаніяй. Аднойчы, вяртаючыся з філфака, я так і не дайшоў да інтэрната на Кастрычніцкай: па дарозе затрымалі. Прачнуўся ўжо ў выцвярэзніку. Яшчэ неяк, памятаю, быў не ў гуморы, мы ішлі кампаніяй праз паркоўку каля стадыёна «Дынама», і я пачаў рукой біць люстэркі на машынах, яна ўся скрываўленай стала. Ахоўнікі хутка схапілі, прыехала міліцыя — добра, што патрапіўся адэкватны міліцыянер, толькі грошы папрасіў аддаць уласнікам, хуліганку мне не прышпілілі. Як разумееце, актывісту «Маладога фронту» гэтыя гісторыі ніяк не пасавалі. Добра, што, калі паверыў у Бога, мне ўдалося перамагчы залежнасць: генетыка не даравала б працяг алкагольных гісторый».

### «Каханне напаткала праз 10 гадоў знаёмства»

Былы атэіст і бунтар — сёння вернік, бацька траіх дзяцей і пісьменнік. Кожны дзень Аляксей сядае за працоўны стол, каб напісаць мінімум 500 слоў для адной з будучых кніжак.

«Асноўны мой праект цяпер — раман-квэст па Беларусі. Па сюжэце школьнікі наведваюць розныя гарады, дзе шукаюць скарб. З дапамогай гэтай кніжкі, я спадзяюся, чытачы лепш пазнаёмяцца з геаграфіяй і гісторыяй нашай краіны. Акрамя гэтага, паралельна я працую над адным гістарычным прыгодніцкім падлеткавым раманам і кніжкай для дарослых», — дзеліцца гаспадар дома.

Будучая жонка Аляксея Наталля таксама вучылася на філфаку: у іх быў курс розніцы.

І калі Аляксей дзяўчыну асабліва не заўважаў, то яна якраз наадварот: «Інакш і быць не магло: на філфаку хлопцы — рэдкасць. Добра калі тры на плынь было. Таму Аляксея я адразу запомніла: у белым швэдры, з даўгімі валасамі, барадой і «фенечкай» на руцэ».

Яна была ўпэўненая, што такім, як Аляксей, падабацца не можа: ён — творчы чалавек, яна — больш матэматык і практык. Ды і не да хлопчыкаў тады было: Наталлю куды больш цікавілі розныя адукацыйныя курсы, разам з чарнобыльскім фондам яна суправаджала беларускіх дзяцей у Італіі, рана пачала зарабляць грошы рэпетытарствам.

Пазнаёміліся яны ўжо ў пратэстанцкай царкве, куды ў 1997 годзе прыйшлі па пэўныя жыццёвыя адказы. Праўда, доўгі час толькі віталіся, не больш. А потым нейкім чароўным чынам Аляксей паглядзеў на Наталлю пайншаму. «Ёсць каханне з першага погляду, а яно напаткала нас праз шмат такіх позіркаў», — Аляксей да гэтага часу сам не разумее, як спрацавала так званая хімія. Тлумачэнне таго, што яны пачалі сустракацца, мужчына знаходзіць яшчэ ў адным цікавым побытавым момантце:

«У «Маладым фронце» быў крызіс. З двух камп'ютараў, што мы мелі, адзін прыйшлося прадаць, каб аплаціць прыезд рэгіянальных лідараў на сустрэчы ў Мінск. А там яшчэ, здаецца, прэзідэнцкія выбары набліжаліся, 2001-ы год, улёткі трэба было друкаваць... І Наталля пазычыла нам 400 даляраў. На той момант гэта была нерэальная сума: працуючы навуковым супрацоўнікам музея Янкі Купалы, я атрымліваў 16 даляраў. Шмат часу мы не маглі гэтыя грошы вярнуць, а Наташа нават і не патрабавала — гэта шмат казала пра яе характар».

Каб каханне саспела, спатрэбілася 10 гадоў, амаль столькі ж Шэіны жывуць разам у статусе мужа і жонкі.

### «Акцябраты, крычалкі, сцягі — хочацца трымаць сваіх дзяцей ад такога далей»

Дзецям Наталлі і Аляксея не прыходзіцца ўставаць рана, каб своечасова прыйсці ў дзіцячы садок ды школу. Калі гэта не канікулы, то прачынаюцца яны а палове на дзявятую, ядуць, а пасля сядаюць за заняткі. Старэйшы Якуб разам з маці вучыцца, а меншыя, Ян ды Сымон, гледзячы на гэта, таксама выцягваюць свае сшыткі ды паўтараюць за настаўніцай, наколькі хапае вытрымкі. Наталля — сама выкладчыца, таму праблем з тлумачэннем курса пачатковай школы не адчувае. Дый у прынцыпе лічыць, што веды першых класаў сваім дзецям могуць перадаць нават тыя людзі, якія скончылі толькі сярэднюю школу.

«Мы пайшлі на гэты крок, каб выхоўваць сыноў у беларускім асяроддзі. У школе бываем толькі раз на чвэрць, каб здаць прамежкавы кантроль, атрымаць атэстацыю ва ўсіх настаўнікаў. Шмат падручнікаў, метадычнай літаратуры, дапаможнікаў сёння можна знайсці ў адкрытым доступе, таму новыя веды — гэта не праблема. Кніжак на беларускай мове, канечне, не хапае — чытаем розныя. Мульцікі дадаём то на ўкраінскай, то на польскай, то на англійскай, — расказвае галоўны арганізатар вучэбнага працэсу Наталля. І працягвае: — У нас шмат хто пытае пра сацыялізацыю. На наш погляд, калі ты ў школе цягам 11 гадоў замкнёны ў адзін калектыў, таксама складана належнай сацыялізацыі дасягнуць. Яшчэ цяжэй гэта зрабіць, калі трапляеш пад нейкую марку. Напрыклад, цябе аднойчы палічылі хвасцістам — значыцца, ты ўвесь час павінен сядзець на апошняй лаўцы і плявацца. З прылепленым цэтлікам прыходзіцца ўжывацца, хочаш ты таго ці не. У мяне быў ярлык выдатніцы: і паспрабуй тут толькі не вывучыць урок ці прыйсці на дыскатэку — на мяне адразу глядзелі як на нешта звышнатуральнае».

Адзіным масавым мерапрыемствам, якое Якуб наведаў у школе, была рэпетыцыя лінейкі. Акцябраты, піянеры, крычалкі, сцягі — пасля ўбачанага бацькі вырашылі трымаць сваіх дзяцей ад такіх падзей далей.

Не трэба думаць, што дзеці Шэіных зусім не пакідаюць межы кватэры: яны разам са сваімі сябрамі наведваюць беларускамоўныя заняткі, якія арганізоўваюць самі бацькі мінскіх дзяцей, што вучацца дома. Гэта англійская мова, навука, хор, мастацтва, тэатральны гурток... Канечне, калі сыны трапляюць у краму ці гуляюць з аднагодкамі ў двары, прыходзіцца штораз тлумачыць, чаму людзі навокал размаўляюць не так, як у іх сям'і.

«Мы кажам дзецям, што беларуская — іх родная мова, і вучым яе любіць. Наш уласны прыклад і прыклад нашых сяброў — гэта пакуль што дастатковая для дзяцей матывацыя, каб захоўваць беларускамоўнасць, хаця ў падлеткавым узросце могуць узнікнуць праблемы, мы гэтага не выключаем», — дзеліцца муж з жонкай.

У будучыні яны хочуць паспрабаваць выкладаць дома і праграму для старэйшых класаў: арганізаваць вучэбны працэс такім чынам, каб бацькі сяброў, якія разбіраюцца ў матэматыцы, чыталі гэты курс, географы — свой прадмет і гэтак далей.

**Кацярына Карпіцкая, фота аўтара**

# Хопіць прымітызаваць гісторыю, хаваючыся за адгаворкай «спярша пабудуем нацыю»: маладыя гісторыкі палемізуюць з Алесем Краўцэвічам

Пішуць Антон Лявіцкі і Паўліна Скурко.

На сайце зусім новай Акадэміі Астрагорскага прапанаваны адукацыйны курс Алеся Краўцэвіча «Вялікае Княства Літоўскае ў еўрапейскай і беларускай гісторыі». Важна, што відэакурсы па беларускай гісторыі з'яўляюцца ў сеціве. Аўтар трох з іх — Алесь Краўцэвіч.

Вось другая лекцыя, тэма якой — высніць, чыёй дзяржавай было ВКЛ. Краўцэвіч прызнае, што гэта — навукова некарэктная пастаноўка пытання, і прапануе замяніць яе іншай: развіццю якога этнасу аб'ектыўна спрыяла ВКЛ? Інтанацыйна вылучаныя лектарам словы «аб'ектыўна спрыяла» тлумачаць інтэлектуальны падтэкст гэтага разважання. З той жа інтанацыяй Адам Залескі ў канцы 1980-х даводзіў, што Рагнеда «аб'ектыўна» была рэакцыянеркай і таму не вартая месца ў нацыянальным пантэоне.

Такая аб'ектыўнасць пазбаўляе суб'ектнасці людзей мінуўшчыны, накідвае на даступныя нам крыніцы сучасныя ўяўленні і каштоўнасці і нічога не паведамляе пра логіку грамадскай прасторы. Яна не задаецца пытаннем, як яны бачылі свет, як арганізоўвалі свае сацыяльныя ўзаемадзеянні, на якіх прынцыпах аб'ядноўваліся.

Напрыклад, побач з аб'ектыўнасцю знаходзіцца паняцце этнасу, пазычанае з савецкае этналогіі 1970-х. Правамернасць гэтага паняцця дыскутавалася ў беларускай прафесійнай перыёдыцы, але крытыка мала паўплывала на ўжыванне яго сярод гісторыкаў. Многія ўсё яшчэ мяркуюць, што этнас — аб'ектыўна існуючая рэчаіснасць, амаль што біялагічная дадзенасць. Між тым у ХХ стагоддзі гістарычная дысцыпліна патрапіла шмат высілкаў, каб звярнуць увагу на сацыякультурную прыроду этнасу (ці, хутчэй, этнічнасці). Этнас не можа быць аддзелены ад грамадскіх адносін і ў гэтым сэнсе з'яўляецца «штучнай» канструкцыяй. Тое тычыцца і шэрагу іншых выпадкаў, напрыклад дыскусійнага паняцця «раннефеадальная дзяржава». Якраз пра гэта — пра тэрміналагічныя ды канцэптуальныя дыскусіі, новыя падыходы — і хацелася б паслухаць на акадэмічных гістарычных курсах.

Гэты падыход зацямняе многія праблемы. Як людзі таго часу разумелі сваю прыналежнасць да груп? Ці такой важнай для іх была мова, на якой яны размаўлялі?



Магчыма, сацыяльны статус быў абумоўлены іншымі фактарамі, не этнічнасцю? Напрыклад, прафесіяй? У нейкі момант такога «распытвання» можа высветліцца наступная неспадзяванка: можа быць, «этнасы» савецкай навукі — як русь, літва ці ятвягі, — былі першапачаткова не «гістарычна складзенымі супольнасцямі, аб'яднанымі адзінствам паходжання, мовы, матэрыяльнай культуры, саманазвай», а прафесійнымі групоўкамі з пэўнай практычнай функцыяй?

Вялікую ролю аўтар курса надае паняццю цывілізацыі — яшчэ адной абстракцыі. Сёння яно ўжываецца ў гуманітарных навуках, хутчэй, з асцярогай (калі наогул ужываецца; варта пачытаць пра гэта, напрыклад, у апошняй кнізе Віталя Сіліцкага «Доўгая дарога ад тыраніі», які наўпрост адмаўляецца падзяліць скандальную некалі «цывілізацыйную аргументацыю Хантынгтана» ў кантэксце сваёй тэмы). У той жа час у постсавецкіх краінах паняцце «цывілізацыя» мае ідэалагічную функцыю. Існуе думка, што «цывілізацыйны падыход» у постсавецкай гуманітарыстыцы прыйшоў на змену марксізмуленінізму і функцыянальна замяніў навуковы камунізм, бо меў на мэце абгрунтаванне спецыфікі рускага гістарычнага шляху.

Гэтую логіку можна ўбачыць у беларускім падручніку па грамадазнаўстве для 9 класа (2009 год). Прывёўшы азначэнне цывілізацыі, заснаванае на працах Тойнбі, аўтары падсумоўваюць сутнасць цывілізацыйнага падыходу: «Розныя народы, кожны з адметнай культурай ці цывілізацыяй, праходзяць свой, самабытны шлях гістарычнага развіцця». Адсюль лагічна вынікаюць і «беларуская мадэль», і рускія «скрэпы».

Як аб'ектыўнасць і этнас, паняцце цывілізацыі не дапускае іншай оптыкі. Але ці сапраўды цывілізацыйны выбар разумеўся ў тагачасным ВКЛ так, як падае Краўцэвіч? Ці людзі ў эпоху Вітаўта баяліся страціць сваю ідэнтычнасць праз ісламізацыю Захаду? Ці не было іншых сцэнарыяў перажывання культурнай разнастайнасці? Як растлумачыць у такім кантэксце Луцкі з'езд, у цырымоніях якога на роўных бралі ўдзел праваслаўныя, каталікі і мусульмане?

Тое самае адбываецца з паняццем «раннефеадальнай дзяржавы» (і звязанай з ім «феадальнай раздробленасцю»), якое ўжываецца Краўцэвічам без дадатковых тлумачэнняў. Але як гэта выглядала ў практыцы таго часу? Ці было Вялікае Княства дзяржавай у сучасным сэнсе? Як было арганізаванае літоўскае грамадства? Напрыклад, ці існавалі ў ВКЛ уяўленні аб палітыцы, эканоміцы, вайне як самастойных галінах жыцця? У чым былі асаблівасці сацыяльнага ўяўлення, пашыранага ў гэтым грамадстве? Напрыклад, як змянялася роля рэлігіі? Усе гэтыя пытанні ў курсе не ставяцца, бо ў іх няма патрэбы: хуткія адказы прапануе мімаходзь памянёная «раннефеадальная дзяржава».

У канкрэтных сюжэтах часта прапануюцца састарэлыя тлумачэнні, хоць існуюць вельмі цікавыя новыя ідэі.

Як, напрыклад, паўстала ВКЛ? Краўцэвіч нічога не кажа пра значэнне Русі як рамкі для палітычнага дзеяння «літвы». Такая гіпотэза вылучаная ў новым курсе гісторыі «Паўночнай Еўразіі» (падрыхтаваны часопісам *«Ab Imperio»*). Аўтары курса мяркуюць, што першапачатковы імпульс для фарміравання ВКЛ дало ўключэнне «літвы» ў палітычную сістэму Рускай зямлі ў ХІ стагоддзі.

Ніяк не звяртаецца Краўцэвіч і да пазнейшае інтэлектуальнай традыцыі праваслаўнай эліты (Літоўскай) Русі (якая ўяўляла Вільню як прамую наследніцу Кіева). А гэта надзвычай насычаны і багаты сюжэт, які дае магчымасць практычна зразумець складанасць культурнай прасторы.

Праігнараваўшы гэтыя і іншыя сюжэты гісторыі Літвы, Краўцэвіч упусціў магчымасць паказаць гістарычную дынаміку ва ўсім яе багацці і з новай перспектывы, адысці ад простага пераказу крыніц і класічных даследаванняў.

Курс вельмі просты, на мяжы з трывіяльнасцю. Калі супаставіць, аказваецца, што сутнасна лекцыі ў Акадэміі Астрагорскага адрозніваюцца ад серый «Пад знакам Пагоні» і «Загадкі беларускай гісторыі», якія гісторык рабіў раней на тэлеканале «Белсат», толькі адсутнасцю драматычнай фонавай музыкі. Між тым тэлеперадача і акадэмічная лекцыя — гэта розныя жанры. Лекцыі Краўцэвіча папросту не адпавядаюць акадэмічным стандартам. Бракуе арыгінальнасці думкі, не прадстаўленыя новыя погляды ці незвычайныя назіранні — гэта проста пераказ, нават пералік падзей палітычнай гісторыі ВКЛ. Лекцыі з'яўляюцца прамалінейным узнаўленнем тых канструкцый і наратываў, што былі прынятыя маладой беларускай гістарыяграфіяй у канцы 80-х. Натхнёныя перабудовай і афармленнем нацыянальнай дзяржавы, беларускія гісторыкі бачылі сваю задачу ў тым, каб хутка выпрацаваць нацыянальную канцэпцыю гісторыі Беларусі. Яна адпавядала духу часу, але наўрад ці яна можа быць актуальная праз чвэрць стагоддзя.

Уважлівае канспектаванне гэтага курса Акадэміі Астрагорскага дапаможа школьнікам здаць гісторыю Беларусі на высокі бал (адно што мала хто са школьнікаў зразумее, хто такія «летувісы», бо лектар нідзе не тлумачыць, што ён называе насельніцтва сучаснай Літвы). Але калі школьныя ўрокі гісторыі для вас ужо ў мінулым, спазнаваўчая якасць такога курса будзе да роспачы малой для беларусаў другога дзесяцігоддзя XXI ст. Курс Краўцэвіча не ставіць складаных пытанняў і не разважае за межамі падзелу на сваё і чужое.

Некаторыя праблемы тэарэтычнага кшталту ўласцівыя беларускай гістарыяграфіі наогул, незалежна ад таго, якога ідэалагічнага кірунку трымаюцца аўтары. Гэта вынік моцнай залежнасці ад традыцый савецкай гістарычнай навукі. Нацыянальная гістарычная канцэпцыя, распрацаваная ў 1990—1991 гадах, мела супярэчлівы падмурак: ён уключаў як запазычанні (інтэрпрэтацыі) з твораў 1860—1920-х гадоў, так і рудыменты савецкай традыцыі (паняцці, метады, матывацыі).

Гэтая супярэчнасць — ключавы сюжэт тэарэтычнага парадку ў гістарычных лекцыях Акадэміі Астрагорскага.

Гістарычны курс Краўцэвіча — адбітак трансфармацыі постсавецкай вучонасці. Спарадычныя спасылкі на заходніх тэарэтыкаў мінулага стагоддзя (у першай лекцыі чуюцца матывы з Тойнбі, але яго не называюць; пазней наўпрост упамінаецца Фернан Брадэль), пік папулярнасці якіх у рускамоўнай прасторы прыпаў на першае постсавецкае дзесяцігоддзе, толькі акцэнтуюць, у якой эпосе застаецца жыць беларуская гістарычная навука. Да гэтага дадаюцца цытаты з мясцовых аўтараў — Падокшын, Любаўскі, Кужова.

Цікава заўважыць асаблівасць спісу літаратуры да кожнай лекцыі ў электронным падручніку: у кожным, акрамя аднаго, абавязкова прысутнічае праца (часцей нават некалькі) самога Алеся Краўцэвіча. Такі прынцып складання бібліяграфіі глыбока скажае ўяўленне пра парадак дня гістарычнай навукі, у якім тэксты Алеся Краўцэвіча не займаюць так шмат месца, як гэта міжволі ўнушаецца ўдзельнікам гэтага курса.

Дыскусіі гісторыкаў апошніх дзесяцігоддзяў не адбіліся на курсе ніяк. Няма ў ім спасылак на працы Аляксея Кібіня, або на вышэйпамянёны гістарычны курс часопіса *«Ab Imperio»*, або нават на шматлікія перакладныя працы па тэме, апублікаваныя выдавецтвам *«Arche»* (з нядаўніх можна назваць працы Стывена Роўэла і Артураса Дубоніса). Як прыклад найноўшай думкі, Краўцэвіч рэкламуе ўласную «біэтнічную» канцэпцыю ўтварэння ВКЛ, распрацаваную ім у канцы 1990-х. Канцэпцыя была ўспрынятая іншымі гісторыкамі неадназначна; ідэя «прымірыць» беларусаў і літоўцаў у «вайне памяці» вакол ВКЛ гучала занадта кан'юнктурна, а шэраг аргументаў — нацягнута.

На нашую думку, гістарычная прапанова Акадэміі Астрагорскага пакуль не вытрымлівае канкурэнцыі з аналагамі (такімі, як лекцыі MIT (Масачусецкага інстытута тэхналогій) ды многіх іншых прэстыжных універсітэтаў, што даступныя ў сеціве або на спецыялізаваных платформах, напрыклад, edX ці расійская «Постнаука»).

Калі прафесарка Ельскага ўніверсітэта Фрыман чытае лекцыю пра Амерыканскую рэвалюцыю, можна быць упэўненым, што гэтая лекцыя выконвае адзін з галоўных прынцыпаў дыдактыкі — прынцып навуковасці, г.зн. адпаведнасць тым самым акадэмічным стандартам.

Калі Краўцэвіч абяцае растлумачыць ролю ВКЛ у еўрапейскай гісторыі, цяжка пазбыцца адчування, што ў тлумачэнні няма навукі — толькі стэрэатыпізаваныя міфалогіі (напрыклад, «шчытом Еўропы» сябе ўяўлялі вельмі многія, ад Харватыі да Расіі; тое самае тычыцца ідэі «моста цывілізацый»), хрэстаматыйныя штампы і проста лагічныя памылкі.

Ідэю Акадэміі Астрагорскага трэба вітаць — гэта крок, хоць і зусім маленькі, да стварэння незалежнага ад дзяржавы ўніверсітэта. Але чаго хочацца ад наступных відэакурсаў па беларускай гісторыі? Змястоўных высноў (у курсе Алеся Краўцэвіча па гісторыі ВКЛ высновы, на жаль, прадстаўленыя адным сказам). Хочацца таксама і разнастайных поглядаў, небанальных назіранняў, новых кантэкстаў, акадэмічнай грунтоўнасці (тэарэтычныя паняцці — гэта важна і складана, але не страшна: нават і яны могуць выкладацца даступна ды захапляльна).

Гэта ўсё мае значэнне, бо наўрад ці сучаснае грамадства можа паспяхова развівацца без адэкватных гуманітарных навук. Таму немагчыма абапірацца на ўлюбёны аргумент у такіх спрэчках — «спярша пабудуем нацыю». Немагчыма спрыяць далучэнню беларусаў да прасторы еўрапейскай ці сусветнай сучаснасці, эксплуатуючы штампы, ізалюючыся ад знешніх дыскусій. Бо нацыя — гэта найперш прастора салідарнасці і прынцыпы грамадзянства, і яны хутчэй будуць жывіцца сумленным навуковым пошукам, чым стандартамі нацыянальнай агітацыі 1910-х гадоў.

Таму важна, каб беларуская гістарыяграфія не баялася інтэлектуальных дыскусій. Каб у ёй было менш «сымон-музыканцтва». Здаецца, ад гэтага выйграюць усе: стане цікавейшай прафесія, жывейшай публічная сфера, больш сучаснай — маючая нацыя.

**Антон Лявіцкі, Паўліна Скурко**

**Антон Лявіцкі**

нарадзіўся ў 1993 у в. Палянінавічы (Быхаўскі раён, Магілёўская вобласць). Скончыў гістфак Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, цяпер вучыцца ў аспірантуры ў Нямеччыне (Graduate School for East and Southeast European Studies Мюнхенскага ўніверсітэта).

**Паўліна Скурко**

нарадзілася ў 1991 у Мінску. Скончыла гістфак Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта і магістратуру Еўрапейскага гуманітарнага ўніверсітэта, цяпер вучыцца ў аспірантуры ў Мінску.

# Казакі на беларускай зямлі: што расказваюць архівы СБУ

Уладзіслаў Ахроменка — беларускі пісьменнік, які цяпер жыве ў Чарнігаве і шмат часу аддае працы ў архівах Службы бяспекі Украіны, былых архівах КГБ УССР. Яны адкрытыя для наведнікаў і поўныя матэрыялаў, якія тычацца беларускай гісторыі. Падборку, прысвечаную расейскім вайсковым фармаванням на службе гітлераўцаў, Уладзіслаў Ахроменка зрабіў для «Нашай Нівы».

У 1986 годзе я, другакурснік Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі, працаваў у этнаграфічнай экспедыцыі на Ашмяншчыне. На адным з хутароў пазнаёміліся мы з цудоўнай бабкай. Песні, байкі, пачастункі, аповеды — «як за Сталіным жылося», «як за палякамі», «як за немцамі»...

— У нас тут раней багата хутароў было, большасць у вайну спалілі, — паведаміла гаспадыня.

— Немцы спалілі?

Бабка адказала не адразу.

— Рускія. Казакі, якія разам з немцамі прыйшлі...

Ні ў адным беларускім музеі вы не пабачыце ніводнага экспаната, ніводнага сведчання пра расійскіх казакаў на службе гітлераўцаў. Як, зрэшты, і інфармацыі пра «РОА» і «РОНА».

А распавесці тут ёсць пра што. Асабліва пасля вывучэння расакрэчаных матэрыялаў з архіваў былога КГБ УССР.

### «РОА», «руская паліцыя» ды іншыя

У 1945 годзе амерыканцы перадалі «Смершу» 47-й Арміі былога грамадзяніна СССР Мікалая Пальчыкоўскага. На допыце высветлілася багата цікавага...

ИЗ МАТЕРИАЛОВ СЛЕДСТВЕННОГО ДЕЛА

Пальчиковский Николай Михайлович, 1913 г. р., местожительство: Челябинск, улица Кирова, Дом облисполкома, русский, бывший член ВКП (б), образование высшее, ранее не судим.

В октябре 1941 г. сдался противнику. В 1942 г. из лагеря г. Гомель добровольно пошел на службу в РОА, командовал взводом 230-го батальона. Закончил офицерскую школу РОА, получил звание поручик. Вел активную борьбу против советских партизан в Белоруссии, участвовал в массовых расстрелах. В составе Восточного батальона РОА воевал в Нормандии (Франция) против американских войск, к которым попал в плен. Возвращаться в Советский Союз отказывался.

Палонны паручнік «РОА» Мікалай Пальчыкоўскі раней служыў палітруком у заградатрадзе, а да службы ў заградатрадзе, акурат за часамі Вялікага Тэрору, быў супрацоўнікам УНКВД па Чэлябінскай вобласці.

Пасля палону ў 1941 годзе Пальчыкоўскі патрапіў у гомельскі лагер ДУЛАГ-121 для савецкіх ваеннапалонных, які месціўся блізка ад цяперашняй фабрыкі імя 8 Сакавіка. Умовы ў ДУЛАГ-121 былі пачварныя, людзі паміралі тысячамі. У лагер рэгулярна наведваліся вярбоўшчыкі «РОА», але далёка не ўсе палонныя пагаджаліся ваяваць за Гітлера пад уласаўскім сцягам.

Былы чэкіст і былы палітрук Пальчыкоўскі пагадзіўся адным з першых.

ИЗ ПРОТОКОЛА СУДЕБНОГО ЗАСЕДАНИЯ

от 22 ноября 1945 г.

По сути предъявленного обвинения подсудимый Пальчиковский сказал: (…) В феврале 1942 г. я добровольно поступил на службу в «РОА» (…) командовал взводом 230-го батальона «РОА», в составе которого я был до июня 1942 г. и охранял военные объекты в г. Гомель (…) В июне 1942 г. в составе батальона выехал в Смоленскую область, и там до второй половины месяца 1942 г. командовал взводом, вместе с которым принимал участие против партизан в Смоленской области.

Пальчыкоўскі і ягоныя сябрукі па 230-м батальёне «РОА» — адзінкавыя антыгероі і ўвогуле выключэнне?

Далёка не адзінкавыя і далёка не выключэнне.

Той жа Гомель, 1941—1942 гг. Хто першымі ідзе служыць гітлераўцам? Першымі кідаюцца да новых уладаў тыя, хто арыентаваўся на расейскую манархічную ідэю.

Начальнікам гомельскага аддзела асветы становіцца нехта Рытвінскі, які дамагаецца, каб немцы пазачынялі тыя беларускія школы, якія існавалі за савецкім часам.

Начальнік паліцыі Гомельскай вобласці, былы палкоўнік РККА Васіль Кардакоў, уводзіць дарэвалюцыйныя званні «квартальных», «урядников» і «становых пріставов». Ён жа займаўся і вынішчэннем гомельскіх яўрэяў.

Аховай таго ж лагера ДУЛАГ-121 займаецца «РОА», а аховай гомельскай турмы — «русская поліцыя».

Агульная колькасць ваякаў з таго ж «РОА», якія займаліся генацыдам беларусаў, невядомая. У архівах спецслужб сустракаюцца адно нумары гэтых частак і шматлікія інфармацыі пра карныя акцыі супраць партызан і мірнага насельніцтва.

### Казакі з Waffen-SS

Зрэшты, у «РОА» яшчэ служылі ліберbegin і гуманісты — калі параўнаць тых уласаўцаў з расійскімі казакамі.

22 жніўня 1941 на бок гітлераўцаў амаль у поўным складзе перайшоў 436-ты пяхотны полк, якім камандаваў маёр РККА Іван Конанаў — кавалер ордэна Чырвонай Зоркі, «герой вызвольнага пахода на Заходнюю Украіну» і «герой савецка-фінскай вайны». На базе гэтага палка Чырвонай Арміі ў акупаваным Магілёве 19 верасня 1941 года і быў створаны 120-ты данскі казацкі полк.

На прэзентацыю запрасілі высокае нацысцкае начальства. Казакі пацалавалі палкавыя харугвы, атрымалі блаславенне свайго бацюшкі, пасля чаго ўрачыста прынялі прысягу на вернасць новай уладзе.

Обещаюсь и клянусь Всемогущим Богом (…), что буду Вождю Германского народа Адольфу Гитлеру верно служить (…), не щадя своей жизни до последней капли крови. Все законы и приказания от поставленных Вождем Германского народа Адольфа Гитлера начальников отданные, по всей силе и воле исполнять буду.

Следчых спраў, а таксама «спраў-фарумуляраў» на расейскіх казакаў, якія ваявалі на баку гітлераўцаў, давялося пераглянуць колькі дзясяткаў. Найбольш паказальная справа былога чырвонаармейца 219-га гаўбічнага палка Мікалая Чабярды, які добраахвотна запісаўся ў казакі ў Барысаўскім лагеры ваеннапалонных.

ИЗ ПРОТОКОЛА ДОПРОСА

Чеберды Николая Ивановича

27 мая 1946 г.

ВОПРОС: Расскажите подробно о службе в казачьих войсках немецкой армии.

ОТВЕТ: Я участвовал в Белоруссии в боях против советских партизан в р-не Белынич, Полоцка, ст. Оболь, ст. Невель. Нашему орудию приходилось вести огонь по селам и по лесам, в которых партизаны оказывали сопротивление наступающим казацким частям. В этих боях партизаны несли потери ранеными, убитыми и пленными. Я лично видел, как линейный эскадрон приводил пленных партизан в расположение штаба 600-го казацкого отделения, которые впоследствии были расстреляны.

Кроме того, в селе Круглом во время карательной операции, проходившей в Могилевской области, нашему расчету приходилось стоять в помещении, где содержались пленные партизаны и мирное население. Я лично видел, как ни в чем не повинных людей избивали плетьми, а по ночам увозили на расстрел на кладбище.

Приказ командира Кононова об уничтожении всего лежащего на пути наступления казачьих войск исполнялся с точностью.

Операции против советских партизан в Белоруссии проводились нами систематически с июля 1942 г. до июля 1943 г.

Казацкі камандзір Іван Конанаў за знішчэнне беларусаў атрымаў Жалезны крыж 2-й ступені. Казацкі ўраднік Мікалай Чабярда быў узнагароджаны медалямі.

Зрэшты, і «600-ты казацкі аддзел, і «120-ы данскі казацкі полк Waffen-SS», і «Пяты данскі казацкі полк Waffen-SS» мелі яшчэ не самую паганую рэпутацыю. У 1944 годзе ў раёне Баранавічаў — Слоніма — Навагрудка — Ельні дзейнічаў так званы «Казацкі стан», які ўзначальваў паходны атаман Цімафей Даманаў — былы савецкі бухгалтар і былы сексот НКВД. Зверствы карнікаў з «Казацкага стану» былі яшчэ больш нялюдскімі, чым у зондэркаманд СС...

Дакументальных матэрыялаў пра злачынствы ўласаўцаў і казакоў давялося пераглянуць кіламетры. Паўсюдна — адно і тое ж: спаленыя вёскі, расстраляныя сяляне, рабаўніцтвы, гвалтаванні і катаванні.

**Уладзіслаў Ахроменка**

Іван Конанаў на службе ў 120-м казацкім палку Waffen-SS.

"УТВЕРЖДАЮ"
ЗАМ НАЧ ОТДЕЛА КОНТРРАЗВЕДКИ
ЗАП СИБ ВО - полковник
(МИХАЙЛОВ)
"11" сентября 1946 г.

ОБВИНИТЕЛЬНОЕ ЗАКЛЮЧЕНИЕ

По след.делу №...87

По обвинению - ЧЕБЕРДА Николая Кузьмича по ст.58-1"б" УК РСФСР.

15 мая 1946 года отделом контрразведки Зап.Сиб.ВО был арестован и привлечен к уголовной ответственности за измену Родине ЧЕБЕРДА Николай Кузьмич.

Проведенным по делу расследованием установлено, что обвиняемый ЧЕБЕРДА Н.К., являясь рядовым 219 гаубичного арт. полка, находясь в действующей Красной Армии, во время боев с немецко-фашистскими войсками в районе гор. Минска отстал от своей части, бросил личное оружие и 26 августа 1941 года в районе мест. Кохоново, Минской области сдался немцам в плен. С 30 августа 1941 по 26 мая 1942 года содержался в Борисовском лагере советских военнопленных. Из этого лагеря добровольно поступил на службу в казачьи войска немецкой армии, где принял присягу на верность службы в интересах фашистской Германии. В казачьих войсках немецкой армии служил беспрерывно с мая 1942 по май 1945 года, сначала в должности рядового, а затем командира орудия в чине унтер-офицера немецкой армии (л.д. 13-17, 25-26).

Находясь в составе 600 казачьего отделения, артиллерийской батареи, в должности заряжающего, с мая 1942 по июнь 1943 г. в районах городов: Белыничи, Полоцк и Невель (Белоруссия) принимал непосредственное участие в боях против советских партизан, действовавших в тылу немецко-фашистских войск.

Са следчай справы былога супрацоўніка УНКВД па Чэлябінскай вобласці, былога палітрука заградатрада, былога карніка «Русской освободітельной арміі» М. Пальчыкоўскага. З фондаў архіўна-ўліковай службы УСБУ па Чарнігаўскай вобласці, архіўная справа «1840-ОФ».

Нагрудны знак казацкай часці, якой камандаваў Іван Конанаў.

Трапіць у Цэнтральны галіновы архіў УСБУ ў Кіеве можа кожны ахвотны. Знаёміцца з архівамі савецкага НКВД і КГБ ва Украіне можна свабодна.

# Што адбываецца з беларускай мовай — папулярна расказваем пра першы арфаэпічны слоўнік

Слоўнік яшчэ «гарачанькі», але ўжо паспеў нарабіць шуму. Для Беларусі яго выхад — гістарычная падзея, бо дагэтуль падобнага зборніка, дзе былі б сабраныя ўсе арфаэпічныя нормы, дзе тлумачылася б вымаўленне 117 тысяч беларускіх слоў, — увогуле не было.

Магчыма, мы б і сёння не святкавалі яго з'яўленне, калі б у падрыхтоўку не ўключыліся тэхнары — спецыялісты Лабараторыі распазнавання і сінтэзу маўлення. Лінгвісты кажуць, з іх дапамогай удалося ашчадзіць да 15 чалавека-гадоў.

Над першым арфаэпічным беларускім слоўнікам працавала каманда з двух інстытутаў Нацыянальнай акадэміі навук. Ад інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа — доктар філалагічных навук Валянціна Русак і кандыдат філалагічных навук Вераніка Мандзік. Ад Аб'яднанага інстытута праблем інфарматыкі — кандыдат тэхнічных навук Юрась Гецэвіч і магістр фізіка-матэматычных навук Станіслаў Лысы.




**«НН»: Як сталася, што дагэтуль такога слоўніка не было?**

**Вераніка Мандзік:** Гэта акурат паказвае на карпатлівасць і велізарны аб'ём працы. Нельга сказаць, што раней не рабілі даследаванні ў галіне арфаэпіі і беларускага маўлення. Аднак без дапамогі тэхнічных сродкаў сістэмна, комплексна прадставіць усе арфаэпічныя нормы ў адным выданні і, больш за тое, кожнае слова даць у арфаэпічным выглядзе было б вельмі складана.

**Валянціна Русак:** Па самых сціплых падліках, мы ашчадзілі пяць-сем чалавека-гадоў. Але ў рэальнасці, хутчэй за ўсё, гэтая лічба была б нашмат большай — 12—15 гадоў.

**«НН»: Што гэта за тэхнічныя сродкі?**

**Валянціна Русак:** Цяпер машына генеруе транскрыпцыю 117 тысяч слоў з дакладнасцю 98 працэнтаў. Чалавек можа збіцца, пайсці за сістэмай папярэдніх слоў, машына — не. Але перш чым яе навучыць, лінгвістам прыйшлося вельмі шмат папрацаваць.

**Вераніка Мандзік:** Ключавое слова — алгарытм. Мы бралі літарнае спалучэнне, напрыклад «све», і дапаўнялі алгарытм адпаведным правілам, па якім бы машына выдавала [с'в'э]. І так па кожнай пазіцыі. Для кожнага літарнага спалучэння, якое мела арфаэпічную спецыфіку, мы прапісвалі правіла. Былі неадназначныя пазіцыі, якія трэба было выверыць і абгрунтавана зацвердзіць. Гэта вялікі аб'ём лінгвістычнай працы. А далей ужо за справу ўзяліся нашы калегі-інфарматыкі. Яны ўклалі гэтыя правілы ў праграму і стварылі генератар, які пераўтварае арфаграфічны запіс слова ў яго фанетычную транскрыпцыю.

**Станіслаў Лысы:** Нам удалося ўкласці ўсе пазіцыі ў некалькі сотняў правілаў. Што праўда, нялёгка было ўносіць у іх праўкі, бо, пакуль правіш адно правіла ў алгарытме, пяць ламаеш. Лінгвісты даюць нейкае правіла, глядзіш на яго і думаеш: ну вось жа яно, зараз я яго папраўлю. А па ходу выпраўляеш адну памылку — ствараеш пяць іншых. У выніку ўсё як бы паляпшаецца, але чым больш вузкае правіла, тым больш складана яго дадаваць.

**«НН»: Але, напэўна ж, былі нейкія словы-выключэнні, якія не падпадаюць пад алгарытмы, пад правілы?**

**Валянціна Русак:** Асобных не сістэмных слоў у беларускай мове я не назаву. Яны ўсе ўсё адно знаходзяцца ў сістэме. Возьмем, напрыклад, «лязг» і «мозг». Машыну мы не навучылі, алгарытм першапачаткова не прапісалі, і так гэтыя словы і пайшлі ў выдавецтва з транскрыпцыяй, дзе «зг» на канцы слова не аглушаецца. Ужо ў апошні момант, калі мы праглядалі звярстаны варыянт, атрыманы з выдавецтва, вока зачапілася за гэтае «зг» і адзначыла — не тое. Спачатку заўважылі толькі адно слова — «лязг». А потым сталі думаць: няўжо адно? Задалі па машыне — адшукалася і «мозг». Такіх слоў усяго два, але гэта ўжо сістэма.

**«НН»: А што з фрыкатыўным і выбухным «г»?**

**Валянціна Русак:** Таксама сістэмна прапісана ўсюды, дзе яно вымаўляецца. Дарэчы, пра аґрэст, які вы згадваеце ў публікацыі пра слоўнік. Ніколі слова «аґрэст» не вымаўлялася з выбухным «г»! Інакш і «грамата», і «зграя» мусілі б вымаўляцца гэтак жа. Магчыма, хтосьці з носьбітаў і вымаўляе «аґрэст» з «г» выбухным, але гэта, хутчэй, асабліваcці дыялекту. У літаратурнай мове «г» выбухное ніколі не фіксавалася ў гэтым слове.

У беларускай мове з «г» выбухным больш за дзве сотні слоў. Гэтыя словы выбраныя машынай, тут памылак няма. Напрыклад, спалучэнне «кд» дае «г» выбухное, як у слове «анекдатычны».

**Вераніка Мандзік:** Гаворка пра тое, што гэта не толькі той «г», які сустракаецца ў запазычаных словах: той жа «ґузік» ці «ґонта». Гэтыя словы вымаўляюцца па традыцыі, так, як былі запазычаны. Мы ж сістэмна прапісалі той выбухны «г», які ўзнікае ў слове пазіцыйна, а не этымалагічна. Этымалагічна мусіла б быць «к», але ў выніку азванчэння вымаўляецца акурат выбухны «г». Цяпер гэта прапісана сістэмна, ва ўсіх спалучэннях глухога «к» і звонкіх зычных. Раней у школах дзецям казалі пра некалькі выключэнняў, насамрэч слоў з выбухным «г» вельмі шмат.

**Валянціна Русак:** Пра гэта гаварылася ў папярэдніх навуковых працах фанетыстаў, але нідзе не было сабрана комплексна.

Акрамя таго, мы ўзялі на сябе адказнасць і ўпершыню прапісалі апазіцыю «в» — «ф». Раней мы мелі ў сучаснай беларускай мове і лексікаграфічных крыніцах усяго два зафіксаваныя словы на «в» канцавое: нерв і рэзерв. Нідзе не гаварылася пра тое, што рабіць з гэтым «в», як яго вымаўляць.

Вядомы фанетыст і эксперыментатар акадэмік Аляксандр Падлужны звяртаў увагу на гэтыя словы, але пакольκі іх было ўсяго два, пазіцыя не была замацаваная, яна засталася па-за ўвагай даследчыкаў. Многія, напрыклад, схільныя вымаўляць на канцы ненатуральнае «ў» замест «ф», хоць гэта супярэчыць сістэме беларускай мовы: «ў» узнікае толькі пасля галосных, і ніколі — пасля зычных.

Цяпер мы маем нашмат больш такіх слоў: драйв, рэйв, дайв-клуб і іншыя. У арфаэпічным слоўніку апазіцыя «в» — «ф» ужо прапісаная, яе існаванне пацверджана эксперыментальна.

**«НН»: Некаторыя настойваюць на тым, што беларуская мова павінна быць «мяккай». Маўляў, вымаўленне бі[знэ]с замест бі[з'н'э]с, бе[н]зін замест бе[н']зін цалкам супярэчыць моўнай традыцыі.**

**Валянціна Русак:** У «Слоўніку беларускай мовы» пад рэдакцыяй Бірылы (1987 год) сістэмна прапісана асіміляцыйнае змякчэнне «с», але словы «сфера» і «сфінкс» пададзены з цвёрдым свісцячым. На практыцы мы сутыкнуліся з тым, што вымаўляюць і мякка, і цвёрда. Што атрымае канчатковую фіксацыю ў мове, што будзе ўжывацца часцей, пакуль сказаць немагчыма. Можа, так і будуць суіснаваць два вымаўленні: [с']фера і [с]фера, бе[н]зін і бе[н']зін. А са словам «менеджар» дык і ўвогуле...

**Вераніка Мандзік:** Ведаеце, няма чаго спрачацца, калі гаворка ідзе пра новую лексіку. Яна яшчэ праходзіць працэс адаптацыі, і таму цалкам натуральна, што можа арфаэпічна афармляцца ў некалькіх варыянтах. Не так важна, якім шляхам праходзіць лексіка. Нават калі яна праз рускую мову запазычваецца, гэта не мяняе сутнасці працэсу адаптацыі.

Тое, што на працягу доўгага часу могуць суіснаваць два варыянты, цалкам натуральна. Бішча лбом у сценку і казаць, што толькі адзін варыянт правільны, — папросту бессэнсоўна. Тым больш ні адзін з гэтых варыянтаў самой фанетычнай сістэме мовы не супярэчыць.

Ёсць у беларускай мове слова «Меркурый», а ёсць слова «мэбля». Для нашай мовы абсалютна натуральна мецьі цвёрдае спалучэнне, і мяккае. А ўжо які варыянт больш жыццяздольны — гэта пакажа час.

**Валянціна Русак:** Што тычыцца пазіцыйных і спрэчных момантаў, то тут трэба абапірацца яшчэ і на традыцыю. У асобных падручніках рэкамендуецца вымаўляць [с']кінуць, [з']гінуць, [с']хіліць. Але гэта супярэчыць традыцыям беларускай фанетыкі, пакольκі яшчэ Браніслаў Тарашкевіч у «Беларускай граматыцы для школ», выдадзенай у 1918 годзе, і ў далейшых перавыданнях звяртае ўвагу на тое, што «скінуць», «згінуць» і «схіліць» трэба вымаўляць цвёрда. Гэта якраз аргумент на карысць таго, што можа быць і цвёрдае, і мяккае вымаўленне.

**«НН»: Чым вы кіраваліся пры складанні слоўніка? Ці ацэньвалі жывую гаворку сучаснікаў?**

**Валянціна Русак:** Мы ацэньвалі гаворку тых носьбітаў, якія ў сваёй прафесійнай дзейнасці карыстаюцца беларускай літаратурнай мовай. Даследавалі мову тэатра, мову навукоўцаў, настаўнікаў школ, выкладчыкаў ВНУ, студэнтаў, пісьменнікаў і ўвогуле людзей культуры.

**Вераніка Мандзік:** Запісвалі маўленне як пісьменнікаў новай генерацыі, якія прытрымліваюцца альтэрнатыўнага погляду на мову, так і пісьменнікаў больш сталага ўзросту, якія больш традыцыйныя ў адносінах да маўлення.

Былі некаторыя выпадкі ў наш бок, маўляў, для ўсіх нашых інфармантаў беларуская мова другасная, а першасная мова, якую яны засвоілі ў сям'і, у асяроддзі, — руская. Але гэта не так. Сапраўды, былі інфарманты, для якіх беларуская мова другасная, але былі і тыя, хто паходзіць з вёскі, хто быў у моўным акружэнні хай сабе не літаратурнай беларускай мовы, але дыялектнай. Гэта, можа, яшчэ і лепш.

**Валянціна Русак:** Хачу дадаць, што мы тут таксама ішлі за традыцыяй, таму што Мікалай Бірыла — першы, хто звярнуў увагу на тое, што фанетыку беларускай мовы трэба вывучаць праз тэатр, дзе людзей прафесійна вучаць гаварыць. Бірыла сам неаднаразова хадзіў у Купалаўскі, слухаў акцёраў і ў выніку напісаў вялікі артыкул.

Таму ў нас склаўся непарыўны ланцужок: мы абапіраліся як на нашых пачынальнікаў, карыфеяў, так і на сучасную маладую генерацыю. У аснову ляглі працы Мікалая Бірылы, Аляксандра Падлужнага, Лііі Выгоннай — тых фанетыстаў, якія вядомыя не толькі ў нас у краіне, але і шырока за яе межамі.

Дарэчы, Падлужны блізка супрацоўнічаў з Барысам Лабанавым, які цяпер працуе галоўным навуковым супрацоўнікам Лабараторыі распазнавання і сінтэзу маўлення. Магчыма, я гэтым і кіравалася, калі прыйшла ў лабараторыю з просьбай дапамагчы. Два разы прасіць не прыйшлося, мы адразу знайшлі агульную мову, зацікаўленасць і атрымалі вось такі цудоўны вынік.

**«НН»: У беларускую мову шмат словаў прыходзіць з рускай. Ці ідзём мы да таго, каб пазычаць наўпрост з замежных моў?**

**Валянціна Русак:** Для нас гэта з'ява традыцыйная. Як ні круці, але руская і беларуская мовы — дзве найбольш блізкія славянскія мовы. Абедзве мовы дзяржаўныя, абедзве з роўнымі правамі і роўнымі магчымасцямі. Таму сёння запазычанні ідуць найперш праз рускую мову. Спачатку яны фіксуюцца ў новых слоўніках запазычанняў рускай мовы, а праз некаторы час прыходзяць у беларускую мову.

**Вераніка Мандзік:** З'яўляецца моўны кантэкст, які дазваляе сцвярджаць, што гэтае слова прыйшло і да нас у мову, што яно выкарыстоўваецца носьбітамі. Гэта дае падставу для яго фіксацыі і ўключэння ў перавыданні слоўнікаў.

**Валянціна Русак:** У лабараторыі Юрася Гецэвіча якраз адсочваюць усе новыя словы, якія з'яўляюцца ў беларускіх тэкстах, на беларускіх сэрвісах.

**«НН»: Не магу не запытацца пра слова «спадар». У слоўніку яго няма. Чаму?**

**Валянціна Русак:** Гэта не прэтэнзія і не папрок іншым слоўнікам, якія фіксуюць гэтае слова. Па-першае, усё зафіксаваць мы не можам. Па-другое, пазіцыю аўтараў ніхто не адмяняў. Што такое «спадар»? Гэта той жа «гаспадар», толькі з адсечаным пачаткам.

Дарэчы, у граматычным слоўніку за 2013 год гэтае слова ёсць.

**Вераніка Мандзік:** Паверце, гэта зроблена не спецыяльна. Мы нічога не маем супраць гэтага слова, хутчэй, наадварот. Проста мы бралі за аснову слоўнік, у корпусе якога гэтай лексемы няма, вось і ўсё. Але калі мы гаворым менавіта пра арфаэпічны слоўнік, то ў слове «спадар» ніякіх цяжкасцяў у вымаўленні мы не знойдзем. Таму трагедыі тут няма, пазней дадамо і гэтае слова.

**«НН»: У якім кірунку цяпер развіваецца беларуская мова?**

**Вераніка Мандзік:** Калі казаць пра вусную форму функцыянавання нашай мовы, то часам нават у маўленні людзей падрыхтаваных назіраецца варыянтнасць асіміляцыйнай мяккасці. Чалавек можа ў адным слове яе ўжываць, а ў іншым — не. Але гэта не паказвае на тое, што яна знікае, ні ў якім разе. Гэта гаворыць толькі пра тое, што маўленне — працэс нашмат больш спантанны, чым пісьмовая мова, якую мы свядома кантралюем.

І, шчыра кажучы, мяне не палохае тое, што хтосьці можа ўжываць асіміляцыйную мяккасць больш паслядоўна, а хтосьці — менш паслядоўна. Мяне насцярожвае іншае. З аднаго боку, гэта плюс, што людзі імкнуцца авалодаць беларускай мовай. Але калі я чую, што чалавек на публічным узроўні гаворыць па-беларуску [ч']аста... Тут ужо ідзе гаворка пра разбурэнне сістэмы.

Працяг на старонцы 21.

# Беларускія багі. Кім бы яны былі, калі б жылі сёння

Пісьменнік Ніл Гейман напісаў кнігу «Амерыканскія багі», не так даўна па ёй выйшаў першы сезон серыяла. Одзін, Чарнабог, Анансі, Ібіс, Лепрыкон і іншыя багі жывуць сярод звычайных людзей, ходзяць на працу, зарабляюць грошы. Гэты правакацыйны тэкст — спроба ўявіць, што б рабілі ў сённяшняй краіне беларускія багі. Не палічыце за блюзнерства.

### Зюзя

«Прозвішча ў вас Мароз? Мікалай Мікалаевіч, ну ладна шпана фігнёй займаецца, а навошта гэта вам? Колькі вам гадоў? 75, 80? Ужо, мабыць, праўнукі ёсць?» Мікалай Мікалаевіч — вельмі каларытны дзед. Густая белая барада, чырвоныя хіпстарскія штаны, кепка з выявай баскетбольнай каманды «Бруклін Нэтс», сонечныя акуляры ад *R.Cavalli*, нават татуіроўка на правым перадплеччы ёсць з выявай нейкай булавы. Сяржанты Петушкоў і Мурашкевіч затрымалі Мікалая Мікалаевіча ў той момант, калі ён прымацоўваў налепку *Straight edge* з выявай «Пагоні» да дарожнага знака. Вядома, што ў пастарунак дзядулю вясці яны не збіраюцца, проста вырашылі паўшчуваць. Відавочна ж, што ў дзядулі не ўсё добра з галавой, больш на цэлае Жодзіна такіх не знойдзеш. Можа, у Мінску і больш шалёныя персанажы сустракаюцца, але не тут. Мікалай Мікалаевіч шмат піў, бязбожна піў, як зюзя. Але потым узяўся за галаву. Больш ні кроплі ў рот. Цяпер спадар Мароз займаецца ёгай, чытае кнігі па псіхалогіі, абліваецца штодня халоднай вадой і бегае паўмарафоны. Праўда, бегаць любіць чамусьці басанож. Гэта можна і дараваць: мы ж ужо казалі, што на цэлае Жодзіна больш такіх не знойдзеш.



**Зміцер Панкавец**

Нарадзіўся ў 1985 у вёсцы Кастрыца Барысаўскага раёна. Працуе ў «Нашай Ніве» ад 2006.

### Пярун

Падпалкоўнік Дундар ужо больш за дзесяць гадоў працуе ў Вайсковапрамысловым камітэце. Жанчыны абажаюць ягоныя срэбраныя вусы, хітры погляд і пошлыя жарты. Кажуць, што ў камітэце ўжо няма тых, каму Дундар не наставіў рогі. Мабыць, менавіта таму ў яго не атрымліваецца расці па пасадзе, але і звольніць яго генералы не могуць, бо Дундар — незаменны супрацоўнік. Гэта ён быў тым, хто з першага дня паверыў у айчынныя сістэмы рэактыўнага залпавага агню, можна сказаць, увасобіў мары кіраўніцтва ў жыццё. Падпалкоўнік ездзіў у Кітай, праводзіў перамовы з мясцовымі калегамі, здольнымі вырабляць цвёрды порах і ракеты. І хоць Дундару робіцца сумна ад таго, што гэтага пакуль нельга вырабіць у Беларусі, ён падглядае, падслухвае, запісвае ўсё за кітайцамі. Ён нават мову кітайскую вывучыў, толькі партнёрам нічога пра гэта не кажа. Але асаблівы кайф Дундар — сядзець на палігоне і выпрабоўваць зброю, калі ў нямой палескай цішы ранкам гучаць выбух. Бух-бах! Кажуць, што ў такія моманты Дундар адчувае абсалютнае шчасце. Адзінае, ён трошку засмучаны тым, што сістэмы агню назвалі «Паланэзамі», ён жа прапаноўваў назваць «Перунамі», але начальства варыянт забракавала.

### Лада

Гэтыя дурні сапраўды мяркуюць, што падкат у стылі «хмурыццаненадалада» вельмі арыгінальны і нечаканы, і, вядома ж, нікому да іх у галаву не прыходзіла знаёміцца з ёй менавіта такім спосабам. Штодня яе прыват у фэйсбуку і кантакце, дырэкт у інстаграме поўніцца прывітаннямі і прапановамі заняцца сэксам на самых розных мовах свету. Ад рускай да турэцкай, ад англійскай да кітайскай. Адзін мілы бялявы хлопчык нават пісаў па-беларуску, ёй карцела адказаць яму, але не для гэтага яна зарабляла дзясяткі тысяч падпісчыкаў у сацыяльных сетках. Глядзець, але рукамі не чапаць — яе правіла. Інстаграм *Lada_spring* поўніцца здымкамі з адпачынку ў Дуброўніку і В'етнаме, выездамі на прыроду, смачнымі стравамі і падарункамі фанатаў. Гэта ж так проста — стаць папулярнай у сённяшнім свеце: каб табе прыносілі ахвяраванні ў выглядзе лайкаў і рэпостаў, трэба ўсяго толькі мець сімпатычны тварык і пругкі азадак. Яна з тых, каго называюць «фітаняшамі», увесь тыдзень не вылазіць са спартзалу, каб колькасць упадабанняў не змяншалася, каб шэрагі прыхільнікаў станавіліся шчыльнейшымі. Шчоўк — новая фатаграфія загружаная. Лайкі, рэпосты, ляціце сюды!

### Вялес

Усе нармальныя старшыні калгасаў пераселі даўно на «Аўдзі», «Фальксвагены» ці хаця б «Джылі», і толькі Сцяпан Аўласевіч працягвае ездзіць на задрыпаным «козліку», чорт бы яго пабраў. Унутры ўазіка ўвесь час смярдзіць саляркай, рукі Аўласевіча ўжо ніколі не адмыюцца ад гэтай самай салярkі і зямлі. Кожны вечар ён бярэ тупы нож, каб выкалупаць з-пад пазногцяў засохлы пясок, раз на тыдзень ходзіць у лазню, раз на месяц стрыжэцца ў жанчыны з суседняй вёскі, раз на тры месяцы спіць з ёй, а раз на год купляе сабе новы абутак. Аўласевіч нястомна гойсае па палях, сварыцца на мехдвары, абнадзейвае прэміяй цялятніц і прымушае не піць вартаўніка калгаснага саду. Ён нават крадзе зусім па дробязі. Чыста так, каб было на тытунь, супакойвае сябе Сцяпан. Але калгас усё адно адзін з самых адстаючых у адным з самых адстаючых раёнаў Беларусі. Халера на цябе, Шаркаўшчына! Калісьці Аўласевіч быў прыгожым і перспектыўным мужчынам, яго клікалі ў аддзел эканомікі райвыканкама. Хай будзе пракляты гэты дзень, калі ён адмовіўся. «Ведаеце, я хачу працаваць з зямлёй, з жывёламі», — наіўна адказаў. Працуй, Сцёпа, адказалі яму. Ладна, не час трындзець, хутка, кажуць, губернатар віцебскі у Шаркаўшчыну прыедзе, як бы паспець навесці парадкі?

### Мара

Лёс не ўзнагародзіў яе прыгажосцю. Мара зусім мініяцюрная жанчына, некаторыя нават могуць назваць яе карліцай. Хаця не, яна ўсё ж упісваецца ў мінімальны рост, які можа дазволіць сабе жанчына. Як бы гэта ні было па-свінску пісаць пра жаночыя недахопы, але ў яе малы нос, крывыя ногі і рэдкія валасы. Яна спрабавала запісвацца ва ўсе гэтыя салоны прыгажосці, рабіла карэкцыю броваў, загарала ў салярыі, хадзіла ў самыя модныя цырульні. І на пару дзён пасля ўсіх працэдур Мары нават здавалася, што яна становіцца прывабнай жанчынай. Толькі вось мужыкі ходзяць з ёй на спатканні не больш за адзін раз. Ёй сапраўды хочацца простага бабскага шчасця, але кожны раз жанчына разумее, што ніколі не здабудзе яго. Не, Мара не плача. У яе крэпкая псіхіка і моцныя рукі, інакш бы яна не прайшла ўсе гэтыя тэсты і выпрабаванні. Яна баіцца, што еўрапейцы ўрэшце цалкам пазбавяць яе работы, якой і так штогод становіцца ўсё меней і меней. У Мары рэдкая, можна сказаць унікальная, прафесія — яна прыводзіць у выкананне смяротныя прысуды.

### Ох

Ох, прасіце ў нас любую прыбаўку да заробку! Ведаеце, нашы наведвальнікі проста шалеюць ад вас. Ох, з якога ж стагоддзя вы з'явіліся і чаму так нядаўна толькі ўладкаваліся да нас на працу? Вашы старасвецкія манеры, ваша паслужлівасць, майстэрства падабраць адпаведную чалавеку страву. Ох, такіх афіцыянтаў у нас проста яшчэ не было. Мне здаецца, што людзі да нас ходзяць толькі для таго, каб паразмаўляць з вамі. Ох, а як жа вы ўмееце падтрымаць размову! Гэта ж шыкоўна! Ох, адкуль вы толькі ведаеце і пра каву «копі лювак», і пра грамадзянскую вайну ў Іспаніі? Вы ж проста нейкая энцыклапедыя. Ох, а як арыстакратычна вы разліваеце віно ў іхнія келіхі! Дзе вы навучыліся гэтаму майстэрству? Ох, лепей маўчыце-маўчыце, не парушайце гэтай таямніцы. І няма чалавека ў цэлым рэстаране, якому б вы не ўслужылі, не дапамаглі. Ох, дзякуй за той рэцэпт мужчынскай сілы, які вы мне параілі. Мая жонка задаволеная мной як ніколі. Ох, вашымі кліентамі ёсць і будуць міністры, дыпламаты, алігархі, чэмпіёны, кожны хоча, каб з імі працавалі менавіта вы. Толькі, калі ласка, нікуды не сыходзьце ад нас. Ох, замены вам мы не знойдзем ніколі...

### Жыжаль

Пяць гадоў у Навінках Пятра Жыжу пічкалі псіхатропамі. Ён падпаліў тры вёскі ў Аршанскім раёне, яму казалі, што абгарэлі пяць ці шэсць чалавек. На шчасце, жывымі засталіся ўсе. Жыжу спачатку завезлі ў ізалятар часовага ўтрымання, дзе білі тры дні і чатыры ночы. Калі сілаў біць у следчых і міліцыянераў ужо не засталося, то яго адправілі на псіхіятрычную экспертызу. У бальніцы яго таксама спрабавалі біць. Галоўны доктар Аршанскага псіхдыспансера Аркадзь Міхайлавіч Пузікаў так і не адважыўся паставіць дыягназ, перакінуў усё на Мінск. У Навінках дактары смялейшыя — шызафрэнія, піраманія. Жыжу так накачалі рознымі таблеткамі, што ён амаль нічога не памятае пра той час. Не, агонь Пятру падабаецца па-сёння. Час ад часу ён сядзіць на начным дзяжурстве і пстрыкае запальнічкай. Раз, два... Трэці раз ужо баіцца, бо раптам за ім нехта назірае. Па выхадзе з клінікі Жыжу ўзялі вартаўніком у блінную. Грошай асаблівых не зарабляе, затое пры справе. Сапраўдных печак тут няма — толькі электрычныя. А да іх Жыжа абыякавы. Полымя ж ёсць толькі намаляваным на фасадзе будынка.

**Зміцер Панкавец**

---

Працяг са старонкі 20.

Зыходныя пазіцыі нашага беларускага маўлення — гэта зацвярдзелацсь шыпячых гукаў. І калі я чую вось такія выпадкі, то гэта, хутчэй, нагода для роздуму і трывогі. Калі ж чалавек варыянтна ўжывае асіміляцыйную мяккасць, гэта нашу сістэму мовы не разбурае.

Мы пра нашу працу гаварыць можам доўга, бо мы яе любім. Гэта, можа, адна з самых галоўных умоў таго, што ў выніку нешта атрымліваецца. Камусьці гэта даспадобы, хтосьці знаходзіць нейкія заганы. І гэта таксама натуральна.

Немагчыма выдаць першы ў беларускім мовазнаўстве даведнік такога тыпу і зрабіць так, каб ён быў абсалютна ўсім даспадобы, каб ён быў ідэальным. Але мы стварылі прэцэдэнт. Мы стварылі тую працу, якую далей можна ўдасканальваць. Мы будзем толькі рады, калі будуць абгрунтаваныя заўвагі і пытанні.

Валянціна Русак: Што новае фарміруецца — гэта, я думаю, аўдыторыя зацікаўленых падрыхтаваных разумных людзей, якія валодаюць не адной мовай, людзей, якія ведаюць месца беларускай мовы не толькі ў славянскай прасторы, але і значна шырэй.

Памятаю, як першы раз зайшла ў Лабараторыю распазнавання і сінтэзу маўлення. Там усе размаўляюць на беларускай мове! Я адразу зразумела, што гэта тая аўдыторыя, тая моладзь, якая будзе прадстаўляць нашу мову ў свеце.

І не памылілася. Францыя, Англія, Іспанія захопленыя працамі беларускіх праграмістаўлінгвістаў. Аддзел даволі вялікі, там працуюць 20 чалавек. Усе высокаадукаваныя людзі, зацікаўленыя ў беларускай мове і ў тым, каб рабіць усё дзеля папулярызацыі яе ў свеце.

**Настасся Роўда, фота аўтара**



**Доктар філалагічных навук Валянціна Русак, кандыдат філалагічных навук Вераніка Мандзік і магістр фізіка-матэматычных навук Станіслаў Лысы.**

# Нататкі шматдзетнага таткі

*Павел Холад працуе ў беларускім офісе Міжнароднай арганізацыі па міграцыі. У вольны час займаецца баявымі адзінаборствамі і гуляе ў футбол. Але што вызначае ягонае жыццё, дык гэта дзеці: у Паўла іх пяць. Старэйшаму, Арсеню, — 14 гадоў, Марце — 12, блізняткам Полі і Веры — 7, яны ідуць у школу. Найменшанькай, Ксені, усяго тры месяцы.*

*Свае вясёлыя назіранні за дзецьмі і іх выказванні ён запісвае ў выглядзе фэйсбук-дзённіка.*

*У «Акадэмкнізе» можна купіць ягоную кнігу «Записки многодетного отца». А мы прапануем вам нізку ягоных новых запісаў.*



**2 чэрвеня**

Афармляў сёння раніцай трох дачок у школу: двайнятак — у першы клас, старэйшую — у сёмы. У прыёмнай камісіі сакратар запісвала дадзеныя. Я спачатку назваў дадзеныя Веры. Яна запісала. Потым сказаў, што ў нас у першы клас ідзе яшчэ і Поля. Яна здзівілася, але запісала. А я ўсё ніяк не сыходзіў і сказаў, што яшчэ ў сёмы клас іх школы паступае Марта.

Тут яна не вытрымала і сказала ці то з захапленнем, ці то з жахам:

— Дык гэта ў вас што, трое дзяцей? Я тады запісваю ў журнал, што ў вас у сям'і выхоўваецца трое дзяцей, правільна?

Убачыўшы, якое ўражанне гэта на яе зрабіла, я не адважыўся сказаць, што ўсяго ж дзяцей у нас пяцёра. Таму толькі кіўнуў, і ў журнале рэгістрацыі насупраць майго прозвішча з'явіўся надпіс: трое дзяцей. І клічнік.

З другога боку, я ж яе не абдурыў: трое дзяцей у нас сапраўды ёсць. А тое, што ёсць яшчэ двое, дык жа яна пра іх не пыталася...

* * *

Збіраюся на трэніроўку (адпачынак у мяне, калі што). Старэйшая дачка:

— Акуратней, тата, не зламай там нос.

На ўсякае ўсё ўдакладняю:

— Сабе ці іншым?

Падумала і кажа:

— Ну хоць бы сабе.

Правільна, пра іншых няхай іх дочкі дбаюць.

**5 чэрвеня**

Пасля тыднёвага адпачынку па сістэме «ўсё ўключана» (правёў яго дома, у Каменнай Горцы) выйшаў на працу і тут жа сутыкнуўся з дзяжурным пытаннем: «Як адпачыў?». Я мог бы ў падрабязнасцях распавесці пра тое, як адпачывае чалавек, у якога ў сям'і пяцёра дзяцей, але лепш адкажу адным ёмістым словам: «Весела». Зараз буду збіраць сілы для наступнага адпачынку.

P.S. Хачу неяк паспрабаваць ўзяць тыдні паўтара-два, але пакуль адчуваю — маральна не гатовы.

**5 чэрвеня**

Двайняткі прыбеглі засмучаныя:

— Нам так шкада нашу сяброўку!

— А што з ёй?

— У яе дагэтуль няма ніводнага светлавога бонсціка.

Рыдаем разам.

* * *

Чарговы раз канфіскаваў у сына ўсе яго гаджэты. Ён традыцыйна панаракаў, але на ўсё ягонае нараканне я сказаў:

— Нічога, у нас у дзяцінстве гаджэтаў не было — і ніхто не памёр.

Ён падумаў-падумаў, і кажа:

— Затое ў вас быў Савецкі Саюз!

Дарэчы, так. Мала таго, што ў нас не было гаджэтаў, дык у нас яшчэ і Савецкі Саюз быў.

Увогуле, выгнаў яго на вуліцу гуляць у футбол — каб усё як у Савецкім Саюзе.

**6 чэрвеня**

Малодшыя дзеці прынеслі некалькі манет і сказалі:

— Тата, а гэта ў нас шмат грошыкаў?

— Калі шчыра, не вельмі. Усяго дзесяць капеек.

— А можаш нам дадаць, каб стаў рубель? А то мы збіраем на марозіва.

— Магу, вядома.

Жонка:

— Вы лепш раскажыце тату, як даўно вы збіраеце. Толькі што папрасілі ў мяне дзесяць капеек, а цяпер просяць крыху дадаць да рубля.

P.S. Па-мойму, за вынаходлівасць можна і дадаць. Хоць гэта і стварае небяспечны прэцэдэнт.

* * *

Поля:

— Калі я была маленькай, я хацела стаць ветэрынарам.

— А цяпер?

— Цяпер не хачу.

— Чаму?

— А раптам мне кракадзіла прывязуць лячыцца?

P.S. Лагічна.

* * *

Пытаюся сына:

— Ты ведаеш, хто такі Улад Бумага?

— Не, хто гэта?

— Моладзевы блогер, сабраў у краме натоўп — тры тысячы чалавек.

Наступнае пытанне сына мяне забіла:

— А як адрэагавалі спецслужбы на такі збор народу?

Гэта значыць, хто такі Улад Бумага, ён не ведае, затое аб дзейнасці спецслужбаў дасведчаны. Трэба быць асцярожнейшым з ім.

P.S. А на яго пытанне я адказаў, што спецслужбы ніяк на гэта не адрэагавалі, бо яны таксама не ведалі, хто такі Улад Бумага.

**10 чэрвеня**

Часта людзі, азіраючыся на ўласнае жыццё, схільныя шкадаваць пра тое, што зрабілі або чаго не зрабілі. Сёлета, напярэдадні саракагоддзя, я таксама часцяком задумваюся над тым, як пражыў усе гэтыя гады, як бы падводжу прамежкавыя вынікі.

І прыходжу да высновы, што не хацеў бы змяніць у сваім жыцці — ні ў мінулым, ні ў цяперашнім — нічагуткі. І каб была ў мяне магчымасць пражыць гэтыя сорак гадоў нанова, я б хацеў пражыць іх менавіта так, як пражыў, і стаць тым, кім стаў (ці не стаў).

Там, наверсе, магчыма, вядуць свой улік нашага жыцця, але пра гэта мы, калі і даведаемся, то крыху пазней. Адзінае, пра што я шкадую, дык гэта пра тое, што ў свой час дазволіў угаварыць сябе купіць ката. Гэта сапраўды было дарма. З другога боку, бачачы, як яго любяць мучыць дзеці, я думаю, што нават гэты момант у маім жыцці мае свой сэнс.

* * *

Сядзім на прысядзібным участку, дзеці корпаюцца ў зямлі. Пытаюся ў іх:

— Дзеці, што вы там усё капаеце?

— Мы хаваем камара.

— Якога камара?

— Якога Вера забіла.

— А хаваеце нашто?

— Дык ён жа памёр.

Гэта была рубрыка «Гарадскія дзеці выехалі на прыроду».

**11 чэрвеня**

Сёння самаму малодшаму члену нашай сям'і споўнілася два месяцы. З гэтай нагоды кажу жонцы:

— Уяўляеш, калі Ксеніі споўніцца дваццаць гадоў, мне ўжо будзе, страшна сказаць, шэсцьдзясят.

Жонка, як звычайна, вырашыла мяне падбадзёрыць:

— Не шэсцьдзясят, а пяцьдзясят дзевяць.

Пералічыў, і сапраўды — пяцьдзясят дзевяць з паловай. Быццам бы дробязь, а настрой адразу палепшаў. Засталося малое — дажыць.

P.S. Хоць прыспешваць падзеі не будзем — два месяцы таксама выдатны ўзрост.

**13 чэрвеня**

Прагуляўся ўвечары па Кіеве, пазаходзіў у мясцовыя кнігарні (у цэнтры яны працуюць да 22:00). Уразіла вялікая колькасць літаратуры на ўкраінскай мове: акрамя кніг уласна ўкраінскіх аўтараў, ёсць практычна ўсе сусветныя бестселеры, а таксама кнігі многіх вядомых расійскіх аўтараў на ўкраінскай мове.

Прычым усе — за рэдкім выняткам — у выдатнай вокладцы, выдадзеныя, натуральна, ва Украіне. Гэта значыць, што на іх ёсць устойлівы попыт (тое, што попытам не карыстаецца, тут не прадаюць). Нават трохі пазайздросціў, калі шчыра. Чаго ў нашых суседзяў не адняць, дык гэта павагі да ўласнай культуры.

Хацеў купіць сабе якуюнебудзь кніжку на ўкраінскай мове, але пагартаў і зразумеў: спачатку трэба падцягнуць маю ўкраінскую. Ці хаця б беларускую.

**14 чэрвеня**

Сын з таварышам выгульвалі ў Заслаўі сабаку (нямецкую аўчарку). Непадалёк мірна пасвіўся конь. У нейкі момант ён перастаў пасвіцца і пабег на дзяцей. Дзеці спалохаліся, выпусцілі з рук ланцужок і пабеглі разам з сабакам у розныя бакі.

Конь па чарзе пранёсся ля кожнага, уключаючы сабаку, ткнуў сына мордай, а потым спыніўся і зноў стаў жаваць траву. Дзеці апамяталіся (таварыша сына конь амаль загнаў у вадаём) і пабеглі да моста. Конь убачыў, што яны пабеглі, перастаў жаваць траву і пагнаўся за імі.

Дзеці паспелі забегчы на мост, пасля чаго конь раптам развярнуўся і пабег на мужыка, які праходзіў побач. Апошняе, што паспелі ўбачыць дзеці, перш чым конь прапаў з вачэй, — гэта мужык, які бег па мосце, і конь, які гоніцца за ім.

Вось такі ёсць у Заслаўі вясёлы конь, прыязджайце.

**15 чэрвеня**

Ранішні дыялог у «Макдональдсе»:

— Адзін фрэш макмафін, калі ласка.

— У нас цяпер акцыя: да кожнага фрэш сэндвіча — каву ў падарунак.

— Не, дзякуй, кава не трэба.

— Дык гэта ж бясплатна!

Давялося тлумачыць, што я нават бясплатна кавы не п'ю.

**17 чэрвеня**

Старэйшая дачка ўбачыла, як байкер едзе па трасе на адным коле:

— Вау, крута!

Я:

— Можа, мне сабе таксама байк купіць?

Дачка:

— Які байк?! У цябе пяцёра дзяцей, жонка і кошка!

(Ага, асабліва кошка — моцны аргумент.)

А па-мойму, наадварот: самы час купіць байк.

* * *

Разгаварыліся з кіроўцам таксі «Убер»: інтэлігентны чалавек, чырвоны дыплом інжынера, усё жыццё адпрацаваў на МАЗе. Цяпер шчаслівы, што працуе ў «Уберы», кажа з гонарам: «Займаюся любімай справай, сам сабе гаспадар» (працуе на сваім аўто). І па ім сапраўды відаць, што чалавек атрымлівае асалоду ад работы.

Спытаўся ў яго: а як жа МАЗ? Сказаў, што з жахам успамінае працу на МАЗе ў апошні час: людзей пастаянна скарачалі, але працы менш не станавілася — яе проста перакладалі на тых, каго яшчэ не скарацілі. Плацілі, натуральна, капейкі, а тут ён за месяц зарабіў паўтары тысячы ($750).

А чалавек жа яўна таленавіты. Я ўпэўнены, што выдатны інжынер і сумленны працаўнік. Але круціць баранку і зззяе ад шчасця. За яго, вядома, можна толькі парадавацца, а вось грамадства, думаю, ад гэтага толькі страціла.

### 23 чэрвеня

Падарылі двайняткам на дзень нараджэння тэлефоны і навушнікі. Яны ўключылі музыку: ходзяць, слухаюць. Потым Поля прыходзіць:

— Тата, а чаму ў слухаўках музыку чуваць горш, чым без слухавак?

Адказваю пытаннем на пытанне:

— А ты штэкер ад навушнікаў у тэлефон устаўляць не спрабавала?

І, галоўнае, ходзіць такая, слухае, і ўсе ў кватэры слухаюць разам з ёй.

P.S. Сучасныя дзеці прывыклі да бесправадных дэвайсаў, драты іх бянтэжаць.

### 24 чэрвеня

Дзеці слухаюць на камп'ютары казку. Да мяне даносяцца слова добрага казачніка: «І тут з'яўляецца страшны монстр з гаджэта».

Старэйшая дачка тут жа тлумачыць малодшым:

— Гаджэты — гэта тое самае, што дэвайсы.

Малодшыя з разуменнем ківаюць.

А я думаю пра тое, што калі-небудзь з гаджэтаў і сапраўды пачнуць вылазіць монстры. І нашых унукаў гэта ніколькі не здзівіць.

### 26 чэрвеня

Разумны чалавек не той, хто пра ўсё мае сваё меркаванне, а той, хто не баіцца сказаць: «Прабачце, я ў гэтым не разбіраюся». Той жа, хто пра ўсё мае меркаванне, як правіла, не разбіраецца ні ў чым.

* * *

З тых часоў, як я стаў перыядычна бываць у краінах Еўрасаюза (г.зн. з канца 90-х), мяне не пераставала здзіўляць адна рэч. Рэч у тым, што я вельмі люблю, будучы па той бок заслоны, харчавацца ў тамтэйшых турэцкіх закусачных, у якіх прадаюць розныя віды кебабаў (у нас у Беларусі таксама такія ёсць).

Вось жа, наколькі смачныя гэтыя самыя кебабы ў Еўропе — прычым не важна дзе: ад Польшчы да Партугаліі (а быў я амаль ва ўсіх краінах ЕС), — настолькі яны няясмачныя ў нас. А тыя, што прадаюцца на нашых рынках, дык і зусім неядомыя.

У Еўропе табе пакладуць добрую порцыю мяса, прапануюць выбраць любую салату з наяўных і дапоўняць гэтую справу выдатнай падліўкай. У нас жа і мяса пакладуць з камароў нос (калі наогул пакладуць), салата будзе складацца выключна з капусты, а соус будзе камбінацыяй трох складнікаў: кетчуп-гарчыца-маянэз. І пры гэтым кошт дадзенага сумнеўнага задавальнення будзе супастаўны з еўрапейскім «аналагам».

Не магу зразумець: у чым прычына такога адрознення? Няўжо ў нас не могуць нармальна вырабіць такі, на першы погляд, немудрагелісты прадукт, як кебаб?

Не тое каб мяне гэта моцна мучыла, проста кожны раз, калі я бываю ў Еўропе, заўсёды задаю сабе гэтае пытанне.

* * *

Размаўляем з двухмесячнай Ксеніяй, скарджуся ёй на жыццё:

— Уяўляеш, які ў цябе тата адсталы ад жыцця: я нават не ведаю, што такое стрым, фаловер і мімімі.

А яна мне:

—Не кажы абы-чаго, ты вельмі нават сучасны. Скажу табе па сакрэце: калі я вырасту, ніякіх фалавераў не будзе.

Я, здзіўлена:

— А што ж тады будзе?

— Гэтага я табе не магу сказаць. Па-першае, я яшчэ не ўмею гаварыць, а па-другое, ты ўсё роўна не зразумееш. Але адно ўсё ж такі скажу: людзі зноў пачнуць чытаць кнігі, хадзіць на канцэрты класічнай музыкі, зноў будуць размаўляць адзін з адным, а не са сваімі тэлефонамі.

— А футбол? Футбол будзе?

— Тата, давай я не буду цябе расстройваць, я ж ведаю, як ты любіш футбол. З часам ты сам усё даведаешся. І пра хакей, дарэчы, таксама.

— Апошняе пытанне можна?

— Давай.

— Бонсцікі?

— Тата, ты сам усё выдатна ведаеш. Ёсць рэчы, якія не залежаць ад часу.

І на гэтых словах яна адвярнулася і заснула сном немаўляці. А я сяджу і не веру сваім вушам: няўжо і сапраўды фалавераў не будзе?

### 27 чэрвеня

Стаю каля пошты, чакаю чалавека. Побач чакае гаспадара невялікі чорны сабачка, наколькі я магу меркаваць, тэр'ер. І вось так мы з ім абодва стаім і чакаем, пераступаючы з нагі на нагу і з лапы на лапу.

У нейкі момант сабачку чакаць надакучае, ён хапае з зямлі каштан і прыносіць да мяне. Я гляджу на каштан, на сабачку і працягваю чакаць.

Тады сабачка ўцякае, прыносіць да маіх ног вялікую хваёвую шышку і чакальна глядзіць мне ў вочы. Тут я разумею, што гэта, мабыць, нездарма, і спрабую зразумець, чаго ён ад мяне хоча. Сабачка тым часам цярпліва чакае. Не прыдумаўшы нічога лепшага, я проста адфутбольваю шышку ўбок.

Сабачка радасна падскоквае, бяжыць па шышку і зноў прыносіць яе да мяне. Я зноў яе адфутбольваю — ужо ў другі бок (павінен сказаць, з сабачкі выйшаў бы выдатны варатар. Для зборнай Беларусі, мабыць, занадта добры).

Увогуле, дзякуючы кемлівасці сабачкі, час нашага дзесяцiхвілiннага чакання праляцеў незаўважна. І, развітваючыся з ім, я падумаў, што гэта яшчэ пытанне, хто з нас больш разумнае стварэнне.

P.S. Дапушчу, што для сабачкі адказ на гэтае пытанне больш чым відавочны.

### 28 чэрвеня

Не такі страшны парад, як яго рэпетыцыі.

### 29 чэрвеня

На пашпартным кантролі ў менскім аэрапорце памежніца традыцыйна глядзіць на штампы, якія не адносяцца да паездкі, а менавіта аб шлюбе і колькасці дзяцей.

Паглядзеўшы дадзеныя старонкі, робіць здзіўлены твар і пачынае гартаць іх нанова. Потым, мабыць не верачы сваім вачам, пытаецца:

— Пяцёра?

Па-дурному ўсміхаюся і ківаю ў адказ. Яна спачувальна:

— І як вы імі даяце рады?

Па яе поглядзе я зразумеў, што яна б мяне выпусціла з краіны і без шэнгенскай візы, проста з жаночай спагады. Але віза ў мяне, на жаль, ёсць.

### 1 ліпеня

Стаю на касе ў браслаўскім «Еўраопце», перада мной мужчына і жанчына прыкладна маіх гадоў. Чакаю, пакуль касірка праб'е іх набыткі (прадуктаў па мясцовых мерках яны набралі прыстойна).

Калі касірка называе суму, жанчына кажа:

— А бонсцікі?

Касірка:

— Бонсцікаў мы ўжо не даём.

— Як не даяце?

— Акцыя з бонсцікамі скончылася, зараз іх можна толькі купіць за грошы.

Пакуль жанчына прыходзіць у сябе ад шоку, яе спадарожнік змрочна падсумоўвае дадзены эпізод:

— Ну і на храна мы столькі набралі?

* * *

Ідзём з двайняткамі па полі, з-за лесу насоўваецца хмара. Кажу ім:

— Давайце дадамо крок, у навальніцу ў полі небяспечна знаходзіцца.

— Чаму?

— Можа ўдарыць маланка.

— У нас?

— Яна звычайна б'е ў самае высокае месца.

Поля, паглядзеўшы на мяне:

— Не хвалюйся, тата, мы з Верай не вельмі высокія.

Каб я зусім не хваляваўся, засталося адпусціць маю руку і адысці на бяспечную адлегласць.

P.S. Гэта была рубрыка «Як я працаваў громаадводам».

### 2 ліпеня

У дзяцінстве нам марочылі галаву камунізмам, цяпер выносяць мозг ліберальнай прапагандай. Не хочуць, сволачы, каб людзі думалі сваёй галавой. Канечне трэба іх чымсьці замбаваць, штосьці навязваць, з чым яны не згодныя.

Хутка чалавека, які адважыцца заявіць, што шлюб — гэта саюз мужчыны і жанчыны, самыя талерантныя ў свеце грамадзяне назавуць цемрашалам і фашыстам, і добра, калі не спаляць. Тое самае тычыцца любой іншай прапаганды: рэлігійнай, патрыятычнай, нацыяналістычнай і астатняй.

Міжволі прыходжу да высновы, што любая прапаганда па змоўчанні ёсць зло, бо адвучвае людзей думаць уласнай галавой, забівае ім мозг тупымі кліша.

### 3 ліпеня

Размова за сняданкам. Старэйшая дачка:

— Мама, ты мне вадою нагу абліла.

— ...

— Мама, ты што, не чуеш? Ты мне вадою нагу абліла.

— ...

Дачка пакрыўджана:

— Увогуле, магла б і папрасіць прабачэння...

— Прабач, калі ласка.

— Нічога страшнага, мамачка.

У эфіры была рубрыка «Жаночыя дыялогі»

* * *

Апошнім часам усё часцей успамінаю анекдот.

Прыляцеў іншапланетнік на Зямлю ўносіць зямлян у спіс разумных цывілізацый. Праінспектаваў жыццё на Зямлі і пытаецца:

— А чаму ў вас столькі бедных?

— Грошай няма ўсім дапамагчы.

— А хворых чаму столькі?

— Не хапае грошай, каб усіх вылечыць.

— А чаму ў вас столькі войнаў і злачынстваў?

— З-за грошай.

Іншапланетнік:

— А што гэта за такі рэсурс — грошы? Можа, вам яго прывезці з іншых планет? Дзе вы наогул яго бераце?

— Самі друкуем.

І выкрасліў іншапланетнік зямлян са спісу разумных цывілізацый.

### 9 ліпеня

Шпацыруем па вёсцы, непадалёк пасвіцца бык.

Вера:

— А калі бык нападзе на чалавека, чалавек можа здохнуць?

— Верачка, пра чалавека не кажуць «здохнуць».

— А як кажуць?

— Ну, напрыклад, памерці або загінуць.

Вера ў жаху:

— Мне такія словы нават вымавіць страшна!

Вядома, страшна. «Здохнуць» значна прыемней гучыць.

### 11 ліпеня

Малодшыя:

— Тата, а адкуль бяруцца грошы?

— З чароўнай скрыні.

— З якой яшчэ скрыні?

— Хадзем пакажу.

Падыходзім да найбліжэйшага банкамата. Непрыкметна ўстаўляю картку, уводжу код і кажу:

— А ну ж, чароўная скрыня, выдай нам сто рублёў на кішэнныя выдаткі.

Скрыня пачынае шумець (тыпу думае) і выдае пачак дробных купюр.

Я, прадчуваючы трыумф:

— Ну як?

Вера:

— Тата, мы цябе спыталі, адкуль бяруцца грошы, а ты прывёў нас да звычайнага банкамата.

### 12 ліпеня

Дзеці як што-небудзь спытаюць! Поля:

— А як называецца дзіця марскога каньа?

Ну хрэн яго ведае, як яно называецца, неяк ніколі пра гэта не думаў. Уключыў уяўленне і сказаў: «Марское жарабя» (па-мойму, гэта лагічна).

Яна пайшла і паведаміла пра гэтае адкрыццё астатнім. Так што цяпер, калі вашы дзеці зададуць вам аналагічнае пытанне, адказ вы ведаеце.

### 13 ліпеня

Едзем у машыне. Поля спалохана:

— Ай, у нас тут сляпень!

Вера спакойна:

— Не бойся, я яго забіла.

Праз пяць секунд Поля:

— Ён усё роўна паўзе!

Вера:

— Усё, я яго зноў забіла.

### 17 ліпеня

Шпацыраваў на двары з дзецьмі, на футбольнай пляцоўцы старэйшыя хлопчыкі і дзяўчынкі, уключаючы майго сына, гулялі ў квадрат.

Пытаюся сына:

— А ў футбол чаго не гуляеце?

— Ніхто не хоча.

— Чаму?

(Зацаніце адказ.)

— Бо пасля футбола ранкам ногі баляць.

Чамусьці ўспомніў стары жарт:

— Колькі вам гадоў, дзядуля?

— Дваццаць сем.

Каб мы не гулялі ў футбол таму, што ногі потым баляць, такое нават уявіць сабе немагчыма. Хоць калі гуляць раз на год, а астатні час тырчэць у смартфоне, тады, вядома, будуць баліць.

P.S. Лепш бы ў іх рукі ад смартфонаў балелі.

### 19 ліпеня

Дачка:

— Тата, а за зборную Беларусі па футболе і па хакеі гуляюць адны і тыя ж людзі?

### 20 ліпеня

Старэйшая дачка шуміць на кухні міксерам. Пытаюся ў яе:

— Што ты там такое робіш?

— Пахудальны кактэйль.

— Каля адзінаццатай ночы?

— Проста есці захацелася.

Чым добры пахудальны кактэйль, дык гэта тым, што яго можна піць у любы час дня і ночы і пры гэтым усё роўна худнець.

### 22 ліпеня

Стывен Хокінг заявіў, што праз трыццаць гадоў чалавецтву трэба пачынаць міграваць з Зямлі. Як прадстаўнік Міжнароднай арганізацыі па міграцыі, цалкам падтрымліваю прапанову вялікага астрафізіка. Засталося высветліць два моманты: 1) куды? і 2) за чый кошт? Бо міграваць у нікуды і прытым не маючы для гэтага сродкаў, занадта рызыкоўна.

* * *

Меншыя:

— Тата, а ў вас у дзяцінстве спінеры былі?

— Не.

— А бонсцікі?

— Таксама не.

— А тэлефоны?

— Толькі дамашнія.

— Такія, як наш?

— Не зусім. У яго трубка была прывязаная да базы і не было кнопак.

— Як цяпер у сотавых?

— Не, там быў дыск, і яго круцілі.

— Гэта як?

— У дыску былі дзірачкі з лічбамі. Ты выбіраў патрэбную лічбу, устаўляў палец у дзірку і круціў дыск. І так шэсць разоў, пакуль не набіраў увесь нумар.

Пакуль распавядаў, сам ледзь не заплакаў слязьмі.

Але дзеці, падобна, вырашылі, што тата іх, як звычайна, разыгрывае. Бо, каб круціўся тэлефонны дыск з лічбамі, — гэта ж значна круцей, чым спінеры, і ў тым далёкім мінулым, калі тата быў маленькім, іх быць папросту не магло.

У нас у дзяцінстве наогул было шмат такіх дзіўных штук, якія сучасным дзецям нават не сніліся. Таму пра іх нават распавядаць не варта — усё адно не павераць.

Гэта была рубрыка «Мы з будучыні».




**Кнігу Паўла Холада можна купіць у «Акадэмкнізе».**



**Цяжка паверыць, што на здымках вядомага фотамастака Віктара Малышчыца — беларуская капліца: настолькі нерэальна яна выглядае. Стаіць капліца проста пасярод лесу ля амаль нежывой вёскі Дубок недалёка ад берага Віліі. Гэта ў Астравецкім раёне.**

СССР, 1956 год, Свердловск. Борис Ельцин, предвидя свою фатальную ошибку с преемником, посылает в будущее молодого себя, чтобы её исправить



**Падабенства фотак расійскага апазіцыйнага палітыка Аляксея Навальнага і маладога Барыса Ельцына выклікала жарты ў сацсетках.**




**Брамнік «Крумкачоў» забіў гол праз усё поле. Матч чэмпіянату Беларусі «Віцебск» — «Крумкачы» скончыўся з лікам 2:2. Цалкам магчыма, што гэта агонія «Крумкачоў» — некалькі футбалістаў каманды адмовіліся ехаць на матч праз затрымкі заробку. Аднак галоўным упрыгожаннем матча стаў гол, які забіў брамнік «Крумкачоў» Яўген Касцюкевіч ударам ад сваёй штрафной.**



**Раніцай 6 ліпеня не стала грамадскай актывісткі, сябра аргкамітэта гісторыка-культурніцкага аб'яднання «Вяртанне памяці» Вікторыі Ткачук. Яна памерла ў 39 гадоў ад раку.**



**У Заслаўі на запраўцы паставілі помнік князю Ізяславу, заснавальніку горада. Праўда, ён пражыў усяго 21 год і памёр маладым, а на скульптуры ён — дзед-барадзед. Ну нічога, хоць які...**



## Анекдоты і жарты

Прыязджае Дэйв Гаан у мінскую бальніцу, а там дзяжурны доктар яму строга так кажа праз перакладчыка: «А флюараграфія? Флюараграфія зроблена?»

* * *

Пытанне Ашмянскаму радыё: ці магчымы беспілотныя аўтамабілі ў краіне з ручным кіраваннем?

* * *

— Што такое кемпінг?

— Гэта месца, дзе прыйдзецца заплаціць даволі прыстойныя грошы за тое, каб пажыць як бомж.

* * *

— За што вы ненавідзіце інтэрнэт?

— За тое, што вечна бульба на патэльні падгарае, выкіпаюць пельмені і астывае гарбата!

* * *

Каб паказаць, хто ў доме гаспадар, Міхась тры гадзіны тыкаў ката носам у дакументы на кватэру.

* * *

Сын, пяць гадоў:

— Горла баліць, бо ў ім шкодныя мікробы. Калі я ем марозіва — яны ж замярзаюць!

## «НН» 111 гадоў з вамі

**Усё нашае мястэчка Варняны** з зямлёй і дамамі належыць да пана Х., каторы не дае выкупляць ні зямлі, ні дамоў. Чынш за гэта вялікі трэба плаціць, і Варняны не могуць ні багацець, ні развівацца. Усе жывуць як цыганы ў табары, ніхто не будуецца.

**«НН», №24. 1907**

**Аляксандр Лукашэнка:** «Я на калені перад Расеяй не стану». «Упершыню я дазваляю сабе гучна пра гэта сказаць: Расея хоча прыватызаваць не толькі асобныя прадпрыемствы, нават бясплатна іх прыхваціць. Яны хацелі б прыватызаваць усю краіну», — сказаў кіраўнік Беларусі. Лукашэнка заявіў, што «апошні візіт прэм'ер-міністра Беларусі ў Маскву быў прыніжэннем». «Я сказаў, каб ён туды больш не ездзіў». Кіраўнік Беларусі адзначыў: «Мне таксама намякалі, што трэба ехаць у Крэмль і пасці на калена. Я не паеду і на калена не ўстану».

Лукашэнка патлумачыў, што «Беларусь агаляе рэзервы, але нашы добрыя сябры, у прыватнасці Уга Чавэс, заявілі, што дадуць крэдыт на выгадных нам умовах, і заходнія банкі таксама гатовыя прадаставіць рэсурсы».

**«НН», 2 жніўня 2007**

**Наша Ніва**

незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

в. а. галоўнага рэдактара — Ягор Аляксандравіч Марціновіч
шэф-рэдактар — Андрэй Дынько
намеснікі галоўнага рэдактара — Андрэй Скурко, Зміцер Панкавец
сакратарка рэдакцыі — Таццяна Кур'ян
заснавальнік — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 327-42-13, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**

 Спасылка на «Нашу Ніву» абавязковая. 8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 5001. Газета выдаецца 12 разоў на год.

Нумар падпісаны ў друк 16.30 01.08.2017.

Замова №2974.

Рэдакцыйны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а.

Цана дамоўная.

ISSN 1819-1614

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

